Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 43 (4689) 26 кастрычніка 2012 г.

## Думка пісьменніка

# Аўтографы…



Збіраць аўтографы нас, студэнтаў філфака Брэсцкага педінстытута, вучыў выкладчык, літаратуразнавец і пісьменнік Уладзімір Калеснік. Ён бачыў у нас педагогаў, якім даносіць да вучняў роднае слова, і лічыў: сустрэчы з вядомымі літаратарамі стануць добрай падмогай у будучай нашай працы. Па запрашэнні Уладзіміра Андрэевіча ў Брэсце пабываў не адзін дзясятак пісьменнікаў. Рыхтуючыся да абмеркавання, мы шукалі кнігі госця, каб узяць аўтограф. Даўно я пераканаўся, што пакінуты аўтограф — гэта не толькі памяць праз гады пра чалавека, але й часта — магчымасць удакладніць пэўную дату ці падзею.

Напрыклад, у маі 1964 года праводзілася свята "Брэсцкая вясна", на якім выступаў у тым ліку і Уладзімір Караткевіч. У васьмітомным Караткевічавым зборы твораў прыведзена храналогія жыцця і творчасці паэта. У ёй, у прыватнасці, пазначана, што Уладзімір Сямёнавіч на "Брэсцкай вясне" выступаў да 24 мая (інфармацыя ўзята з абласной газеты "Заря"). Мы ж дзякуючы аўтографам, што засталіся пасля свята, можам сказаць болей канкрэтна: выступленне адбылося 22 мая 1964 г.

У той жа год у кнізе пісьменніцкіх аўта-біяграфій "Пяцьдзясят чатыры дарогі" з'явіліся запісы Максіма Танка і Алеся Бачылы. Спаўнялася чвэрць стагоддзя з той пары, як заходнія беларускія і ўкраінскія землі былі далучаны да Савецкага Саюза, і 17 верасня 1964 года з гэтай нагоды ў Брэсцкім педінстытуце адбылася вечарына, калі да студэнтаў прыйшлі калектывы рэдакцый часопісаў "Полымя" і "Жовтень" ("Кастрычнік").

Пасля вучобы збіранне не спынілася, хаця і рабілася гэта не так інтэнсіўна. Шкада, што не ўсё захавалася: няма, скажам, Мележавага ды Брылёвага аўтографаў, згубіліся лісты ад Янкоўскага ды Пальчэўскага. Але тое, што засталося, складае больш як 120 аўтографаў. Гэта вершы, напісаныя рукой аўтараў, лісты, паштоўкі і, вядома, кнігі.

Раскажу яшчэ пра два аўтографы, якімі не так даўно папоўніўся мой архіў. Летась адзначаўся 100-гадовы юбілей Васіля Віткі. Пасля апублікавання ў "ЛіМе" эсэ "Мудрасць і шчодрасць душы" нечакана атрымаў бандэрольку ад Леаніда Левановіча. У ёй — раман "Палыновы вецер" і ўдзячнае пісьмо за памяць пра знакамітага і яго любімага пісьменніка. Заадно Леанід Кірэевіч згадваў, як у 1982 годзе з Хведарам Чэрнем ён прыязджаў у Жабінку, а я браў інтэрв'ю для мясцовай газеты "Сельская праўда".

У Год кнігі часопіс "Вясёлка" адзначаў сваё 55-годдзе. На свяце ўшаноўвалі і новых лаўрэатаў прэміі імя Васіля Віткі. Гэтым разам імі сталі Раіса Баравікова і я. У чарговай кнізе "Вясёлка", якая ўвабрала лепшыя творы, надрукаваныя ў часопісе за апошнія пяць гадоў, прачытаў цёплыя і патрэбныя словы, адрасаваныя мне Уладзімірам Ліпскім.

Час няспынны. Ён няўмольна забірае знаёмых людзей, але застаюцца яны ў нашай памяці, у радках, занатаваных у аўтографах.

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

# Зробленае — нам пакінутае



"Мінулае народа — гэта не толькі своеасаблівая непаўторныя помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры, вялікія збудаванні дойлідства, але перш за ўсё гісторыя вялікіх і малых падзей, летапіс яго слаўных і гераічных здзяйсненняў, памяць пра людзей, якія аддалі сваё жыццё дзеля справы ўслаўлення і ўзвелічэння роднай краіны. І не важна, у якой галіне працаваў чалавек, абы працаваў ён на карысць радзімы, не важна, якое месца ў жыцці грамадства ён займаў, важны грамадскі ідэал і накірунак яго дзейнасці".

**Серафім АНДРАЮК, фота з архіваў аўтара і Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа**

Гэтыя словы, сказаныя ў дачыненні да Адама Багдановіча, вядомага беларускага фалькларыста, этнографа і лінгвіста, бацькі нашага славутага паэта Максіма Багдановіча, самым непасрэдным чынам адносяцца і да іх аўтара — вучонага-літаратуразнаўцы, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі БССР, лаўрэата дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа Юльяна Сяргеевіча Пшыркова.

31 кастрычніка адзначаецца яго 100-гадовы юбілей. Гэтая слаў-ная дата дазваляе азірнуцца, яшчэ раз уважліва пагледзець на зробленае вучоным, нам пакінутае. Ды і праверанае ўжо часам.

Памёр Юльян Пшыркоў 23 снежня 1980 г. Прайшлі гады. Няпростыя для народа і краіны, няпростыя і для той сферы жыцця, у якой дзейнічаў вучоны і дзе ў найбольшай ступені выявіліся яго творчыя здольнасці і магчымасці. Час адсеяў усё другараднае, прыўнесенае не заўсёды спрыяльнымі ўмовамі, выявіў істотнае, непераходнае. І ўжо сёння, перачытваючы, пераглядаючы напісанае, узгадваючы былыя часы, ацэньваючы зробленае нястомным вучоным-працаўніком і настаўнікам-асветнікам, яшчэ раз пераконваешся, што, сапраўды, напісанае застаецца, а пасеянае дае ўраджай.

А напісанае — гэта кнігі "Якуб Колас: Жыццё і творчасць" (1951), "Трылогія Якуба Коласа «На ростанях»" (1956), "Беларуская савецкая проза (20-я — пачатак 30-х гадоў)" (1960), "А. Е. Богданович" (1966), "Эпас рэвалюцыі" (1975), "Летапісец свайго народа: Жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа" (1982); гэта таксама важныя раздзелы ў такіх калектыўных працах, як "Очерк истории белорусской советской литературы" (1954), "Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры" (1956), "Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры" (тт. 1 — 2, 1968 — 1969), "История белорусской дооктябрьской литературы" (1977). А яшчэ — 9 выданняў падручнікаў па беларускай літаратуры для сярэдняй школы, мноства публікацый у навуковых і літаратурных перыядычных выданнях.







Каб усвядоміць змест зробленага, адчуць дух яго, зразумець канкрэтна-гістарычную літаратурную каштоўнасць яго, неабходна ведаць, адкуль і як усё пачыналася. Бо і чалавека, і пісьменніка творыць час, той свет, у якім праходзіць жыццё яго.

А пачалося ўсё сто гадоў таму, у далёкім 1912 годзе. Бо якраз тады ў вёсцы Касцяні на Рагачоўшчыне і нарадзіўся будучы даследчык літаратуры. Пазней у аўтабіяграфіі ён напіша: "Мясцовасць наша прыгожая. Сяло стаіць на правым беразе Дняпра. Навокал такое хараство, што, здаецца, не адрываў бы вачэй". І тут жа: "Маленства прайшло неяк непрыкметна — вельмі рана давялося стаць дарослым. Цяжкія гады няспынных войнаў адганялі прыгожыя дзіцячыя летуценні і прымушалі глядзець на свет па-даросламу цвяроза". У сям'і працы хапала ўсім. Тым не менш дзяцей адпускалі ў школу, стараліся вывучыць іх. Вёска лічылася пісьменнай: у ёй была свая школа. Тут любілі і цанілі кнігу. З вялікай цеплынёй і ўдзячнасцю згадваў Юльян Сяргеевіч сваіх настаўнікаў. Найперш Міхася Лынькова: "Міхась Ціханавіч… часта сабіраў вучняў старэйшых класаў і чытаў ім мастацкія творы. Зімой гэта рабілася ў класе, а вясной хадзілі ў лес. Чытанні былі цікавымі, і вучні сабіраліся не па прымусу, а па ўласнаму жаданню. Выпадкова неяк трапіў на іх і я, а потым ужо не прапускаў ніводнага чытання".

Якраз тут, у гэтых гадах, выток і аснова той высокай любові да роднага краю, да бацькоўскай зямлі, да ўсяго беларускага, якой напоўнены былі і жыццё, і творчасць гэтага чалавека і вучонага.

Пасля сямігодкі Ю. Пшыркоў закончыў двухгадовыя педагагічныя курсы ў Рагачове, працаваў настаўнікам.

Далей, у 1934 — 1939 гадах, — вучоба ў Ленінградскім інстытуце філасофіі, літаратуры і гісторыі, які ў гэты час быў рэарганізаваны ў філалагічны факультэт Ленінградскага ўніверсітэта.

Гэтыя гады вучобы адыгралі выключную ролю ў вызначэнні жыццёвай дарогі, з'явіліся выдатнай школай у выпрацоўцы прынцыпаў аналізу і ацэнкі літаратурных з'яў і фактаў у іх гістарычным кантэксце, у іх цеснай суаднесенасці з жыццём грамадства і чалавека. Лекцыі чыталі буйнейшыя вучоныя краіны, у асяроддзі студэнцтва панавала творчая атмасфера. Грунтоўнае знаёмства з творамі рускай і замежнай класікі дазволіла больш аб'ектыўна, па-новаму паглядзець на родную літаратуру, пераканацца, што "наша маладая паэзія ўзнялася да лепшых узораў сусветнай літаратуры". Дыпломную работу пра паэму Якуба Коласа "Новая зямля" дазволілі пісаць і абараняць па-беларуску. Абараніў у 1939 годзе. Асобныя раздзелы работы былі дасланы ў часопіс "Полымя рэвалюцыі" (надрукаваны ў № 3 за 1940 год). Гэта і стала пачаткам творчай дзейнасці.

На працу Ю. Пшыркоў паехаў у Магілёўскі педінстытут. Пазнейшы аўтабіяграфічны запіс зусім сціплы: "За год здаў амаль усе экзамены кандыдацкага мінімуму. 27 ліпеня 1940 г. ажаніўся са студэнткай-завочніцай Нонай Егарэнка". У лістападзе гэтага ж года быў прызваны ў армію. Дэмабілізаваўся толькі ў 1945 г. "Не з газет, не з пераказаў сведкаў, а з уласнага вопыту пазнаў горыч паражэнняў 1941 года, невыносны цяжар адступлення па сваёй роднай зямлі, сваімі вачыма бачыў пякельную крыўду ў вачах старых, жанчын і дзяцей, якіх мы пакідалі на здзек і глум чужынцаў. І ў мяне за лініяй фронту асталіся старыя бацькі, жонка і дачка".

Пасля дэмабілізацыі, у той жа дзень, Юльян Пшыркоў быў прыняты на працу ў Інстытут літаратуры Акадэміі навук БССР, а праз нейкі час яго запрасілі чытаць лекцыі па беларускай літаратуры ва ўніверсітэце.

Пачалося новае творчае жыццё, да якога малады навукоўца быў поўнасцю падрыхтаваны. "Ленінградскі ўніверсітэт даў мне высокую спецыяльную падрыхтоўку, а Вялікая Айчынная вайна з'явілася другой вышэйшай школай, у якой я прайшоў непаўторны па сваёй важнасці курс грамадзянскага і патрыятычнага выхавання". Апрача гэтага, універсітэт даў добрую творчую школу — навучыў цаніць найперш канкрэтны твор, працу пісьменніка, прывёў да пераканання, што любое тэарэтызаванне мае сэнс толькі тады, калі грунтуецца на добрай фактычнай аснове; вайна дала адчуць, а ра-зам зразумець, што такое любоў да роднага кутка зямлі і ў чым сапраўдная сутнасць патрыятызму, навучыла па-сапраўднаму цаніць чалавека, нармальныя людскія ўзаемаадносіны, выпрацавала настойлівасць, упартасць, цягавітасць. То была школа не для аднаго чалавека. Салдаты, якія прыйшлі ў навуку, адчулі, што ў ёй трэба было рабіць неадкладна, чаго не хапае. Яны прагнулі працы, праўды, справядлівасці.

**(Заканчэнне на стар. 4.)**

## Пункцірам

✔Каардынацыйнае пасяджэнне грамадскіх арганізацый беларусаў праходзіць сёння ў Маскве. На ім плануецца разгледзець пытанні двухбаковага супрацоўніцтва. З беларускага боку да ўдзелу запрошаны прадстаўнікі міністэрстваў культуры і адукацыі, а таксама Дзяржаўнага цэнтра нацыянальных культур і Інстытута культуры Беларусі.

✔Навінкі ад беларускіх кнігавыдаўцоў прадстаўлены на 57-й Міжнароднай кніжнай выстаўцы ў Белградзе (Сербія), якая праходзіць з 21 па 28 кастрычніка. Сёлета выстаўка сабрала каля 500 удзельнікаў з 22 краін. Нашу краіну прадстаўляюць РВУ "Літаратура і Мастацтва", "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", "Мастацкая літаратура" і Свята-Елісавецінскі манастыр у Мінску.

✔ Падчас "круглага стала" па пытаннях расійска-беларускага супрацоўніцтва і пашырэння сувязей у сферы літаратуры, культуры і навукі, які праходзіў у Маскве, НАН Беларусі прапанавала Расіі каля 10 праектаў адпаведнага кірунку. Сярод іх — падрыхтоўка і выданне на рускай мове ў 25 тамах акадэмічнай серыі па класіцы беларускай літаратуры; распрацоўка эфектыўных механізмаў набыцця беларускіх навуковых і энцыклапедычных выданняў, класікі для бібліятэк Расіі; стварэнне цэнтра па падтрымцы двухбаковых праектаў і праграм. Былі выказаны і прапановы па выданні часопіса "Белая Вежа".

✔ За галоўныя ўзнагароды ў конкурснай праграме міжнароднага кінафестывалю "Лістапад" будуць змагацца 74 кінастужкі. Акрамя таго, запланавана і шырокая пазаконкурсная праграма, творчыя сустрэчы і рэтраспектывы. Майстроў і аматараў кіно, а гэта госці з 35 краін блізкага і далёкага замежжа, мінскі фестываль чакае з 2 па 9 лістапада.

✔ На гэтым тыдні Белтэлерадыёкампанія завяршыла прыём заявак на ўдзел у адборачным туры "Еўрабачання-2013". Цяпер ідзе іх падлік. Папярэдняя лічба — каля 60 заявак. На лістапад запланаваны паўфінал, у які выйдуць 15 выканаўцаў — іх імёны будуць названы 31 кастрычніка. Фінал пройдзе 7 снежня. Узначальвае журы старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька. Нагадаем, што міжнародны песенны конкурс "Еўрабачанне" пройдзе ў маі наступнага года ў шведскім горадзе Мальмё.

✔Белтэлерадыёкампанія аб'яўляе пра пачатак конкурсу канала "Культура" Беларускага радыё на стварэнне электраакустычных кампазіцый Formanta. Адна з умоў конкурсу: у аснове кампазіцый павінны быць сапраўдныя гукі, якія характэрныя для Беларусі ці асацыіруюцца з ёю. Работы прымаюцца да 31 снежня бягучага года.

✔Беларус Анатоль Сіўко стаў уладальнікам другой прэміі на ІІ Міжнародным конкурсе вакалістаў імя Мусліма Магамаева, які праходзіў у Маскве. Усяго на конкурс было пададзена больш як 200 заявак, аднак да ўдзелу былі дапушчаны толькі 17 вакалістаў з 10 краін.

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ

## Праекты

# Зазірнём у музейныя лабірынты

**З 20 кастрычніка па 9 снежня гэтага года па ініцыятыве Міністэрства культуры Беларусі ў дзесяці музеях Мінска праходзіць культурны праект "Музейныя лабірынты".**

**Раіса МАРЧУК**

Падчас гэтага незвычайнага праекта можна здзейсніць падарожжа па музеях і ўзяць удзел у шэрагу інтэрактыўных культурных мерапрыемстваў. Галоўнае — знайсці ў экспазіцыях адказы на пытанні даведнікаў, якія атрымаюць усе ўдзельнікі. Тых, хто справіцца з гэтай задачай і пройдзе дзесяць "лабірынтаў", чакае розыгрыш паездкі на некалькі дзён у Вену з наведваннем Музейнага квартала — самага вялікага музейна-культурнага комплексу Еўропы.

— У культурных мерапрыемствах задзейнічаны мастакі, клубы ваенна-гістарычнай рэканструкцыі, аўтары бардаўскіх песень, майстры скрапбукінгу і стрыт-арту. Можна будзе завітаць у батлеечныя тэатры, пабываць на касцюміравана-тэатралізаваных прадстаўленнях, сустрэцца з героямі перадачы "Калыханка", — паведаміла прэс-сакратар Міністэрства культуры Беларусі Юлія Віскуб. — Арганізатары праекта — Мінкульт Беларусі і камунікацыйнае агенцтва АГТ-Беларусь. Галоўны прыз пераможцам прадаставяць авіяаператар "Аўстрыйскія авіялініі" і турапературатар "Панда Трэвэл".

Як жа пачаць падарожжа па "музейных лабірынтах"? Прыходзіце самастойна ці сабраўшы групу ўдзельнікаў (не больш як чатыры чалавекі) у адзін з "пунктаў" лабірынта (Музей сучаснага выяўленчага мастацтва, Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, Літаратурны музей Петруся Броўкі, Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, Музей гісторыі горада Мінска, Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры) і паведамляеце супрацоўнікам пра сваё жаданне зазірнуць у "Музейныя лабірынты". Набыўшы квіток, атрымаеце Пашпарт удзельніка з заданнямі па маршрутах. Далей — наведваеце ўстановы ў любой паслядоўнасці. Атрымаць адзнаку пра праходжанне чарговага лабірынта можна толькі правільна адказаўшы на ўсе пытанні.

Даведацца больш пра гэтае захапляльнае дзейства і пазнаёміцца з афішамі інтэрактыўных мерапрыемстваў можна на афіцыйным сайце праекта: **www.museumtour.by.**

## Стасункі

# Першыя крокі… да супрацоўніцтва

**Прадстаўнікі беларускай і турэцкай інтэлігенцыі сустрэліся на Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Турцыя і Беларусь у сусветным літаратурным працэсе". Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі ды грамадскае аб'яднанне "Дыялог Еўразія".**

**Дар'я ШОЦІК, фота аўтара**

Адны з галоўных задач канферэнцыі — падзяліцца вопытам, дамовіцца пра пераклады лепшых беларускіх аўтараў на турэцкую мову, а таксама турэцкіх на беларускую. Такая канферэнцыя — плённы працяг культурнага супрацоўніцтва паміж Турцыяй і Беларуссю. Так, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец згадаў, што, уваходзячы ў сусветную цывілізацыйную прастору, трэба захаваць і сваю нацыянальную адметнасць, бо толькі тады мы можам пачувацца дастойна і належна ў сусветнай супольнасці. З гэтай думкай пагаджаліся і іншыя выступоўцы, якія падкрэслівалі вялікую значнасць навуковага дыялогу, які прысвечаны параўнальна-супастаўляльнаму вывучэнню асаблівасцей літаратурнага працэсу Беларусі і Турцыі.

Дырэктар ГА "Дыялог Еўразія" Іхсан Дылекчы больш падрабязна пазнаёміў прысутных з дзейнасцю арганізацыі. Дарэчы, на турэцкую мову перакладзены і выдадзены твор Мікалая Чаргінца "Сыновья". Між іншым, турэцкія прадстаўнікі рыхтуюць выданні перакладаў твораў Якуба Коласа "Казкі жыцця" і Янкі Купалы "Паўлінка".



*Аляксандр Лукашанец дэманструе кнігу Фетхулаха Гюлена.*

У выступленнях шмат было сказана пра развіццё літаратурных сувязей: "Максім Танк і Назім Хікмет", "Турэцкая літаратура ў Беларусі і беларуская літаратура ў Турцыі: досвед вывучэння і праблемы папулярызацыі", "Беларускія і турэцкія вясельныя абрады: параўнальны аспект", "Звесткі аб турках і апісанне Турцыі ў беларускай літаратуры XVI — XIX стст." ды іншыя.

У межах канферэнцыі таксама адбылася прэзентацыя кнігі Фетхулаха Гюлена "Крытэрыі, альбо Агні ў дарозе" ў перакладзе Алеся Радзіміча. Прынамсі, гэта першая кніга турэцкага аўтара, перакладзеная на беларускую мову. У прадмове да твора сказана: "«Крытэрыі…» — гэта плён шматгадовых роздумаў і духоўных пошукаў выдатнага турэцкага мысліцеля-гуманіста, ідэі якога паспяхова распаўсюджваюцца ў сучасным свеце".

# Горад рыхтуецца да Сіманаўскіх чытанняў

**Магілёў трывала ўвайшоў у лёс Канстанціна Сіманава. Яго запавет — развеяць прах на месцы былых кровапралітных баёў — гаворыць пра жаданне творцы застацца з тымі, каго сустрэў у Беларусі ў ліпені 1941-га, з кім у ваенныя гады абараняў Радзіму ад ворага.**

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

Магіляўчане шануюць памяць Канстанціна Сіманава. Яго імем названа адна з вуліц абласнога цэнтра, ёсць у горадзе і музей пісьменніка. А на Буйніцкім полі — **там, дзе развеяны прах Канстанціна Міхайлавіча, —** устаноўлены памятны валун.

Пачынаючы з 1980 года ў гадавіну нараджэння пісьменніка ў горад на Дняпры з'язджаюцца прыхільнікі таленту творцы. Па добрай традыцыі напрыканцы лістапада — пачатку снежня ў Магілёве праходзяць "Сіманаўскія чытанні".

Адкрыццё Міжнародных Сіманаўскіх чытанняў плануецца правесці ў Гарадской Ратушы. У Магілёўскай абласной бібліятэцы пройдзе ўзнагароджанне пераможцаў віктарыны і літаратурнага конкурсу. Адбудуцца літаратурныя сустрэчы студэнтаў і навучэнцаў Магілёва з удзельнікамі Сіманаўскіх чытанняў, пісьменнікамі і журналістамі, ветэранамі. Навукоўцы і літаратары збяруцца за "круглым сталом" — "Пісьменнік: творчая свабода і грамадзянская адказнасць". Запланаваны таксама форум мастацкай творчасці "У адзінстве наша сіла".

Форум праводзіцца ў два этапы, і фактычна ён ўжо распачаўся.

На першым этапе, у кастрычніку-лістападзе, у горадзе ладзяцца розныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да дня нараджэння Сіманава, збіраюцца матэрыялы, дасланыя на літаратурны конкурс, у рэгіёнах Беларусі і Расіі.

Другі этап прадбачыць падвядзенне вынікаў форуму і выхад творчага спаборніцтва на міжнародны ўзровень. Такім чынам, у літаратурным конкурсе, прымеркаваным да Сіманаўскіх чытанняў, могуць браць удзел аўтары, якія пішуць на рускай і беларускай мовах. Намінацыі дзве: "Паэзія" і "Малая проза". Тэматыка — гістарычныя лёсы рускага і беларускага народаў, "Магілёву — 745", "Выспа надзеі — Буйніцкае поле". Творчыя работы з пазнакай "На конкурс" арганізатары просяць дасылаць на электронны адрас: **ank-bel@mail.ru.**

# Памяць пра 1812-ы

Барысаўская цэнтральная раённая бібліятэка імя І. Х. Каладзеева сумесна з Барысаўскім раённым выканаўчым камітэтам, пасольствам Францыі ў Рэспубліцы Беларусь і Цэнтрам Напалеонаўскіх даследаванняў аб'явілі правядзенне IV Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Каладзееўскія чытанні", тэма якіх сёлета акрэслена як "Напалеон і Беларусь" (чытанні прысвечаныя 200-годдзю вайны 1812 года на Барысаўшчыне).

Тэматыка канферэнцыі, якая пройдзе 23 — 25 лістапада, наступная: калекцыя І. Х. Каладзеева як унікальная крыніца інфармацыі пра эпоху напалеонаўскіх войнаў, падзеі вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі, крыніцы па падзеях вайны на тэрыторыі Барысаўшчыны, помнікі вайны ў рэгіёне, гістарыяграфія вайны, памяць пра 1812 год у легендах і паданнях, распрацоўка турыстычных маршрутаў, звязаных з падзеямі вайны, 1812 год у сучасным выяўленчым мастацтве.

**Яўген КУЛІК**

Літабсягі

# З кантэксту асяроддзя

Нагодай для вечарыны "Літаратурны кантэкст" у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры стала прэзентацыя зборніка вершаў Вольгі Норынай "Городская трава". Аўтарка лічыць, што ў творчасці кожнага з нас галоўную ролю адыгрывае кантэкст не толькі эпохі, але і асяроддзя.

**Юлія ШАБЛОЎСКАЯ, фота аўтара**

На творчую вечарыну завіталі блізкія Вользе людзі — сябры, былыя супрацоўнікі часопіса "Вясёлка", аматары яе творчасці: паэты Мікола Чарняўскі, Мікола Маляўка, Юрый Сапажкоў, Юрась Нераток, Мікола Шабовіч, Дзмітрый Пятровіч, Іна Фралова. Кола прафесійных і творчых інтарэсаў паэтэсы шырокае. Падчас працы рэдактарам і журналістам лёс зводзіў яе з асобамі, якія так ці інакш уплывалі на сучасны літаратурны працэс.

Першы ў гэты вечар меў слова вядомы паэт Мікола Чарняўскі. Ён адзначыў далікатнае бачанне свету паэтэсы: "У яе вершах жыве душа жанчыны нашых дзён".

Сама ж аўтарка прызналася, што прыемна не толькі бачыць надрукаванымі свае тэксты, але і чуць вершы пакладзенымі на музыку. Музычная частка вечарыны была разнастайнай: народную музыку выконвалі лаўрэаты міжнародных конкурсаў цымбалістка Вікторыя Занько і баяніст Вадзім Матлаш, спявалі пад гітару барды Юрась Нераток, Сяргей Панамароў (у тым ліку і на вершы Вольгі), Дзмітрый Пятровіч падрыхтаваў прэм'еру песні "На Немиге лёгкий ветерок" (у перакладзе Міколы Шабовіча). Як прызналася аўтарка, намёты і камары — гэта не для яе. Яна за камфорт і ўтульнасць. Але пакуль паэтэса шпацыруе па вулках чароўнага Траецкага прадмесця, песня "Вьюга" з лёгкай рукі Сяргея Панамарова ўжо больш як дзесяць год выконваецца ля турыстычных вогнішчаў.



*Мікола Чарняўскі, Вольга Норына і Вольга Гулева.*

Цёплыя ўспаміны пра сталенне Вольгі Норынай як чалавека і аўтара прагучалі ад паэта Міколы Маляўкі. Зачытаўшы пераклады яе тэкстаў, ён адзначыў, што працаваць над імі было складана: "Вершы, у якіх ёсць душа і пачуццё, не шаблонныя, не ўзорныя, але працаваць над такімі больш прыемна".

Чытала вершы і сама аўтарка. Асабліва цікава слухаліся вершы-алюзіі на літаратурную тэму і вершы пра каханне.

Арт-лінія

# 70 год — паўналецце

Выстаўка знакамітага беларускага скульптара Генадзя Буралкіна адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

**Аляксандра ДВАРЭЦКАЯ, фота аўтара**

У экспазіцыю ўвайшло каля 30 скульптур, 20 графічных работ, а таксама фотаздымкі асноўных манументальных твораў майстра: мемарыяльны ансамбль, прысвечаны воінам-пагранічнікам, якія загінулі падчас Другой сусветнай вайны (2004, Гродна); мемарыяльны знак "Трагедыя на Нямізе" (1999, Мінск); скульптурная кампазіцыя Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь (2009, Мінск) і інш.

"Я вельмі хваляваўся, бо адкрыццё выстаўкі — кожны раз як першы. Калі творы ў майстэрні, яны ўсе нібыта самі па сабе. Яны нібы гавораць адзін з адным. А тут, у зале, ты ім ужо не патрэбны", — адзначыў 70-гадовы юбіляр.

Скульптуры Генадзя Васільевіча заўсёды прыцягваюць увагу. І справа не толькі ў навізне дый пластычнасці вобразаў, выкарыстанні выяўленчых алегорый, сімвалаў і метафар. Майстар стварае вобразы, якія не могуць быць незаўважанымі — дзякуючы сваёй надзённасці, актуальнасці, бо падымае ён такія пытанні, якія заўсёды будуць хваляваць сэрцы беларусаў. Як, напрыклад, вытанчаныя ружы і строгія гваздзікі, назаўсёды "ўскладзеныя" Буралкіным да месца трагедыі на Нямізе.

Нездарма Уладзімір Пракапцоў, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, адкрываючы выстаўку, адзначыў, што Генадзь Васільевіч — сапраўдны майстар сваёй справы. Дзякуючы менавіта такім людзям мастацтва нашай краіны квітнее.

"Мне вельмі пашанцавала, што я ўжо 12 гадоў працую з Генадзем. Разам мы перамаглі ў конкурсе на помнік пагранічнікам у Гродне. Сёння гэта адзін з самых моцных па сваёй канцэпцыі твораў у Беларусі. Тое ж можна сказаць і пра помнік трагедыі на Нямізе", — зазначыў калега па мастацкім цэху архітэктар Станіслаў Фельчанка.



Мармур — асаблівы матэрыял. Працаваць з ім можа толькі той, хто мае "мармуровы" характар і каго не пужаюць перашкоды. І вось ужо колькі год Генадзь Васільевіч займаецца пераўтварэннем глыб у добра пазнавальныя, эмацыянальныя вобразы, якія абуджаюць памяць народа.

Повязі

# Нічога не вырашана: час яшчэ ёсць!

Інстытут імя Гётэ ў Мінску адкрыў у сталічным Палацы мастацтва выстаўку плакатаў нямецкага мастака-карыкатурыста, прэзідэнта Берлінскай акадэміі мастацтваў Клаўса Штэка "Нічога не вырашана".

**Ганна ПАЛЯКОВА, фота Кастуся Дробава**

Увазе гасцей прадстаўлена 40 крытычных работ на экалагічную тэматыку. Экспазіцыя невыпадкова атрымала такую назву: праблемы, якія адлюстраваны на плакатах, не вырашаны дагэтуль. Творчасць мастака — гэта заклік да людзей яшчэ раз узгадаць пра экалагічную небяспеку, якая падсцерагае нас у глабальным свеце. Забруджванне паветра, вадаёмаў, вырубка лясоў, ненатуральныя прадукты харчавання, знікненне рэдкіх відаў жывёл і птушак — тыя тэмы, якія падымае аўтар у сваёй творчасці.

Клаўс Штэк пачаў працаваць з экалагічнай тэматыкай 40 гадоў таму. Неверагодна, але ўзніклі гэтыя плакаты, калі ніхто не ведаў слова "глабалізацыя", мабыць, толькі вельмі дасведчаныя людзі. Плакаты Клаўса Штэка палохаюць і захапляюць сваёй надзённасцю. Аўтар глядзіць на праблему востра і крытычна. Таму яго творчасць не можа пакінуць абыякавым, здзіўляе, прымушае задумацца.

У рамках выстаўкі адбылася сустрэча Клаўса Штэка са студэнтамі і выкладчыкамі Беларускай дзяржаўнай акадэміі Мастацтваў. А на адкрыцці экспазіцыі выступіў дырэктар Інстытута імя Гётэ ў Мінску Франц Бауман: "Калі я гляджу на гэтыя плакаты, заўсёды ўспамінаю 70-я — 80-я гады. У той час мы непакоіліся, як зрабіць наша жыццё і жыццё нашых дзяцей здаровым і бяспечным. Гэтае пытанне хвалюе нас і сёння. Я вельмі задаволены, што мы апублікавалі каталог гэтых экалагічных плакатаў у перакладзе на беларускую мову". Дарэчы, каталог Клаўса Штэка



*Клаўс Штэк.*




*Плакат "Новы ўраджай".*

можна атрымаць у Інстытуце імя Гётэ бясплатна.

На адкрыцці выстаўкі наведвальнікі мелі ўнікальную магчымасць задаць пытанні аўтару. Клаўс Штэк падзяліўся сваімі развагамі з гасцямі: "Мяне прымушае хвалявацца тое, што плакаты, якія я маляваў напрыканцы XX стагоддзя, сёння яшчэ больш актуальныя, чым у той час. Спадзяюся, што гэтыя плакаты маюць належны эфект і падштурхнуць кожнага з вас да абароны навакольнага асяроддзя, зямлі і жыцця. Я малюю свае плакаты, каб яны перажылі самі сябе, перажылі тую тэматыку, якую яны адлюстроўваюць. Хочацца верыць, што калісьці ўсё будзе вырашана".

Апошнім мерапрыемствам у рамках персанальнай выстаўкі Клаўса Штэка стала подыумная дыскусія, прысвечаная дызайну, мастацтву графікі і плаката.

З-пад пяра

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа з 1 па 3 лістапада запрашае ўзяць удзел у літаратурным свяце "Каласавіны-2012" і XXVII Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Якуб Колас. Чалавек. Эпоха. Час". У межах свята запланаваны таксама "круглы стол" па пытаннях папулярызацыі спадчыны класіка, ускладанне кветак да помніка Песняру. На канферэнцыі будуць абмеркаваны пытанні спадчыны Коласа, пераемнасць традыцый, сучаснае коласазнаўства, стварэнне новых музейных брэндаў, у тым ліку і прадстаўленых у сецыве. Па выніках канферэнцыі мяркуецца выдаць зборнік матэрыялаў "Каласавіны".

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

Цыкл музычных вечароў, якія яднаюць паэзію і музыку, працягвае Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. Так, на гэтым тыдні аматараў чакаў канцэрт класічнай музыкі "Янка Купала і Адам Міцкевіч у вакальнай лірыцы", падрыхтаваны Наталляй Сазановіч (фартэпіяна), дацэнтам Акадэміі музыкі, і вакалісткай Ірынай Гаўрыловіч, салісткай Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета.

**Алеся БАЦЮСЬ**

Спектакль "Без назвы", прысвечаны тэме Халакоста і генацыду яўрэяў, прапанавала гледачам эксперыментальная лабараторыя "ТэатральньІ квадрат" (аўтар і рэжысёр — Ганна Суліма). Упершыню ён быў прадстаўлены ў межах "Тэатральнага куфра", а гэты паказ прымеркаваны да 69-годдзя закрыцця Мінскага гета (21 кастрычніка 1943 года). Спектакль падрыхтаваны па архіўных дакументах і ўспамінах вязняў гета і канцлагераў. Лейтматывам пастаноўкі з'яўляюцца яе фінальныя словы: "Ні ў кога не хопіць мастацкага дару, будзь ён артыст, паэт ці мастак, каб перадаць усё тое, што перажылі людзі падчас Халакоста. Ды і самі гэтыя людзі цяпер ужо ў гэта не вераць, і ў будучыні, верагодна, ніхто не паверыць". Галоўнае тут — пачуцці і эмоцыі, таму, як і гаварылася ў прамове, не трэба шукаць у ім выразна акрэслены сюжэт і логіку, бо ў гвалце і жахах, якія нёс Халакост, іх няма.

**Ніна САРМАНТ**

Галоўнае месца ў экспазіцыі барысаўскай выстаўкі жывапісу і графікі мастакоў Барыса і Аксаны Аракчэевых "Зямля, што нам дадзена лёсам" заняла карціна Б. У. Аракчэева "Генерал Кульнеў і гродзенскія гусары ў бітве пад Клясціцамі. 1812". Гісторыя стварэння яе звязана з гэтым горадам. Менавіта ў Барысаве ў 1980-я гады планавалася адкрыць гістарычны музей, адна з залаў якога павінна была змяшчаць панараму, прысвечаную разгрому напалеонаўскага войска. Выканаць яе даручылі аўтарам дыярамы ў Музеі Вялікай Айчыннай вайны "Мінскі кацёл" Барысу Аракчэеву і Леаніду Асядоўскаму. Імі праведзена вялікая даследчыцкая праца ў музеях Масквы і Санкт-Пецярбурга, зроблена шмат замалёвак, эскізаў. На жаль, праект быў спынены з-за эканамічнай сітуацыі ў краіне. Палатно "Генерал Кульнеў…" мастак Аракчэеў падарыў мастацкай галерэі горада Крупкі.

**Вольга ПАЛОМЦАВА**

# Зробленае — нам пакінутае

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

Пазней Ю. Пшыркоў зазначыць: “Сваю асноўную задачу як даследчык я бачыў у тым, каб пакончыць назаўсёды з вульгарызатарскай фальсіфікацыяй гісторыі нашай літаратуры”. Гэтым шляхам вучоны крочыў усё сваё жыццё — мэтанакіравана, па-сялянску спакойна, не баючыся ідэалагічнага пераследу, тэндэнцыйнай крытыкі. Выявілася гэта пазіцыя ўжо ў першых пасляваенных артыкулах, пазначаных 1946 годам, — “Першы беларускі раман” і “Янка Купала — рэдактар «Нашай Нівы»”. Артыкулы былі заўважаны і сапраўднымі вучонымі, і вульгарызатарамі, найперш Л. Бэндэ. Пазней з’явіліся даследаванні больш грунтоўныя і значныя і па ахопе канкрэтнага матэрыялу, і па тэматыцы і праблематыцы.

Увогуле свой шлях у навуку Ю. Пшыркоў пачаў з даследавання класічнага твора нашай літаратуры — паэмы “Новая зямля”. На рабочым стале дачасна памерлага даследчыка роднай літаратуры засталася ляжаць зноў жа праца пра Якуба Коласа — “Летапісец свайго народа”. Творчасцю народнага паэта даследчык быў захоплены, жыў ёю на працягу дзесяцігоддзяў. Абумоўлена гэта як літаратурна-грамадскімі патрэбамі, так і прычынамі асабістага характару. Юльян Сяргеевіч як чалавек у нечым быў падобны да Коласа — мудрай прастатою, блізкасцю да зямлі, бязмежнай любоўю да прыроды, знешняй сціпласцю і нейкай сялянскасцю, удумлівасцю і пранікнёнасцю.

А пісаць пра Якуба Коласа Ю. Пшыркоў пачаў тады, калі найлепшае ў творчасці Песняра, паэма “Новая зямля”, ацэньвалася няправільна, спрошчана, а то і проста шальмавалася. Даводзячы, што гэта “твор народны”, ён выкрываў тых, хто сцвярджаў, быццам Колас ідэалізуе дробнаўласніцкі ўклад жыцця, кулацтва. У лісце да маладога вучонага народны паэт пісаў тады: “Дваццаць год мяне бэсціць і лае крытыка, і я не ведаю за што, бо ў паэме сказана зусім не тое, што яны там знаходзяць. Вы першы, хто правільна ацаніў паэму. Жадаю ўдачы”.

Усе працы вучонага, прысвечаныя Якубу Коласу, напісаны на аснове багатага жыццёвага і літаратурна-мастацкага фактычнага матэрыялу. У іх вялікі пісьменнік паказаны шырока і шматгранна, з глыбокай чалавечай цеплынёй і навуковай добрасумленнасцю. Кожны твор у розных яго варыянтах, кожны ліст, кожны накід, запіс быў, напэўна, не адзін раз прачытаны, абдуманы, адчуты. Бо менавіта пад кіраўніцтвам Ю. Пшыркова і пры яго непасрэдным удзеле ажыццяўлялася падрыхтоўка і выданне твораў пісьменніка — спачатку ў 12, а пазней у 14 тамах.

І творчасці, і літаратурна-грамадскай дзейнасці Пшыркова ў высокай ступені былі ўласцівыя ўнутранае адчуванне патрэб часу, жывое пачуццё сучаснасці, якое грунтуецца на дакладным гістарычна-канкрэтным аналізе літаратурных з’яў і фактаў, адчуванні літаратурнага працэсу ў найцяснейшай суаднесенасці з жыццём народа, з лёсам краіны.

Грунтоўнае вывучэнне, да-следаванне творчасці Коласа не магло не прывесці вучонага да глыбокага пранікнення ў складаныя працэсы беларускай прозы 20-х — пачатку 30-х гадоў. Адкінуўшы вульгарызатарскія схемы і ўяўленні папярэдніх гадоў у разуменні літаратуры, натхнёны духоўнымі зрухамі сярэдзіны 50-х гадоў, даследчык адным з першых па-новаму зірнуў на асабліва складаныя, супярэчлівыя і адначасна багатыя, плённыя гады ў развіцці роднай літаратуры, па-гаспадарску заклапочана, сумленна і дбайна паставіўся да многіх таленавітых прадстаўнікоў нашай прозы, незаслужана выкрасленых у гады рэпрэсій і панавання культу асобы. Ю. Пшыркоў паказаў сапраўдную ролю і належнае месца гэтых пісьменнікаў у нацыянальным літаратурным працэсе, значэнне іх мастацкай творчасці. Апрача таго, ім былі напісаны асобныя артыкулы пра шматгранную, глыбока самабытную творчасць Максіма Гарэцкага, прадмовы ці пасляслоўі да асобных твораў або зборнікаў У. Дубоўкі, Л. Генюш, М. Зарэцкага, Б. Мікуліча, Р. Мурашкі, А. Чарнышэвіча. Было гэта тады, калі творчасць згаданых аўтараў зноў вярталася да чытача, пачынала займаць сваё належнае месца ў нацыянальнай літаратуры.

Доўгі час, пачынаючы з 1954 г. і да апошніх дзён, Ю. Пшыркоў узначальваў сектар дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі. І тыя дасягненні, што маем сёння ў справе навуковага выдання класікаў нацыянальнай літаратуры, у развіцці тэксталогіі, звязаны найперш з нястомнай, мэтанакіраванай дзейнасцю гэтага вучонага.

Добра вядомы Юльян Сяргеевіч і як настаўнік. У 1945 — 1957 гг. ён чытаў курс лекцый па беларускай літаратуры ў Белдзяржуніверсітэце, у 1966 — 1968 — у Мінскім пединстытуце. Падчас вучобы ва ўніверсітэце мне асабіста давялося слухаць яго лекцыі. Як лектар ён, здаецца, не быў надзелены асаблівым красамоўствам, быццам і не валодаў якімісці прыёмамі прамоўніцкага майстэрства. Але была ў яго тая высокая ступень шчырасці і ўнутранай перакананасці, тая захопленасць тым, пра што ён гаварыў, якія нікога не пакідалі абыякавым. Душэўная ўзрушанасць перадавалася аўдыторыі. Лекцыі помняцца і сёння. Можа, у яшчэ большай ступені здольнасці настаўніка ў Ю. Пшыркова выявіліся ў падрыхтоўцы навуковых кадраў — і як загадчыка сектара, і як кіраўніка аспірантаў. Яго школу прайшлі Алег Лойка і Міхась Мушынскі, Сцяпан Лаўшук і Аляксей Рагуля, Аляксей Пяткевіч і Кузьма Хромчанка, Яраслаў Клімуць… Я таксама меў шчасце і лічу за гонар быць вучнем Юльяна Сяргеевіча.

А на заканчэнне хочацца прывесці словы Алены Васілевіч:

“Заслужаны дзеяч навукі. Доктар філалагічных навук. Прафесар. Член СП з 1950 г. Ордэны. Медалі. Ганаровыя граматы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

А мне за ўсімі гэтымі вышынямі бачыцца сціплая ўсмешлівая постаць Настаўніка”.

# Стыльная мазаіка ракако



Лонданскі Музей Вікторыі і Альберта (www.vam.ac.uk) валодае адной з самых вялікіх і шыкоўных калекцый касцюма ў свеце. Побач з 300-гадовымі крыналінамі ў залах музея экспануюцца дызайнерскія мадэлі ад Вів’ен Вествуд і Крысціяна Дыёра. Выстаўка “Каралеўскія скарбы: еўрапейскія шэдэўры 1600 — 1800” вылучае ў асобную секцыю прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Сукенкі, пальчаткі, вееры, гадзіннікі і вытанчаныя туфлікі — неабходныя складнікі высокага стылю ўсіх часоў і народаў. Нясвіжская экспазіцыя дэманструе частку арыстакратычных дробязей у вітрынах пятай тэматычнай секцыі “Мода і асабістыя ўпрыгожванні”.

## ПАРТРЭТ ЭПОХІ

Прыватныя дробязі ствараюць мазаічны партрэт эпохі. XVIII стагоддзе стала адным з самых яркіх і хвалюючых у гісторыі Еўропы. Увесь час змяняліся межы дзяржаў, уяўленні пра жыццё і моду. Стагоддзе засталося ў памяці пад мноствам імёнаў — час асветы, абсалютызму, галантнае, моднае... Каралі і знакамітасці выказвалі свой сацыяльны статус праз знешні выгляд і строі. Падчас публічных цырымоній насілі эфектныя аксесуары, у тым ліку мячы, кіі, парыкі, капелюшы і ўпрыгожванні, якія выраблялiся з экзатычных матэрыялаў і багата аздабляліся.

Галоўным заканадаўцам еўрапейскай моды стаў французскі двор. Захопленні арыстакраты падтрымлівалі нават святары. І не было ніводнай дзяржавы ў Еўропе, якая так ці іначай не зазнала б уплыву Парыжа. 30-я гады XVIII стагоддзя нараджаюць стыль ракако з яго атмасферай маскараду, уяўнай легкадумнасцю і бязладнасцю ў вопратцы.

Аднак пад уплывам розных філасофскіх вучэнняў, у тым ліку і паводле Жан-Жака Русо, вяртаецца пананаванне класічнага стылю, які патрабаваў увагі да прыроды, простай прыгажосці чалавечага аблічча. Хваля неўтаймаванай раскошы і пышнасці зноў накрывае Еўропу напрыканцы XVIII стагоддзя — сам Напалеон Банапарт стаў адным з “адраджэнцаў” Моднага веку.

## ВЕЕР

Калі кавалера той эпохі мы ўяўляем са шпагай у руцэ, то жаночым яе эквівалентам варта прызнаць веер. Ён быў для свецкіх дам XVIII стагоддзя не толькі аздобай, але і “семафорам”, а часам і “прыладай для назірання”. Ведаць “мову” веера азначала разумець жанчыну.



На веера, выкананым Антоніа Поджы ў 1790 годзе, змешчана выява караля Георга III і яго сям’і падчас наведвання Каралеўскай Акадэміі мастацтваў у Лондане. Георг III натхніў мастакоў зафіксаваць публічнае з’яўленне каралеўскай сям’і для стварэння свайго station ўчага вобраза. Друкаваныя версіі гэтых малюнкаў карысталіся папулярнасцю. Першапачаткова на прынцэ Антоніа Марціні былі намаляваны Прэзідэнт Акадэміі мастацтваў, мастак сэр Джошуа Рэйнальдс і іншыя вядомыя асобы, аднак на новай версіі 1790 года акадэмікі былі заменены на трох дзяцей караля, каб стварыць цэласны вобраз каралеўскай сям’і .

Антоніа Поджы, аўтар веера, быў шырока вядомы і як майстар, і як мастак. Англійскі раманіст Фані Барні сведчыў, што звычайны веер, зроблены Антоніа, каштаваў каля 30 фунтаў — для канца XVIII стагоддзя даволі вялікая сума.

## КІЙ

Кій — яшчэ адзін модны аксесуар. Яны прыйшлі на замену шпагам, якія захаваліся хіба што пры каралеўскім двары да 1770-х гадоў. Прапанаваны ўвазе наведвальнікаў экспазіцыі кій належаў брытанскаму манарху Георгу III, які быў вядомы сімпатыяй хутчэй да простых сямейных радасцей, чым да цырымоній двара. Гэты кій — прадмет гардэроба Георга III, выдатны прыклад таго, як еўрапейская гандлёвая і імперская экспансія забяспечвала пастаўкі новых матэрыялаў для вытворчасці модных тавараў у сваіх майстэрнях. Кожная частка кія выраблена з прадуктаў розных калоній. Слановая косць, верагодна, — з Індыі, ратангавая пальма — з берагоў Малакскага праліва ў сучаснай Інданезіі.

## ТУФЛІ

Замацавалася меркаванне, што галоўным упрыгожваннем жанчыны з’яўляецца абутак. Высакародныя дамы Галантнага стагоддзя насілі шаўковыя і лайкавыя туфлікі на чырвоных, “французскіх” абцасах. Гэтае дасціпнае вынаходніцтва не толькі рабіла жаночую постаць больш высокай і зграбнай, — французскі абцас удаваў ножку... маленькай! Жанчыны таго часу насілі сярэдні памер абутку, роўны сучаснаму 32-му. Гэта дасягалася тым, што абцас-чарачка змяшчаў свой выступ да сярэдзіны ступні, пакідаючы пад пяткай толькі невялікае патаўшчэнне. Можна ўявіць, як пакутавалі прыгажуні ракако, вымушаныя хадзіць літаральна на пальчыках!

У нясвіжскай экспазіцыі “Каралеўскіх скарбаў” прадстаўлены дзве пары абутку. Кожная з іх ілюструе зменлівыя модныя тэндэнцыі XVIII стагоддзя — пераход ад ракако да класіцызму.

Дэкаратыўныя і непрактычныя туфлі гэтага стылю былі моднымі ў пачатку стагоддзя пры каралеўскіх дварах. Туфлі, зробленыя са скуры і шоўку, арнаментаваныя срэбнай тасьмой, маюць дастаткова высокі абцас. У іх не прадугледжаны адрозненні паміж правым і левым.

Другая пара адносіцца да пачатку XIX стагоддзя і яскрава адрозніваецца сваёй вытанчанай і простай прыгажосцю. Знікаюць высокія абцасы і нагрувашчаныя ўпрыгожванні — лёгкасць і блізкасць да прыроды характарызуе жанчыну і моду 1800-х гадоў. Гэтыя туфлі з падоўжанымі насамі былі зроблены са скуры казлянят, пафарбаваны ў пастэльныя тоны і ўпрыгожаны малюнкамі па трафарэце.

**Анастасія ПАДДУБСКАЯ**



**Газета “Літаратура і мастацтва” — інфармацыйны партнёр акцыі “Нясвіж — культурная сталіца Беларусі”.**

Быхаў - 2013

# Свята і святыні

Адбылося чарговае пасяджэнне раённага штаба па арганізацыі падрыхтоўкі і правядзення Дня беларускага пісьменства ў горадзе Быхаў, у якім узяла ўдзел першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч.



*Свята-Троіцкая царква, у якой з 1954 па 2011 год захоўваўся Баркалабаўскі абраз Божай Маці.*

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

Лілія Станіславаўна пазнаёміла ўдзельнікаў сустрэчы з функцыямі аргкамітэта, які ствараецца на дзяржаўным узроўні і ў склад якога ўвойдуць кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў Беларусі. Яна зазначыла, што ўся краіна будзе рыхтавацца да свята, але галоўнымі выканаўцамі шматлікіх задач і планаў з'яўляюцца Міністэрства інфармацыі, Магілёўскі абласны і Быхаўскі раённы выканаўчыя камітэты.

— Наша сумесная творчая праца павінна набіраць абароты. Чым хутчэй мы зробім напрацоўкі да свята, тым больш часу будзе на іх увасабленне. Быхаў заслугоўвае быць яшчэ больш прыгожым і ўтульным горадам, — зазначыла Лілія Ананіч. Разам са старшынёй райвыканкама Дзмітрыем Калеевым, члена-мі раённага штаба яна наведала шэраг аб'ектаў горада, рэканструкцыю і рамонт якіх прадугледжваецца завяршыць да 1 верасня будучага года. Абмеркаваны некаторыя пытанні праектна-каштарыснай дакументацыі, фінансавага забеспячэння, у тым ліку і выдання кніг, іншай друкаванай прадукцыі.

Сваім аўтарам і чытачам хочам напомніць, што гэта будзе юбілейны, 20-ы, Дзень пісьменства. Свята займае пачэснае месца сярод найважнейшых падзей культурнага жыцця нашага грамадства. Яно аб'ядноўвае людзей, нагадвае пра неабходнасць захавання і ўзбагачэння духоўнай спадчыны. Бо для беларусаў веды, пісьменства і маральныя каштоўнасці заўсёды былі невычэрпнай крыніцай аптымізму, апорай у пераадоленні ўсіх цяжкасцей і перашкод. Невыпадкова менавіта Беларусь стала радзімай многіх выдатных асветнікаў, дзеячаў культуры, літаратараў і навукоўцаў сусветнага ўзроўню.

Сталіцай Свята беларускага пісьменства ў свой час былі Полацк (двойчы), Тураў (двойчы), Навагрудак, Нясвіж, Орша, Пінск, Заслаўе, Мсціслаў, Мір, Камянец, Паставы, Шклоў, Барысаў, Смаргонь, Хойнікі, Ганцавічы, Глыбокае. Яны вядомы не толькі сваёй багатай гісторыяй, унікальнымі помнікамі дойліды — сапраўднымі шэдэўрамі, але і знакамітымі людзьмі, якія сваімі справамі ўславілі гэтыя гарады.

У "ЛіМе" (№ 35, 31.08.12) мы распавядалі чытачам пра найвыдатнейшы помнік беларускай нацыянальнай культуры XVII стагоддзя — Баркулабаўскі летапіс, Святаўвазнясенскі манастыр і цудатворную ікону Божай Маці, якая захоўваецца ў храме. Напісаная тэмпераю на хвойнай аснове з выззалачаным разным фонам, яна з'яўляецца адным з шэдэўраў айчыннай школы іканапісу і разам з тым захоўвае выразныя рысы яго старажытнавізантыйскага характару.

Да сказанага варта дадаць, што пасля 1917 года Святаўвазнясенскі манастыр зачынілі, шмат пабудоў зруйнавалі, у некаторых размясцілі піянерскія лагеры. Манахіні рассяліліся па навакольных вёсках. Абраз захоўвалі ў адной з іх на беразе Дняпра, для канспірацыі — у лазні.

Мясцовыя жыхары расказваюць, што Другая сусветная вайна зусім не закранула Баркалабава, нягледзячы на блізкае суседства з Магілёвам, на подступах да якога ішлі цяжкія баі. Фашысты знішчалі суседнія вёскі, забівалі іх жыхароў, а тут летам 1941-га немцы праехалі на матацыклах, і больш іх ніхто не бачыў. Людзі вераць у тое, што менавіта Маці Боская Баркалабаўская абараняе гэты прыдняпроўскі куточак. Кажуць, на агароды вяскоўцаў падалі бомбы, але цудам не ўзрываліся.

Калі адносіны ўлад сталі не такія жорсткія, у 1954 годзе за часам протаіерэя Леаніда ікону перанеслі ў Свята-Траецкі храм Быхава. Пазамінулым летам Баркалабаўскі абраз Божай Маці, які народ шануе, як цудатворны, вярнуўся ў родны манастыр, адбудова і рэстаўрацыя якога цягнуліся не адзін год.

Больш як тысяча вернікаў сабралася, каб стаць сведкамі гістарычнай падзеі. Хрэсны ход ачоліў епіскап Бабруйскі і Быхаўскі Серафім. Людзі, многія з якіх ішлі басанож, спакойна пераадолелі 11 кіламетраў, нікому не спатрэбілася медыцынская дапамога. Відаць, духоўная моц пераходзіць у фізічную.

Радасна спявалі званы. У царкве, вакол якой жывуць на дрэвах буслы, не змаглі змясціцца ўсе, хто хацеў. Людзі па чарзе віталі Баркалабаўскую ікону Божай Маці, клалі кветкі, ставілі свечкі, маліліся. Абраз змясцілі ў разны драўляны кіёт, выраблены аршанскімі майстрамі. Там ён цяпер пільна ахоўваецца.

Як бальшавікі ні спрабавалі даказаць нам, што Бога няма і што мы ўсе пайшлі ад малпаў, як яны храмы ні руйнавалі, як ні знішчалі святыя абразы, але ўсё вяртаецца на свае месцы. Храмы адбудоўваюцца, іконы вяртаюцца, цуды здараюцца. Як сказаў класік, "на Беларусі Бог жыве і няхай да веку жыве".

У чарговых нумарах "ЛіМ" раскажа пра архітэктурныя і гістарычныя адметнасці Царквы Казанскай Божай Маці, Свята-Троіцкай царквы, іншых храмаў, якія яднаюць вернікаў Быхаўшчыны.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

# Стваральнікі Перамогі

Тэма Вялікай Айчыннай вайны — адна з галоўных у творчасці Аляксандра Суслава, былога франтавіка, які гэтымі днямі адзначае сваё 90-годдзе. Пяру пісьменніка і публіцыста належаць кнігі "Сердце в плен не сдаётся", "Анатомия души", "Корень жизни", іншыя творы.

**Уладзімір ЗАЛУЖНЫ**

У кнізе "Творцы Победы" (РВУ "Літаратура і Мастацтва") Аляксандр Аляксандравіч піша пра канкрэтныя баявыя падзеі, мужнасць і стойкасць савецкіх воінаў — сапраўдных творцаў Перамогі над фашысцкай Германіяй. Сярод герояў нарысаў — франтавікі і партызаны, лётчыкі і пехацінцы, армейскія разведчыкі і падпольшчыкі, радавыя і афіцэры. Не ўсім пашчасціла дайсці да Берліна, але кожны з іх зрабіў унёсак у гісторыю народнай вайны. Сведчанне таму — лёсы тых, хто быў афіцыйна прызнаны Героем Савецкага Саюза, і тых, хто не меў ні ўзнагарод, ні высокіх воінскіх званняў.

Прозвішчы многіх людзей, пра якіх распавядае Аляксандр Суслаў, добра вядомы ў Беларусі: Мікалай Барысевіч — былы прэзідэнт Акадэміі навук БССР, Аляксандр Рабцэвіч, Васіль Корж і Ілья Кожар — партызанскія камандзіры на Палессі, Героі Савецкага Саюза. Слаўныя старонкі ў гісторыю вайны ўпісалі Героі Савецкага Саюза Мікалай Каралёў, Рыгор Такуеў, Фёдар Малышаў, Вікенцій Драздовіч і іншыя ўдзельнікі смяротных баёў, пра якіх аўтар расказвае цёпла і цікава. Вобразы сваіх герояў ён раскрывае праз канкрэтныя эпізоды жыцця, учынкі, паводзіны ў крытычныя моманты паміж жыццём і смерцю. Цяжкі лёс выпаў на іх долю…

Перад вайной Іван Дзенісенка працаваў у рэдакцыі "Советской Белоруссии", потым адказным сакратаром Слаўгарадскай раённай газеты "Сацыялістычная праца", пісаў вершы. Пайшоў ваяваць добраахвотнікам. Трапіў у акружэнне. Хворы, змучаны рэўматызмам, вярнуўся ў родныя мясціны з надзеяй знайсці шлях да партызан. Яму прапанавалі стаць "здраднікам" — пайсці на службу да немцаў. Так ён стаў пісарам Чэрыкаўскай управы, апрануў варожую форму. Праз Дзенісенку падпольшчыкі атрымлівалі магнітныя міны, якія пасля выкарыстоўваліся імі па прызначэнні не толькі ў Чэрыкаве, але і ў Крычаве, Рaсл аўлі, Клімавічах, Касцюковічах. Гітлераўскія эшалоны ляцелі пад адхон.

5 ліпеня 1943 года адбыўся "суд" над членамі Чэрыкаўскага антыфашысцкага камітэта. Дзенісенка трымаў сябе дастойна. Перад тым, як яго павезлі на расстрэл, Іван паспеў напісаць жонцы перадсмяротную запіску: "Мілая Леначка, з'язджай кудынебудзь у вёску… Беражы сябе і дзяцей. Навучы іх любіць наш край".

У нарысе "Клічаўская эпапея" камандзір партызанскай брыгады Віктар Лівенцаў успамінае пра сваіх баявых сяброў-таварышаў, сярод якіх была адважны падрыўнік Лена Колесава. "Яна пераапранулася ў сялянскія апраткі і з вузялком, дзе ляжала міна, адна пайшла на дыверсію. Мінулі суткі — ні Лены, ні выбуху. Мы не на жарт затурбаваліся. Вечарам другога дня нам паведамілі, што днём на чыгунцы адбылася буйная дыверсія: пад адхон спушчана адзінаццаць вагонаў з танкамі для фронту. На трэці дзень Лена з'явілася ў лагеры, але ўжо без клунка. Яна расказала, што міну спавіла як дзіця і так выйшла да палатна чыгункі. Нікому і ў галаву не прыйшло, што гэта партызанка.

Лена Колесава асабіста падарвала чатыры варожыя эшалоны, сем эшалонаў разам з іншымі групамі, тры аўтамашыны, мост. Загінула ў вёсцы Выбрыцы Крупскага раёна. У 1944 годзе ёй пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза".

Што ж, на вайне без ахвяр не бывае. Калі ёсць хоць дробны шанц атрымаць перамогу, даводзіцца рызыкаваць і ўласным жыццём.

Аляксандр Суслаў у сваёй кнізе адводзіць нямала старонак удзельнікам вайны — Антаніне Зелянковай, Зіновію Шульману, Ганне Марозавай, Валянціне Буйкевіч… Не дзеля цёплых пасад, чыноў ды ўзнагарод жыццём рызыкавалі. Галоўнае, што яны, як і сотні тысяч іншых патрыётаў непакорнай ворагам Беларусі, сумленна і беззапаветна выконвалі абавязак перад Радзімай і зрабілі свой унёсак у яе вызваленне. Усе яны набліжалі Перамогу, усе яны былі яе творцамі.




*Кніга нарысаў А. Суслава.*

# «Пагрукала восень кіем у акно…»


Мікола Чарняўскі і Міхась Даніленка. 1966.

**Бывае ж такое ў жыцці: сябруеш з чалавекам ажно паўстагоддзя, а бачыцца з ім, пагаварыць пра ўсё, пра што хацелася б, даводзілася не так і часта. І там, у горадзе над Сожам, і тут, у сталіцы, куды яго часцей за ўсё прыводзілі з'ездаўскія нагоды. Аднак амаль усе гэтыя гады, калі падыходжу да сваёй паштовай скрынкі, спадзяюся, што зноў убачу ў ёй канверт, падпісаны такім знаёмым, уборыста-выразным почыркам, які належыць толькі яму — Міхасю Даніленку.**

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

Не падлічваў, але не памылюся, калі скажу: яго лістоў у маім хатнім архіве набярэцца, мабыць, сотні паўтары. Думаю, і ў Міхася Пятровіча знойдзецца не менш — ад мяне. Часам хочацца затрымацца з лістом у руках, запытаць сваю памяць: "Калі ж гэта ўсё пачалося, як?"

У далёкую часіну маленства мне чамусьці думалася, што ўсе пісьменнікі, якіх ведаў па школьных чытанках, па бібліятэчных кнігах, па творах, што змяшчаліся ў газетах ды часопісах, жывуць і працуюць у сталіцы. А дзе ж яшчэ, бо ўсе гэтыя кнігі, часопісы і газеты, у якіх яны друкуюцца, выходзяць у Мінску. Ім далёка хадзіць не трэба. Напісаў — і аднёс у рэдакцыю. А там іх творы з радасцю прымаюць!

> Мяне ў той момант уразілі сарамяжлівасць ды сціпласць, якія, здавалася, былі ў яго абліччы, надаючы яму стрыманасці і нейкай празмернай сур'ёзнасці, нават таямнічасці.

Пра тое, што сапраўдны пісьменнік можа жыць у Гомелі, за нейкія семдзесят кіламетраў ад маёй хаты, я нават не задумваўся. Але, ахвочаму да чытання, мне аднойчы трапіўся альманах "Літаратурны Гомель". Прачытаў у ім апавяданне Міхася Даніленкі "Родная зямля" — і зразумеў: пісьменнікі жывуць не толькі ў Мінску. А калі праз колькі часу атрымаў з рэдакцыі "Гомельскай праўды" ліст за яго подпісам, то канчаткова паверыў у такую рэальнасць. Памятаю, Міхась Пятровіч даволі прыдзірліва і крытычна прайшоўся па маіх вучнёўскіх вершах, вынес ім прысуд: "Сыраватыя, друкаваць яшчэ рана". Нават нейкая нязгода закралася ў мае пачуцці: ён жа празаік, хіба можа зразумець творы паэта, ацаніць іх вартасць? Адкуль мне было ведаць, што гэты "празаік" яшчэ да вайны пачынаў з вершаў, нярэдка выступаў з імі ў друку і ў пасляваенны час, нават раздумваў, збіраючыся ўступаць у Саюз пісьменнікаў, па якой секцыі абмяркоўвацца — паэзіі ці прозы?

Што ж да асабістага знаёмства, дык яно адклалася на год, да наступнага лета. Калі ўжо вучыўся і працаваў у Мінску, прыехаў у камандзіроўку на радзіму. Каб адзначыцца, зайшоў у рэдакцыю "Гомельскай праўды". І там убачыў за сталом яго: маладжава-хударлявага, на першы погляд, маўклівага, неахвотнага да размовы. Ды з поціскам рукі гэта ўсё праз нейкую хвіліну распагодзіла быццам прыхаваная да пары да часу прыязная ўсмешка: "Што новага ў сталіцы?"

Мяне ў той момант уразілі сарамяжлівасць ды сціпласць, якія, здавалася, былі ў яго абліччы, надаючы яму стрыманасці і нейкай празмернай сур'ёзнасці, нават таямнічасці.

З пісьменніцкага даведніка, які прадаваўся тады ў мінскіх кнігарнях, я ўжо ведаў сякія-такія падрабязнасці з біяграфіі М. Даніленкі: дзе нарадзіўся, вучыўся, што напісаў, якія выпрабаванні выпалі на яго долю ў гады ваеннага ліхалецця. А пагаварыўшы з ім, зразумеў, адкуль маглі ўзяцца замкнутасць і пэўная суровасць у яго характары.

У кожнага з нас ёсць запаветны куток. На зямлі і ў сэрцы. Адкуль пачалася дарога ў шырокі свет. Такім кутком для Міхася Даніленкі з'яўляецца Лоеўшчына. Тут, у вёсцы Ястрабка, ён 28 кастрычніка 1922 года нарадзіўся, зрабіў першыя крокі. Калі споўнілася тры гады, разам з бацькамі пераехаў у пасёлак Бодры. "У Бодрым, — згадвае пісьменнік, — прайшло маё дзяцінства. Адсюль я са зрэбнай торбачкай хадзіў у пачатковую ястрабскую школу. А пасля вучыўся ў Баршчоўскай сямігодцы..." Скончыўшы сямігодку, будучы пісьменнік падаў дакументы ў Рэчыцкае педвучылішча, дзе ўжо вучыўся яго старэйшы брат. "На ўсё жыццё запомніліся ўрокі літаратуры, якія вяла Надзея Прохарава, — з цеплынёй успамінае Міхась Пятровіч. — Менавіта яна прывіла нам, навучэнцам, спрадвечную любоў і пашану да роднага слова. Толькі мы здалі апошні дзяржаўны экзамен, як пачалася Вялікая Айчынная вайна..."

У першыя ж дні вайны М. Даніленку мабілізавалі. Вясною 1942 года ў баях пад Харкавам быў кантужаны і апынуўся ў нямецкім палоне. Пачаліся блуканні па канцлагерах у Аўстрыі. Змардаваны, знясілены ад голаду, з сотнямі такіх жа нявольнікаў прабіваў штольні ў скалах для гідраэлектрастанцыі, будаваў канатную дарогу, цягаў вялізныя скрыні, гружаныя камянямі ды цэментам. На пачатку вясны 1944 года Міхасю Даніленку і яшчэ двум ваеннапалонным удалося выбрацца на волю, уцячы ў горы.

Пра здзекі і пакуты лагернага жыцця, а таксама пра ўцёкі з палону Міхась Даніленка пазней расказаў у апавяданні "Штраус у апраметнай" і аповесці "Альпы".

"Калі скончылася вайна (у маім архіве цудам захавалася даведка, дасланая ў Германію ў 1945 годзе, што я з'яўляюся настаўнікам пачатковых класаў), я з Рэчыцы праз Ястрабку вяртаўся з салдацкім рэчавым мяшком за спінаю ў свой Бодры. Пасля працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў Казярожскай сямігадовай школе", — прыгадвае Міхась Пятровіч.

У 1952 годзе Міхась Даніленка завочна скончыў Гомельскі педагагічны інстытут. Працуючы ў школе, ён часта выступаў з вершамі, апавяданнямі і нарысамі на старонках сталічных літаратурных выданняў, у абласной газеце "Гомельская праўда". І калі ў ёй з'явілася вакансія, яму прапанавалі перайсці на працу ў рэдакцыю. Ён згадзіўся: усё ж журналісцкая праца бліжэй да працы пісьменніцкай. Тым болей што малады празаік Міхась Даніленка ўжо з'яўляўся паўнапраўным членам Саюза пісьменнікаў БССР. І прынялі яго ў творчы саюз без абавязковага кандыдацтва, як у той час вялося, яшчэ за два гады да выхаду першай кнігі "Мая песня".

"Помніцца, я прачытаў сваё апавяданне "Лідзія Іванаўна", — дзяліцца са мною ўспамінамі Міхась Пятровіч. — Твор быў пра маладую настаўніцу, якая толькі скончыла педвучылішча. Ёй нават няёмка было, калі "велічалі" Іванаўнай. У зале знаходзіліся Янка Брыль, Аляксей Кулакоўскі, Макар Паслядовіч, Іван Шамякін ды іншыя пісьменнікі. Сядзеў у першым радзе з кійком, у палатняным фрэнчы (тады модным) і Янка Маўр. Думаецца, я прачытаў няблага. <…> Калі закончыў, усе пачалі хваліць. Але праз нейкі момант Янка Маўр кінуў фразу: "Нядрэнна напісана. Толькі не ведаю, для каго: для Лідзіі Іванаўны ці для дзяцей".

"Нам здаецца, Іван Фёдаравіч, апавяданне з задавальненнем будуць чытаць і равеснікі Лідзіі Іванаўны, і дзеці, і мы з вамі", — не пагадзіліся з ім Брыль, Кулакоўскі і Шамякін. Прайшло шмат гадоў, а фразу, кінутую некалі аўтарам "Палескіх рабінзонаў", помню і да гэтага часу. Мудрэц быў стары! Апавяданне ж пасля надрукавалі ў часопісе "Беларусь" з цудоўнымі малюнкамі мастака С. Раманава. А малодшую дачку назваў Лідай".

За трыццаць гадоў, што былі аддадзены рэдакцыйнай працы, ён, сціплы па сваёй натуры, ніколі не імкнуўся розныі праўдамі і няпраўдамі "выбіцца ў начальства", шчыраваў на пасадзе старшага літаратурнага работніка ў аддзеле культуры. Спытаў у яго аднойчы па сваёй маладой наіўнасці, чаму загадчыкам аддзела з'яўляецца не ён, пісьменнік, а жанчына-журналістка, ціхмяная, прыветлівая Зоя Іванаўна, якая сядзела з ім у адным пакоі. "А навошта гэта мне? — амаль здзівіўся, шчыра пасміхнуўшыся, Міхась Пятровіч. — Я ж беспартыйны. Праўда, калі б дужа захацеў, то прынялі б у партыю. Затое працую спакойна, вольны сам сабе, не трэба кожны дзень мазоліць вочы рэдактару на розных там пяціхвілінках да паўдня. Што ад мяне патрабуецца — зраблю, здам у сакратарыят — і вольны, магу заняцца сваім. Задум, дзякуй богу, хапае".

Задум і сапраўды хапала. Назіральны, удумлівы празаік Міхась Даніленка не адчуваў недахопу жыццёвага матэрыялу для сваіх твораў. Шматлікія ўражанні ад сустрэч з вяскоўцамі, рабочымі Палесся клаліся ў аснову не толькі надзённых газетных матэрыялаў, але, прайшоўшы праз прызму аўтарскага пераасэнсавання, мастацкага заглыблення ў чалавечы пачуцці і характары, пад пяром пісьменніка пераўвасабляліся ў адметныя, літаратурныя творы — аповесці, апавяданні, нарысы, абразкі, нявыдуманыя былі. Сабраныя ў кнігах "Майская навальніца", "Наваселле", "Наш дом", "Запаветны акіян", "Маці Мар'я", "Журлівіца", "Родная зямля", "Дзве зоркі", яны кранаюць сваёй праўдзівасцю, тонкім веданнем жыцця і чалавечай псіхалогіі, замілаванасцю да роднай зямлі, да людзей. Майстар адмысловых сюжэтаў, ён змог стварыць шыкоўную галерэю запамінальных вобразаў нашых сучаснікаў, сваіх землякоў, без якіх немагчыма ўявіць сёння беларускую літаратуру. Гэта — і няўрымсліва-працавіты ляснік Апанаска Лугавы, і былая партызанка Бакашыха, і мудры дзед Лявон Канцавы, і ветэран-франтавік, спагадлівы руплівец Платон Бышык з жонкаю Палінай, і разважлівая, шчырая на працу Пракопіха, і сябра дзяцінства Міхась Матрос, і зухаваты заатэхнік Данік, і тыя ж Салёнаў, маці Мар'я, клапатлівая цётка Поля з Выселак.

> Як і само жыццё, яго творы багатыя на самыя складаныя жыццёвыя калізіі, на трагізм і камізм нашага быцця.

Многа іх, па-свойму цікавых людзей жыве ў творах Міхася Даніленкі. Напісаныя багатай на фарбы мовай, гэтыя творы прываблівакоць лірызмам, "дыхаюць" цеплынёй і лагодай. Як у тым жа апавяданні "Родная зямля": "Усюды, як кінуць вокам, стаіць роўнай сцяной высокая збажына. Часам, калі павее ветрык, праплывуць адна за другой шызаватыя хвалі, праплывуць недзе туды, дзе і канца не відаць гэтаму полю. І пахне зямля такім да болю знаёмым хвалюючым пахам, які можа пахнуць толькі родная зямля".

Не падумайце, што ўсё, што выходзіла з-пад пяра пісьменніка, падаецца ім толькі ў такіх, ружавата-прасветленых фарбах, прасякнута суцэльнай дабрынёй і лагодай, як у казках, дабро перамагае зло. Не. Як і само жыццё, яго творы багатыя на самыя складаныя жыццёвыя калізіі, на трагізм і камізм нашага быцця. Асабліва перакаянаўча выяўляецца гэта ў творах Міхася Даніленкі апошніх пасляперабудовачных дзесяцігоддзяў, якія з'яўляюцца час ад часу ў часопісе "Полымя", у штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" (тут, дарэчы, перад вайною былі надрукаваны яго першыя апавяданні "Нервы" і "Удзячнасць") ды іншых перыядычных выданнях.

Як былы настаўнік не забывае Міхась Даніленка маленькіх чытачоў, школьнікаў. Яго апавяданні і казкі, адрасаваныя дзецям, выходзілі асобнымі кніжкамі: "Вернасць слову", "Зачараваны гарлачык", "На вуліцы Сонечнай" і "Ключы бабулі Зімы", увайшлі ў многія школьныя чытанкі і падручнікі, часта друкуюцца ў часопісе "Вясёлка". Менавіта за творы, што змяшчаліся ў ім, пісьменнік быў узнагароджаны васёлкаўскай прэміяй імя Васіля Віткі.

Калі выпадаюць цёплыя ды пагодлівыя дні, Міхась Пятровіч любіць пасядзець на лаўцы каля Любенскага возера, што знаходзіцца ў тым мікрараёне Гомеля, дзе ён жыве. Пасядзець і паназіраць, "як вастракрылыя чайкі, што зрэдку пралятаюць паўз другі бераг, зніжаюцца да самай вады, а потым зноў узмываюць у неба... За апошнія гады іх значна паменшала..."

Але не ўсе дні бываюць ясныя, сонечныя з раніцы да вечара. Нечакана набягуць хмары, пачуюцца далёкія грымоты, узварухнуўшы ў душы і сэрцы незагойныя, як раны, успаміны. І тады лягуць на чысты аркуш паперы словы: "На небе часта пагрымлівае. А я зрэдзь часу ўспамінаю 22 чэрвеня 1941. Не прывядзі Божа…"

Ці ж не тэмы для новых твораў?

Нехта можа засумнявацца ў іх з'яўленні, прымерыўшыся да пройдзеных вёрстаў пісьменніка, а я ўпэўнены: будуць гэтыя новыя творы! Бо і ў пражытых 90 не згасла цікавасць да жыцця, не шукаюць спачыну яго самабытны талент і нястомны пісьменніцкі пошук.

З юбілеем вас, шаноўны Міхась Пятровіч! Няхай яшчэ доўга "пацiху перагартаюцца лісткі жыццёвага календара" і не адна яшчэ "восень пагрукае кіем у акно", каб шчыра парадавацца разам з чытачамі залатому ўраджаю праўдзівых, змястоўных радкоў, у якіх жыве душа, сагрэтая любоўю да роднай зямлі.

# Каштаны і эйдасы




**Алена КАРП**

Андрэй Федарэнка з тых пісьменнікаў, творы якіх заўсёды прачытваюцца і пакідаюць па сабе доўгае рэха даволі розных рэфлексій. Думаецца, апавяданне "Тупік", надрукаванае ў дзявятым нумары "Полымя", чакае той жа лёс.

У часопіснай публікацыі назва з клапатліва прастаўленым націскам, чаго, папраўдзе, крыху шкада. Як завецца галоўны герой, становіцца вядома ўжо з першых радкоў, а гульня слоў знікае. Між тым, яна была б дарэчы і, падаецца, задумвалася аўтарам. Прынамсі, у заключнай частцы апавядання з'яўляецца прамая згадка пра "жыццёвы тупік", ды і наогул сітуацыя тупіка і пошукі выйсця цікавяць аўтара ці не больш, чым непасрэдна Косця Тупік — гарадскі вар'ят.

Гэты жалю варты, брыдкі герой мог бы выклікаць агіду ці ў лепшым выпадку няёмкасць, аднак выклікае спачуванне. Чаму? Найперш да суперажывання схіляе становішча ахвяры, у якім апынаецца Тупік. Адзін супраць натоўпу — па вызначэнні няроўная расстаноўка сіл, пры якой спачуванне будзе на баку слабейшага. Чытацкая сімпатыя дасягаецца таксама дзякуючы гумару, камічнасці, што выяўляецца ў спалучэнні высокага і нізкага: "Аднак наставала вясна, і ўваскрослы, як фенікс, падлечаны ў псіханеўралагічным дыспансеры Косця бадзёра тупаў у гастраном…" Гэтай жа мэце спрыяе кантраснасць, тое, што аўтар дае чытачу адпачынак ад непрыемных і ад таго энергазатратных сцэн, чаргуючы іх з лірычнымі пейзажнымі замалёўкамі. Так, мімаходзь заўважаны "нежывы яшчэ" фантан варты паэтычнага радка. Але і сама здольнасць выхапіць прыхаваную сутнасць рэчы і акрэсліць яе рэзка, выразна — ужо са сферы паэзіі.

У межах невялікага апавядання герой эвалюцыяніруе. Праўда, чытач бачыць не паслядоўнае разгортванне гэтага працэсу, а толькі канчатковы вынік. Часавыя прамежкі ў тры гады практычна ніяк не змяняюць героя, яны хутчэй прызначаныя надаць аповеду сіметрычнасць: выпадковая сустрэча і выратаванне апавядальніка Косцем — сустрэча і выратаванне Тупіка апавядальнікам. І толькі праз дваццаць год Тупік нечакана паўстае практычна непазнавальным у сваёй няўразлівасці да былых крыўдаў. Такімі ж пунктырамі (3, 3 і 20 гадоў) пазначана і лінія жыцця апавядальніка: ад бесклапотнага студэнта да змарнаванага, стомленага чалавека.

Натоўп у літаратуры, як і ў жыцці, найчасцей выконвае ролю статыста. І ў гэтым апавяданні фармальна ён не дарастае да раўнапраўнага героя. Але на ідэйна-сэнсавым узроўні яго роля вартая ўвагі. Аўтар цісне на болевыя кропкі, даследуе тое чорнае, жывёльнае, што ёсць у чалавеку. Непрыгашанае, неўтаймаванае, яно перацягвае адносна спакойны натоўп у зграю. Сцэна гону, і без таго пачварная, вырадлівая, гіпербалізуецца, што можа стаць для чытача імпульсам не проста жахнуцца іншаму, але зазірнуць ва ўласную душу.

Урэшце шал пагоні спадае, на змену яму прыходзіць спагада. "І людзі, апусціўшы долу вочы, разыходзіліся…" "Апусціўшы долу вочы" — дэталь, якая здымае неабходнасць тлумачыць, што гэтыя людзі ўсведамляюць ганебнасць свайго ўчынку, саромеюцца яго, што яны, можа, такія самыя загнаныя і бяссільныя, і Тупік — іх адзіны шанц павярнуць у сваю сілу.

Пра герояў, па сутнасці, вядома не так і шмат, аднак цалкам дастаткова, каб мець да іх пэўны сантымент. Персанажы, нібы філігранна вытачаныя шахматныя фігуркі, расстаўляюцца так, каб патрэбным бокам павярнуць ідэю, высвеціць аўтарскі роздум. Бо ідэя, а не герой (тупік, а не Тупік) бачыцца тут галоўнай.

Змаганне, бясконцае "Дзела, Косця!.. Праблемы!.." замяняе жыццё, тады як сэнс яго зусім не ў барацьбе. А ў чым — герой нібыта спрабуе намацаць. "І падалося — а мо яшчэ не позна; можа, удасца адшукаць і вярнуць тое, што ўжо і не помніш, як яно называецца, а ведаеш толькі, што яно вельмі важнае, можа быць, самае дарагое ў жыцці?.." Аўтар не катэгарычны, ён не дае ўніверсальных указанняў-адказаў, пакідаючы прастору для чытача.

Тупік сваім чароўным з'яўленнем нібыта абвяргае думку пра бессэнсоўнасць і марнасць змагання. Але ці ёсць ён прыкладам "сімпатычнай, бяскрыўднай барацьбы", якую ўвасабляюць бліскучыя каштаны? Ён-та адным крокам, адным намаганнем волі зрабіў сваіх ворагаў нястрашнымі, вярнуўся ў зону камфорту і пазбавіў сябе неабходнасці змагання. Можна сказаць, што ўрэшце твор сцвярджае барацьбу (але бяскрыўдную) дзеля жыцця, а не наадварот, і жыццё дзеля яго самога, дзеля яго хараства. Але ці не лепш пазбегнуць цвёрдых, непарушных формул, нездарма ж аўтар прапануе замест іх празрыстыя, яскравыя вобразы.

# Ролевыя гульні ў гісторыі




**Соф'я МАРОЗАВА**

Дзявяты нумар "Нёмана" прапануе ўвазе чытача багатую, разнастайную літаратурную частку, сярод твораў якой хочацца спыніцца на апавяданнях Аляксандра Атрушкевіча "Окурочек" і "По календарю Новый год".

У першым з іх гісторыя адыгрывае дваістую ролю: з аднаго боку — часавы фон, з іншага — сродак сюжэтабудавання. Супярэчнасць паміж гэтымі двума бакамі і ўтварае інтрыгу, якая вырашаецца толькі напрыканцы, як і мусіць быць у навеле.

"Что-то здесь не так, определённо не так", — думал Юрка, а официально — старший боец продовольственного отряда «Заря коммунизма» Юрий Михайлович Хаткевич. (…) И эти хозяева тоже не очень на артистов похожи. Но, с другой стороны возьми, они же на то и актёры, чтобы выглядеть натурально."

Згаданыя "дваістасць" і "супярэчнасць" у паказе гісторыі тлумачацца проста: апавяданне належыць да адной досыць шматлікай плыні ў сучаснай гістарычнай фантастыцы. Называць яе, аднак, не будзем: ці ўдзячная гэта справа — пераказваць ідэю навелы? Абмяжуемся намёкам. Аднак жа нельга не адзначыць, што Аляксандру Атрушкевічу ўдалося пераасэнсаваць канон: яго тыповыя ўзоры абмяжоўваюцца прыгодніцтвам, у той час як апавяданне "Окурочек" уздымае важныя і актуальныя пытанні: карнавалізацыя гісторыі, нячуйнасць сучаснага чалавека да чужых пакут (сапсаванасць медыя-культурай?), урэшце — роля гульні і ілюзіі ў сучасным свеце… Аляксандр Атрушкевіч выдатна перадаў псіхалогію гульца, у якім змагаюцца супрацьлеглыя імкненні: стварыць ілюзію праўдападабенства і разбурыць, "выкрываць" яе, заўважаючы недасканаласць дэкарацый.

Урэшце, і чытачу даецца магчымасць "выкрываць": у гэтым выпадку — прадбачыць фінал твора, разгадваць аўтарскую стратэгію. Усе ключы для гэтага дадзеныя: з пэўнага моманту ў свядомасці героя пачынаюць праскокваць словы "бізнес", "пейнтбол", "офіс", "рэклама", "гульня"… Ды і "Окурочек", азначаны ў назве апавядання, невыпадковы. Здавалася б, дробная дэталь аповеду…. але хто ведае, колькі той недапалак будзе вярэдзіць успаміны героя сваёй матэрыяльнасцю?..

"И уже засыпая, Юрка то ли подумал, то ли прошептал: «Сволочи! Какие же мы все сволочи…»".

Назва другога апавядання — "По календарю Новый год" — падабраная па такім жа прынцыпе. Галоўны герой твора дзед Архіп — чалавек "старога часу", таму грыгарыянскі каляндар, зацверджаны дэкрэтам Саўнаркома ад 24 студзеня 1918 года, — для яго незразумелае, ненатуральнае ўмяшанне ў звыклы лад жыцця. ("Нам ли не знать, когда какой праздник во двор приходит? Рождество справили, следом Новый год, а там уже и до Крещения считанные дни остались. А Пасху захочешь просчитать — здесь тебе календарь не помощник. Тута другой счет вести надобно".) Настолькі ж дзіўны старому і загад прапаліць перад святам у печы абразамі… але дзе поначы ўзяць дровы?

Аўтару ўдалося перадаць і характар старога, і атмасферу зімовай ночы. Гарманічнай здаецца і стылізацыя маўлення, што надае апавяданню адметны настрой (дзеля справядлівасці трэба сказаць, што стылізацыя маўлення жыхара беларуска-ўкраінскага памежжа ў «Окурочке» менш удалая). Але самае значнае ўражанне ад твора — адчуванне цуду — простага, чалавечага, рукатворнага, незаўважнага для іншых людзей. А цуды, як вядома, здараюцца пад Новы год нават у самыя цяжкія часы.

Два апавяданні Аляксандра Атрушкевіча — гэта першы крок аўтара ў гістарычнай тэме і на глебе мастацкай умоўнасці (ранейшыя празаічныя творы былі напісаныя ў рэалістычна-аўтабіяграфічным ключы) і, варта прызнаць, удалы. Апавяданні дапаўняюць адно аднаго, таму гісторыя ў Аляксандра Атрушкевіча паўстае аб'ёмна — і ў сувязі з сучаснасцю, і ў сваёй самакаштоўнасці.

# Дзе схавалі чамадан?




**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Сярод твораў вераснёўскага нумара "Маладосці" ўвагу прыцягнула аповесць Алёны Беланожкі "Чамадан з кракадзілавай скуры", што пачала друкавацца з ліпеньскага выпуска часопіса (заканчэнне будзе ў кастрычніцкім нумары, а поўная версія ўжо цяпер даступна на сайце выдання). Згодна з сюжэтам, прадзюсар Аліна шукае сабе мужа, які адпавядаў бы яе месцу, статусу ў шоу-бізнесе. Яе выбар — прыгажун Дзіма, да якога яна прыязджае ў горад Дружны ля Мінска. Але па дарозе ў сталіцу іх выкрадаюць невядомыя. Яны патрабуюць у Аліны вярнуць пяць мільёнаў еўра, інакш дзяўчыну чакае смерць…

У інтэрв'ю газеце "Звязда" пісьменніца ахарактарызавала ўласны твор як *"вясёлую аповесць, адрасаваную маладзевай аўдыторыі"*. Паводле слоў А. Беланожкі, яе героі *"не рэфлексуюць над улюбёнымі пытаннямі беларускіх аўтараў: "Куды мы ідзём?" і "Што мы будзем рабіць, калі ўсё-ткі дабяромся?". Яны ведаюць: чым больш рэфлексіі, тым менш рэальных учынкаў"*. Што датычыць аўдыторыі, цалкам згаджуся з пісьменніцай. На старонках іншага, больш "дарослага", выдання "Чамадан…" мог бы выглядаць занадта сцёбным і разлічаным на непатрабавальную публіку. У "Маладосці" ён глядзіцца абсалютна да месца і рэальна можа прывабіць да часопіса новых прыхільнікаў, бо аповесць чытаецца на адным дыханні.

Наогул, жадала таго аўтар ці не, але пэўныя фрагменты аповесці атрымаліся без перабольшвання выдатнай пародыяй на дэтэктыў. А як жа інакш інтэрпрэтаваць шэраг сітуацый у творы? Паролем да камп'ютара з сакрэтнай інфармацыяй з'яўляецца адзінка, таемныя дзверы адчыняюцца дзякуючы перамозе ў картачнай гульні, а ледзь не ўсе замкі — шпількай Аліны. Допыт Тані адбываецца праз казытанне гусіным пяром з аргументацыяй *"мадам у нас раўнівая — значыць, баіца казытання. Прыкмета такая народная"*. Галоўны злодзей, як у фільмах пра Джэймса Бонда, выношвае задуму знішчыць частку чалавецтва і паменшыць колькасць кітайцаў і індусаў да мільёна. Праграміст Косця, нібы герой-злодзей з таннага баевіка, у рашаючы момант крычыць пра нянавісць да ўсяго чалавецтва.

На маю думку, у аповесці прысутнічаюць і некаторыя спрэчныя моманты. Напрыклад, Аліна, Дзіма і Таня, яго нявеста, выходзяць на свабоду праз люк, сачыць за якім павінны двое мужчын. У адпаведнасці з гумарыстычным падыходам яны паказаны камічна (*"адзін, падобны да зайца, і другі — падобны на прапаршчыка"*). У пэўны момант яны стамляюцца кантраляваць выхад, адпраўляюцца ў вандроўку па гушчары і толькі праз нейкі час вяртаюцца да аб'екта, што ахоўваюць. Калі разглядаць твор як класічны дэтэктыў, атрымліваецца нестыкоўка: прафесіяналы так не робяць. Калі мець на ўвазе, што гэта гумарыстычны, парадыйны тэкст, то што камічнага ў іх паходзе?

У іншай сітуацыі Аліна разам з сябрамі вяртаецца ў хаціну, дзе была раней зняволена. Па дарозе яна засынае на плячы ў сябра Мікіты. Ды так моцна, што не чуе, як *"па дарозе да бункера завязалася перастрэлка і хлопцы нечакана для сябе пусцілі ў кювет тры джыпы…"* Але гумар, калі ён тут маецца", не вельмі дарэчы. У папярэднім абзацы інтанацыі абсалютна сур'ёзныя — атрымліваецца дысананс, які крыху адчуваецца і ў некалькіх іншых сітуацыях.

У адным з эпізодаў Дзіма пытаецца ў Аліны: *"Чаму ты ніколі не даеш людзям права выбару? Усе мусяць рабіць тое, што ты ад іх хочаш!"* Пэўная праблема ў тым, што такога выбару не пакідае чытачам і аўтар. "Чамадан…" атрымаўся дастаткова эгацэнтрычным творам, дзе ўсе падзеі адбываюцца вакол галоўнай гераіні. Так, вобраз Аліны надзвычай жывы і кантрасны. Але амаль усе астатнія героі выступаюць у якасці яе масоўкі, а іх вобразы прапісаны літаральна некалькімі штрыхамі.

А ўвогуле ўражанне ад аповесці аказалася прыемным. "Чамадан з кракадзілавай скуры" адметны тым, што мэты, якія ставіла перад сабой пісьменніца, амаль цалкам супалі з канчатковым вынікам.



Юрка ГОЛУБ

Юрка Голуб, якому днямі споўнілася 65 год, свой першы паэтычны зборнік назваў надзвычай ёмка, арыгінальна і прадбачліва — "Гром на зялёнае голле". Скажам так: наш юбіляр мае сапраўды глыбокі і самабытны паэтычны талент. Ужо з яго першых вершаваных падборак, надрукаваных калісьці ў газетах і часопісах, крытыкі і чытачы заўважылі непаўторны стыль і манеру пісьма, метафарычнасць і багацце асацыятыў-най рыфмы, уласцівай толькі аднаму яму, Юрку Голубу. Пасля заканчэння філфака БДУ паэт жыве і працуе ў Гродне, не дужа дбаючы пра славу, хаця з'яўляецца лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова. Сёння ж, калі прыйшла пара для справаздач, можна смела сцвярджаць, што паэтычнае слова ў Юркі Голуба, кажучы яго ж радкамі, зашчымела ў вельмі спрыяльны час і зусім не на голы лес. Наш паэт-юбіляр мае на сваім рахунку добры дзясятак цудоўных паэтычных кніг для дарослых і дзяцей, і паранейшаму ўладальнік ганаровага тытула — любімец чытачоў. Дык з юбілеем цябе, Юрка, і няхай як мага даўжэй у душы і сэрцы шчыміць яно — тваё свежае, роснае слова!

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

## З гары

*Ніжэй травы, ніжэй вады*
*Намацваў вечар ночы вечка.*
*А таямніцу гарады*
*Схавалі ў лёх сярэднявечча.*
*Дзе ўзнёсся з бездані касцёл,*
*Раку пускаў удалеч бераг,*

*Калісь з ахвярамі кацёл*
*Кіпеў пякельна — не абмерыш.*

*У пекла жорсткія правы,*
*У раю процьма абяцанак.*
*Жывеш да сівай галавы*
*Не з ласкі шчодрае цыганак.*

*Збылася праўда да канца.*
*У багне тонуцца праклёны.*
*Шукаюць розуму купца,*
*А хціўцам мроіцца пра клоны.*

*Эпохі ярасны скрыпач —*
*Няздара прагна гвалціць ноты.*
*Дзярэ падобна глотку драч:*
*Кацюты плешчуць абармотаў.*

*Нічога! Ты пакуль жывы*
*У летах, нечым адмысловых,*
*Дзе сена дух — як пах травы —*
*Так кружыць — молада! — галовы.*

## Дыханне трыснягу

*Навошта спешчаным зіма…*
*А трыснягу зіма — як мара.*
*Заводзіць ён завею ў зман,*
*Хоць сам становіцца ахвярай.*

*Тубылец прыазёрных месц,*
*Дзе здань пад снегам акалела.*
*Ды прыказка мяняе змест:*
*Снягі — не мора — па калена.*

*Ён шоргат замяніў на шэпт*
*І залагодзіў завіруху.*
*Балесны вымерзне нашчэнт.*
*Ды не з такіх закладнік духу.*

*Загрузла выспа. А трыснёг*
*Гаротны лёс — ані не ганіць.*
*Не збіць яго вятругам з ног,*
*Тым болей — запыніць дыханне.*

## З вечара

*Святла ў святліцы нестае.*
*Вуголле гасяць далягляды.*
*А гай дарэмна аддае*
*Штогод даніну лістападу.*

*На скроні Шведскае гары*
*Зноў павуцінка з Ваўкавыска*
*Куляе травы дагары*
*Ці то з выпадку, ці наўмысна.*
*Дзе загадзя намацаць роў*

*Калюгі з лета не паспелі,*
*Каб папсаваць кіроўцам кроў,*
*Залеглі ў глейныя пасцелі.*

*Дзе верас выпетрыў датла*
*І месяц звіс, як збан гліняны,*
*Там вокліч з цемры далятаў,*
*Пагрозай птушкам шпігаваны.*

*А потым з Шалямі ўпрытык*
*І поўнач з рэштай меркавала:*
*Як ноч падоўжыць — і пры тым,*
*Чаму тае заўжды замала…*

## Рыбніца

*Мароз разбежысты з Ражства*
*Скрышыць ільдоў завалы здолеў.*
*Або не так трашчыць жарства*
*Пад чаравікамі будоўлі.*

*А люты — вось дык Архімед —*
*Каб цалкам светам завалодаць,*
*Пяшнёй арудуе як след*
*І парай пыхкае над лёдам.*

*Шугае жоўтай блешні медзь:*
*Лускои адорыць торбу плёну.*
*Храпе вятруга, бы мядзведзь,*
*На лапе ўласнага палону*

*Змаглася зенкі вырачаць:*
*Гатовы вылупіцца вонкі!*
*О міласэрны! Выручай!*
*Не лезе рыбіна з палонкі!*

*Шанцуе! Будзем, далібог,*
*Нібы пачостку, нюхаць корак.*
*Няма ж традыцыі слабой:*
*Яна шануе глыбкі корань!*

*Свярбіць над юшкай прагны нос.*
*Загнет злучыў і лёд, і промні.*
*Калі зіма спаўзе на знос,*
*Дык будзе, мабыць,*
*што прыпомніць.*

## Жорны

*Разбітыя жорны ў музеі*
*Не здолее лёс раскруціць.*
*Ды скласці нанова карціць*
*Разбітыя жорны у музеі.*
*Ці вецер зярняты развеяў,*
*Каб шлях для сябе скараціць?*
*Разбітыя жорны ў музеі*
*Не здолее лёс раскруціць.*



Генадзь АЎЛАСЕНКА

## Эскіз

*Восеньскі вечар.*
*Туман апранае зямля.*
*Зоркі на небе*
*Да Месяца просяцца ў госці.*
*Полымя свечак —*
*Нібыта палёт матыля…*
*Рукі на клавішах*
*Ціха чакаюць кагосьці.*
*Доўга чакаюць…*
*А поўнач ідзе спакваля.*
*Вось загучала мелодыя*
*Ціха і строга…*
*Рукі на клавішах —*
*Нібы палёт матыля.*
*Свечкі згараюць…*

*Яны не чакаюць нікога…*

***

*Кветкі — кахання сведкі.*
*І божа вас барані*
*Дарыць без кахання кветкі*
*У святы ці ў будныя дні!*

*Тады ўжо лепш — дыяменты,*
*Духі, шакалад, віно.*
*Дарыце хоць… кампліменты,*
*Для кветак жа —*
*толькі адно…*

*Бо кветкі — кахання сведкі,*
*Яго святыя агні!*
*Дарыце каханым кветкі*
*І ў святы,*
*і ў будныя дні!*

*Па іншай якой прычыне*
*Вы іх не рвіце дарма…*

*Навошта кветкі жанчыне,*
*Калі кахання няма!*

***

*Апошнія астры гараць*
*Ля чорнага мокрага плота…*
*Ім час надышоў паміраць!*
*Ды ім паміраць неахвота!*

*За што іх так жорстка караць*
*Халодным дажджам і сумётам?*

*У кветніку, каля плота,*
*Апошнія астры гараць…*

***

*Восень дрэвы чаравала…*
*Чаравала… ну, а потым,*
*Ну, а потым фарбавала,*
*Фарбавала іх лістоту.*
*Фарбавала ў пазалоту*
*Дуб-асілак на пагорку,*
*І бярозку ля балота,*
*І лісты асіны горкай…*
*Клён чырвоны каля плота*
*Ваяводам выглядае…*

*І аб тым, што будзе потым,*
*Нават думаць не жадае…*

***

*Туман прад вачыма,*
*Жыццё за плячыма…*
*Наноўку*
*яго распачаць немагчыма!*

*Як нельга*
*каля папялішча пагрэцца…*
*Як нельга*
*з мінулым каханнем сустрэцца…*



Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ

## Восень

*Верасень сеціцца верасам,*
*Гарыць журавінна-рабінна,*
*У небе блакітна-шэрым*
*Плыве жураўліным клінам,*
*На травах, кустоўі росным*
*Срэбным трымціць павуціннем.*

*Кастрычнік кастры разводзіць —*
*"Палаюць" так ярка дрэвы,*
*Іскрынкамі карагодзяць*
*Лісты пад вятрысак спевы,*
*І сыплюцца зарападам*
*Кастрычніцка-лістападным.*

*А лістапад, абтросшы ўсе*
*З дрэваў лісточкі-зоркі,*
*Дожджыкам замаросіцца,*
*Ветрам сцюдзёна-колкім*
*Напамінае: восень —*
*Не гаспадарыць болей,*
*Бо ўжо зіма марозна*
*Беліць-сняжыць наваколле.*



Фота Кастуся Дробава

***

*Першыя пырскі фарбы асенняй,*
*Бы матылёчкі, на лісце прыселі.*
*Восень-мастачка толькі спрабуе*
*Цёпламу лету пярэчыць, фарбуе*
*Так, спадцішка, па лісточку спачатку…*
*Час праміне і сваю ўсё ж пячатку*
*Смела на лісцейку кожным паставіць,*
*Баль развітальны з прыродаю справіць.*

***

*Колькі ж фарбаў у ранняй восені!*
*Гэткіх яркіх, яшчэ не растрачаных.*
*Можа, лета пакінула ў спадчыну*
*Васількавасць у неба прасіні,*
*Залацістасць ад сонца променяў,*
*Што ў лістоўі схацелі застацца*
*І цяпер у чупрыне клёнавай*
*Гэтак светла-страката ірдзяцца.*

***

*Гады асеннімі лістамі шапацяць*
*І адлятаюць-падаюць у Вечнасць…*
*Халодзячы лагоду пачуцця,*
*Туману хусткай ахінаюць плечы…*

*А я аб цёплым леце успамінам,*
*З яго такой гарачаю пяшчотай,*
*Хусцінку холада-туману скіну*
*І смелай мроі ўсміхнуся ўпотай.*

*І покуль мары сэрцайка*
*трывожаць,*
*Апошняя ўсё ж*
*песня не прапета.*
*Так, не ў разгары лецейка,*
*ды, можа,*
*Шчэ бабіна мяне*
*пацешыць лета?*

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі



# Кніжны свет

26 кастрычніка 2012 г.

# Парады ад спадара Эндруса

Гандаль кнігамі праз інтэрнэт становіцца ўсё больш і больш папулярным. Ці існуюць прыёмы, што дазваляюць прывабіць патэнцыяльнага пакупніка на сайт і прымусіць яго набыць выданне? Як зрабіць сайт інтэрнэт-кнігарні "ўтульным" і зручным, перш за ўсё для карыстальніка? З такімі пытаннямі мы звярнуліся да незалежнага кансультанта па маркетынгу Флорыяна Эндруса, які шмат год прысвяціў выдавецкай і кнігагандлёвай працы ў буйных выдавецтвах Германіі. Але Флорыян папярэджвае: ніводную з парад не прымаць на веру, усё правяраць!

**Чэслава ПАЛУЯН,**
**фота Аляксандра Назарчука**

Загалоўкі на вэб-сайтах з'яўляюцца вельмі моцным арыенцірам для карыстальнікаў. Калі ён прыйшоў з іншага сайта,



заставайцеся як мага бліжэй да таго, што карыстальнік пабачыў перад тым, як "клікнуў" на ваш сайт: гэта зробіць больш упэўненым яго далейшы рух. Вельмі часта на паспяховых інтэрнэт-старонках выкарыстоўваюцца і падзагалоўкі. Эмацыянальнае напаўненне загалоўка таксама з'яўляецца важным фактарам. Пішыце загалоўкі, якія выклікаюць цікавасць і пабуджаюць да далейшага чытання. Толькі такім чынам вы сапраўды зможаце "зачапіць" карыстальніка і спакусіць яго здзейсніць пакупку.

Незалежна ад таго, выкарыстоўваеце вы кнопкі ці звычайныя спасылкі для каманды Call-to-Action (пабуджэнне да дзеяння), зразумела кажучы карыстальніку, куды ён трапіць, націснуўшы на кнопку / спасылку. Кнопка "зарэгістравацца" — добра, але яшчэ лепш — "бясплатная рэгістрацыя". Размясціце на сайце некалькі элементаў Call-to-Action, прытым кнопка абавязкова павінна быць змешчана ў канцы старонкі, у полі, якое больш за ўсё кідаецца ў вочы. Выкарыстоўвайце розныя памеры: вялікая кнопка Call-to-Action уверсе старонкі, скарочаная (часцей за ўсё меншая па памеры) у розных месцах сайта. Важна, каб кожны раз, калі карыстальнік будзе гатовы ўступіць ў рады пакупнікоў, у яго перад вачыма была кнопка Call-to-Action. Канечне, пры гэтым важна не перагружаць імі старонку.

На многіх сайтах можна знайсці выразы тыпу: "наш прадукт такі…" ці "мы дапаможам вам". Пазбаўцеся ад гэтага. Нікога не цікавіце вы, ваша фірма ці ваш прадукт. Людзей цікавіць, як гэта можа дапамагчы ім. Выкрасліце са сваіх тэкстаў звароты ад першай асобы і па магчымасці пішыце ад другой асобы. Гэта намнога мацней уплывае на карыстальнікаў.

Пішыце проста. Мэта не ў тым, каб паказаць, наколькі цудоўна вы ўмееце спалучаць крэатыўныя сказы. Дакладныя фармулёўкі, а не доўгія паэмы, павялічваюць колькасць продажаў. Не губляйце чырвоную стужку. Складайце свае тэксты як яснае чаргаванне загалоўкаў і вашых сказаў. Пазбягайце адхіленняў ад тэмы, пабочных сказаў і асабліва пераліванняў з пустога ў парожняе.

Інтэрнэт-карыстальнікі чытаюць па іншаму: яны скануруюць старонкі, то бок звычайна толькі прабягаюць вачыма загалоўкі і пачаткі сказаў, пакуль не прыйдуць да высновы "зноў нічога не знайшоў". Таму пішыце самыя важныя моманты ў пачатку старонкі. Вельмі добра зарэкамендавала сябе кароткае апісанне выгад карыстальніка ў выглядзе спіса.

Першы абзац фармулюйце коратка. Практыка паказвае, што аптымальная даўжыня першага абзаца — адзін-два радкі. Пачынаючы з першага абзаца, вар'іруйце іх даўжыню. Гэта разбаўляе манатоннасць і палягчае чытанне тэкстаў. У любым выпадку пазбягайце празмерна доўгіх абзацаў. Карыстальнікі не хочуць чытаць горы тэкстаў.

Даследаванні па сканіраванні тэкстаў паказалі, што многія чытаюць толькі пачатак і канец абзаца, а потым вырашаюць, ці чытаць яго сярэдзіну. Таму пачатак і канец — самыя важныя ў тэксце. Пераканайцеся, што менавіта ў гэтых месцах фігуруюць аргументы, якія стымулююць продаж.

Пры стварэнні сайтаў важны не толькі сам тэкст. Трэба ўлічваць, у якім месцы ён размешчаны, што стаіць побач з ім і ці патрэбна пракручваць кола мышкі, каб прачытаць яго. Напісанне ў праграме Word немэтазгоднае: магчыма, вашы тэксты дасканалыя, але не ўпісваюцца ў вэб-дызайн ці іх неабходна пракручваць колам мышкі, паколькі яны не змяшчаюцца ў экран. Стваральнік тэкстаў павінен абавязкова пісаць у форму сайта — толькі такім чынам становіцца бачным іх уздзеянне. Для гэтага, канечне ж, неабходна цеснае супрацоўніцтва паміж аўтарам і вэб-дызайнерам. Таму аўтар павінен стаць намнога больш гнуткім, карыстацца такімі рабочымі сродкамі, як фоташоп і рэдагаванне ў HTML.

Прэзентацыя

# Веліч і мізэрнасць Напалеона

У выдавецтве "Чатыры чвэрці" ў перакладзе на рускую мову пабачыла свет кніга французскага гісторыка Жака-Аліўе Будона "Наполеон — полководец и человек". Прэзентацыя выдання прайшла ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

Што мы ведаем пра Напалеона? Сёння, у святле адзначэння 200-годдзя Айчыннай вайны 1812 года, гэтыя веды сталі больш глыбокімі: пабачылі свет новыя выданні, прайшлі праграмы па тэлебачанні, адбыліся фэсты з удзелам сяброў клубаў ваенна-гістарычнай рэканструкцыі. Але як гэта ўсё распавесці дзецям? Ці дастаткова для разумення адметнасці асобы Напалеона толькі некалькіх урокаў гісторыі, сканцэнтраваных на матэрыяле параграфаў падручніка? Напэўна, не. Добрым памочнікам бацькам і настаўнікам можа стаць кніга спадара Будона, якая выйшла ў межах Праграмы дапамогі публікацыям "Максім Багдановіч" пры падтрымцы Пасольства Францыі ў Беларусі.

На прэзентацыю гэтага сапраўды ўнікальнага выдання ў Мінск завітаў сам аўтар. Доктар гістарычных навук, прафесар сучаснай гісторыі ва ўніверсітэце Парыж-Сарбона, спадар Будон распавёў:

— Гэта самая кароткая кніга, што я напісаў у сваім жыцці. Яе адметнасць яшчэ ў тым, што напісана яна з дапамогай маіх дзяцей. Толькі адштурхоўваючыся ад іх пытанняў, я зразумеў, у якой форме павінен быць выкладзены матэрыял. У мяне трое дзяцей, і на момант распрацоўкі тэксту ім было ад 7 да 14 год. Я прапрасіў іх паўдзельнічаць у гульні і задаць мне самыя простыя і наіўныя пытанні пра Напалеона. А я на іх адказваў — як бацька і як навуковец. Вельмі спадзяюся, што ад пытання да пытання мы паступова будзем лепш пазнаваць гэтага загадкавага персанажа — Напалеона, што кніга дапаможа дзецям зразумець яго веліч і яго мізэрнасць, моцныя і слабыя бакі гэтай знакамітай асобы, яго ўклад у гісторыю.

Адметна, што беларускае выданне кнігі "Наполеон — полководец и человек" адрозніваецца ад арыгінальнага не толькі мовай тэксту. У франкамоўным варыянце кніга не змяшчае ілюстрацый. Беларускія ж дзеці маюць магчымасць не толькі пазнаёміцца з цудоўнымі гісторыямі, перакладзенымі Ірынай Драпкінай, але і пабачыць багаты ілюстратыўны рад карцін і гравюр на тэму Айчыннай вайны 1812 года, падабраны Леанідам Мікалаевічам.

Як падкрэсліў Жак-Аліўе Будон, з часоў вайны 1812 года і паразы арміі Напалеона ў бітве на рацэ Бярэзіна ў французскай мове выраз "як на Бярэзіне" стаў ужывацца ў значэнні "вялікая параза, няўдача". Але выхад кнігі "Наполеон — полководец и человек" у Беларусі не назавеш "Бярэзінай" спадара Будона, бо асобнікі з першага тыражу выдання ўжо складана знайсці ў кнігарнях. А значыць — будзе новы наклад, будуць новыя перамогі.



*Жак-Аліўе Будон прадстаўляе беларускім чытачам кнігу "Наполеон — полководец и человек".*

У падтрымку чытання



**Пісьменнік-фантаст Уладзімір КУЛІЧЭНКА:**

# Майстар, Маргарыта і аўдыёзапіс

— Месяц таму захацелася зноў акунуцца ў чароўны свет "Майстра і Маргарыты". Гэтым разам вырашыў не перачытаць, а праслухаць геніяльны раман.

Набыў дыск з запісам, падключыў навушнікі да камп'ютара і лёг на канапу. Расчараванне наступіла вельмі хутка: фальшывілі акцёры, галасы гучалі саладжава, часам залішне патэтычна, а іншы раз не хапала эмоцый там, дзе, на мой погляд, яны павінны былі быць. Загуляліся акцёры, пазабыўшы, што яны не на сцэне, што іх не бачаць — слухаюць. Падумалася: "Мой Майстар тут павінен гаварыць інакш, з іншай, больш пранікнёнай інтанацыяй" — і раптам запытаў сябе: "Чаму Майстар — "мой"? Гэты бессмяротны вобраз стварыў Міхаіл Булгакаў. Да яго твора я не маю ніякага дачынення". Выключыў камп'ютар і ўзяў кнігу.

Як толькі перад вачыма паўсталі знаёмыя радкі, твор "ажыў", зноў заззяў чароўнымі колерамі, што складаюць яго таямніцу. Майстар стаў іншым — мужным, нязломным, гордым, і вядзьмарка Маргарыта папрыгажэла — ператварылася ў клапатлівую жанчыну, што жыве палымяным каханнем, а велічны Воланд… падабрэў. Абсалютна ўсе вобразы змяніліся, сталі такімі, якімі жылі ў маім уяўленні і якімі, дазволю сабе спадзявацца, маляваў іх аўтар. Значыць, і я, шараговы чытач, аказаўся спрычынены да таямніцы нараджэння неспасцігальнай прыгажосці рамана, стаў свайго роду суаўтарам — як і тыя мільёны чытачоў, што набылі кнігу і захапіліся геніяльнымі радкамі.

Дык ці трэба чытаць? Высновы рабіце самі.



Маладзічок

# А ў дзядзькі Валодзі — ды суцэльныя прыгоды




Уладзімір Мазго — “дзіцячы пісьменнік” — слынны і творча актыўны. На ягоным мастакоўскім рахунку кнігі “Калі спрачаюцца маланкі” (1989), “Суседзі па сусвеце” (1994), “Смехапад” (1999), “Таямнічая планета” (2008). Дый яшчэ дзве, што прынеслі аўтару заслужаныя ўзнагароды: “Прыгоды марахода” (2002) былі адзначаны прэміяй прафсаюзаў Беларусі, а за кнігу “Цуда-вуда” (2008) У. Мазго атрымаў прэстыжную літаратурную прэмію “Залаты Купідон”.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Важкія ягоныя набыткі і ў галіне паэзіі дарослай. Цудоўна зарэкамендаваў сябе таксама як паэт-песеннік, супрацоўнічаючы з вядомымі кампазітарамі Эдуардам Ханком, Леанідам Захлеўным, Эдуардам Зарыцкім, Алегам Елісеенкавым, Уладзімірам Буднікам і іншымі.

Сёння У. Мазго па-ранейшаму радуе новымі творамі. Нядаўна ў выдавецтве “Народная асвета” літаральна адна за адной у некалькі месяцаў з’явіліся дзве кнігі: паэтычны зборнік “Лепшыя сябры” і казкі “Каплі для Чаплі”.

У казцы У. Мазго, па ягоным прызнанні, “расказаў па сакрэту” гісторыю пра Белую Чаплю, якая сярод іншых сваіх суродзічаў вызначалася тым, што “казкі чытала маленькай басоце // Пра скарбы Палесся, чароўную Прыпяць”. Толькі здарылася так, што Чапля “нечакана свой голас згубіла”, бо яе “схапіла за горла знянацку прастуда”. Маленькія чапляняты, каб вылечыць маці, паспяшаліся да мудрага доктара Бацяна. Бусел адказаў, што вылечыць іхнюю маці можна кроплямі з гаючай травы, якая расце каля Прыпяці. Чапляняты наскублі яе, не збаяўшыся нават зубастага Шчупака, які пільнаваў дзіва-траву. А ўжо доктар Бацян зрабіў з яе каплі і вылечыў Чаплю.

Гісторыя, здавалася б, простая. Затое павучальная і займальная. Акурат для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, якім кніга “Лепшыя сябры” і адрасуецца ў першую чаргу. Хлопчыкі і дзяўчынкі, пазнаёміўшыся з казкай, зразумеюць: трэба са спагадай ставіцца да тых, хто блізкі табе. Дый увогуле да ўсіх, каму неабходна твая дапамога. Як гэта і зрабіў мудры Бацян. А яшчэ важна быць смелым — як чапляняты.

Уладзімір Мазго перакананы: жанр казкі ніколі не састарэе, пра што і гаворыць у вершы “Казка”: “Але бясконца верыць сэрца: // Навекі казка застанецца. // Яна дабру, любові вучыць, // Яна не можа надакучыць. // У ёй спагада ёсць і ласка. // Нам у жыцці патрэбна казка”.

Як і патрэбны дзецям харошыя, пазнавальныя і вясёлыя вершы. Такіх твораў у кніжцы таксама нямала. У. Мазго знаёміць з першадрукарамі (“Францыск Скарына”, “Сымон Будны”). Прапануе вершы, прысвечаныя харастconnected прыроды, паўсядзённым справам хлопчыкаў і дзяўчынак. Наўрад ці пакінуць абыякавым каго-небудзь з чытачоў і гісторыі “Тузін Васевых прыгод, паяднаў якія спорт”. Апроч таго можна і загадку напаткаць “Што за ліхтар?”, пазнаёміцца з анаграмай “Яна — Аня”. Але куды больш твораў гэтых двух жанраў змешчана ў кнізе “Загадкавая азбука”, што прапануецца дзецям малодшага школьнага ўзросту. “Мазгуем разам”, — заяўляе, адкрываючы гэтую кнігу вершам:

*Для розуму зарадка —*
*У вершах і загадках.*
*Мазгуйце ўсе да аднаго:*
*Стварыў яе для вас Мазго.*

Такія своеасаблівыя ўваходзіны, безумоўна, адразу настройваюць на тое, што і ў гэтай кніжцы не абыдзецца без добрай усмешкі, якая лёгка ўзнімае настрой. Сам жа твор “Загадкавая азбука”, што і даў назву ўсяму зборніку, як нязяжка здагадацца, складаецца з загадак.

Першая з іх такая:

*Быццам*
*Белы снег на дол,*
*Пакрывалам*
*Лёг на стол.*
*Рады госцю*
*Беларус,*
*Засцілаючы*
.....................

Слова-адказ “абрус” лёгка рыфмуецца з папярэднім. Гэтак пабудаваны і іншыя загадкі. Праўда, часам слова-адказ падабраць крыху цяжэй. Што ж, на тое загадка, каб падумаць. Дарэчы, У. Мазго прадставіў у “Загадкавай азбуцы” і літары “й”, “ў”, “ы”, “ь”. Паколькі словы з іх не пачынаюцца, загадкі пабудаваны такім чынам, што слова-адгадка заканчваецца на тую ці іншую з гэтых літар.

Надта ж удалым атрымаўся раздзел “Парад шарад”. Шарада, як вядома, — гэта таксама загадка, але такая, у якой зашыфраванае слова адгадваецца па частках. Прытым кожная з гэтых частак уяўляе сабой самастойнае слова, склад ці літаратуру.



Каторую шараду ў кнізе ні возьмеш, адказ не адразу “даецца”. Трэба падумаць, каб знайсці яго. Безумоўна, гэта добра, бо развіваецца лагічнае мысленне хлопчыкаў і дзяўчынак. Яны пашыраюць свой кругагляд, атрымліваюць лепшае ўяўленне пра некаторыя паняцці. Як, скажам, дзякуючы гэтай шарадзе:

*Слова першае*
*Праколе*
*Слова іншае,*
*Што ў коле,*
*І красуе*
*Ярка дужа*
*У трэцім слове*
*Дзікай ружай.*

Падумаўшы, паразважаўшы, дзеці здагадаюцца, што шып “праколе” шыну, а пасля таго разам з ёю закрасуе шыпшынай.

Запрашае У. Мазго і на “Вечарынку анаграм” — яшчэ адзін раздзел:

*Гэта што за шум і гам?..*
*Вечарынка анаграм!*
*Да цябе,*
*Да таты, мамы*
*Завіталі анаграмы.*
*Без рэкламы,*
*Без раскруткі —*
*Анаграмы-перакруткі.*

Анаграмы невыпадкова ўспрымаюцца перакруткамі, бо анаграмы — гэта такая перастаноўка літар у слове, пры дапамозе якой утвараецца новае слова. Гэтаксама, як і шарады, яны, несумненна, паспрыяюць развіццю разумовых здольнасцей дзяцей, пакажуць ім вялікія магчымасці роднай мовы, як часам з адных і тых жа літар могуць узнікнуць розныя паняцці. Узяць хоць бы гэтую анаграму: “Часам кашу, // Часам суп // Варыць мама // З белых круп. // Прачытай // Наадварот — // Просіцца // У Бутэрброд”. У першым выпадку маецца на ўвазе рыс, у другім — сыр.

Ёсць у кніжцы і акразагадкі, што спалучаюць у сабе сам акраверш і загадку, напісаную ім. Сэнс прачытваецца па пачатковых літарах радкоў. Для пацвярджэння таго, наколькі паспяхова справіўся гэтым разам паэт з пастаўленай задачай, прывяду першую ж акразагадку з падборкі, што складаецца з чатырох твораў згаданага жанру:

*Домік летні між прысад,*
*Агарод і спеўны сад*
*Часта вельмі клічуць нас*
*Адпачыць у вольны час.*

Адказ відавочны: дача.

Прадстаўлены ў зборніку і звычайныя загадкі, а таксама паліндромы (такое слова, выраз і сказ, якія маюць аднолькавы сэнс пры чытанні злева направа і наадварот), метаграмы, пазнаёміцца з якімі У. Мазго запрашае так:

*Што такое метаграма?*
*Пашукай адказ таксама.*
*Літару змяніўшы ў слове,*
*Ты другое слова зловіш.*

А гэта запрашэнне дык і зусім незвычайнае — “Дагонім мы амонімы”. Так называецца заключны раздзел. А “сакрэт амонімаў такі: // Хоць цёзкі, а не двайнікі”. Гэтых “цёзкаў” У. Мазго напісаў ажно 57. Пераважная большасць іх надзіва арыгінальныя.

Калі ж падсумоўваць гаворку пра дзве новыя кнігі У. Мазго, нельга не адзначыць, што гэта не толькі важкі набытак самога аўтара, але і дастойны ўклад у сучасную беларускую дзіцячую літаратуру ўвогуле. Сёння Уладзімір Мазго — адзін самых яркіх прадстаўнікоў у ёй.




## Анкета «ЛіМа»

## Прафесія і прызванне

**1. Ваша асноўная спецыяльнасць і яе сумяшчэнне з творчасцю?**
**2. Перашкаджае ці дапамагае работа творчасці?**
**3. Што першаснае ў агульнажыццёвым?**
**4. Як распараджаецеся ганарарамі?**
**5. Якую б прафесію выбралі, каб не жыццёвыя абставіны?**
**6. Стаўленне сваякоў, сяброў, знаёмых да работы і да творчасці?**
**7. Дзе больш паспяхова рэалізуецеся?**



**Мікалай АБАБУРКА, мовазнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар МДУ імя А. Куляшова:**

1. Пасля аспірантуры і абароны дзвюх дысертацый асноўнай спецыяльнасцю стала толькі “Беларуская мова”, хоць у дыпломе, выдадзеным БДУ імя У. І. Леніна ў 1966 г., напісана: “Беларуская мова і літаратура, руская мова і літаратура”. Апрача таго, тамсама ўдакладнена: “…прысвоена кваліфікацыя «Філолаг. Настаўнік беларускай, рускай мовы і літаратуры»”. Творчасць пачалася і ніяк не скончыцца пасля падмацавання тэарэтычных — лінгвістычных і лінгвастылістычных, літаратуразнаўчых і эстэтычных — выкладак, прыдуманых на хаду ці на ляту, прыкладамі (асабліва ў студэнцкай аўдыторыі пры чытанні лекцый і правядзенні практычных або лабараторных заняткаў) на разнастайныя тэмы і праблемы памянёных вышэй спецыяльнасцей.

2. Штогадовае ўдасканальванне працы з рознымі студэнтамі якраз канчаткова прывяло ад “чужога” да “свайго” (замалёўкі падчас лясных паходаў, абразкі, апавяданні…). Пачаў быў пісаць пра пасляваенных навукоўцаў нешта накшталт аповесці, але з-за раптоўнай хваробы давялося адмовіцца ад “мастацкага адлюстравання рэчаіснасці ў розных жанрах”…

3. Першаснае ў агульнажыццёвым — думанне… Што і як рабіць, дзе і з кім выконваць, варта ці не брацца за пачатак справы і г. д., і да т. п.

4. Ганарары атрымліваў і невялікія, і нячаста… Як і раней, так і цяпер усё “вознаграждение” пускаю на далейшыя публікацыі (збор матэрыялу, падрыхтоўка да выдання, нават распаўсюджванне пасля выхаду ў свет).

5. Мроілася ў школе пра космас, калі набываў сярэднюю адукацыю, месячы гразь і снег на працягу трох восеней, зім і вёснаў (штодзень па 16 км), а таксама калі набываў трохгадовы калгасна-працоўны стаж пасля заканчэння Заастравецкай СШ Клецкага раёна. Вельмі ж хацелася дасягнуць левітанаўскага дыктарства або мальераўскай смерці…

6. Стаўленне навакольных да маіх “высілкаў” featured рознае: хто зайздросціў ці зайздросціць, хто ўсміхаўся ці ўсміхаецца, хто рагатаў ці рагоча… Самыя блізкія і родныя дапамагалі, чым толькі маглі і як толькі маглі, а для мяне было найкаштоўнейшае і найпрыемнейшае тое, што не перашкаджалі раней, што не перашкаджаюць і сёння, хоць фактычна адчуваю сябе цяпер адным-адзінюсенькім ва ўсім белым свеце… Праўда, не варта гнявіць Бога і наракаць на кагосьці або штосьці, таму што напісаў і апублікаваў больш як 200 артыкулаў, рэцэнзій і эсэ ў розных навуковых і перыядычных выданнях, а таксама каля чатырох дзясяткаў кніг і брашур па беларускай філалогіі.

7. Наконт паспяховай рэалізацыі двасякія думкі: ці ўсюды, ці нідзе…

Міхась ДАНІЛЕНКА

# Цень на траве

## *Кароткае апавяданне*



У гародзе зацвіў агурочнік. Пчолы, а іх у апошнія гады прыкметна паменела, рупліва пераляталі з кветачкі на кветачку, бухматыя ад жоўтага пылку, яны “правяралі”, ці ёсць узятак, а потым ляніва ўзляталі і знікалі — быццам раставалі ў густа настоеным мядовымі пахамі паветры.

Цётка Адарка стомлена разагнула анямелую спіну, абаперлася на капаніцу і акінула поглядам свой агарод. Кожную вясну яна садзіла ўсё менш і менш бульбы — не ставала сілы, а грады ўсё ж ускопвала. Высейвала гурочкі, у пульхную зямлю ўтыкала цыбулю, праполвала кроп-самасей. Раней, у пасяўныя дні, калі яна дамаўлялася з мясцовым леснікам Рыгорам, які меў каня, з горада часам прыязджаў сын. Ён мог пахадзіць і за плугам, яе Юрка, мог абагнаць і бульбяныя баразёнкі. Ды ў апошнія гады нешта не заладзілася ў яго жыццё: да маці ён заглядаў усё радзей і радзей. А ў гэтую вясну наогул не прыехаў: перадавалі з горада знаёмыя, што трапіў яе Юрка ў нейкую кепскую гісторыю, запіў, зусім забыўся на маці.

Балюча ныла спіна, і цётка Адарка прысела на ўзмежак грады. Амаль упоравень з яе скроню пад ветрыкам шапацела бадыллё, на кветку дзяцеліны ўзбіралася багоўка і ўсё не магла ўскараскацца на сцябліну. Жанчына адчула, як закалола раптам у левым баку грудзей. Здавалася, нехта невідочны парнуў вострым шылам. Бывала такое і раней, калі быццам праваьвалася ў цёмную бездань сэрца, але Адарка адлежвалася — так-сяк валакалася ў сваю хату, з цяжкасцю ўзбіралася на ложак і суцішвалася, з трывогай прыслухоўваючыся, як боль то адпускаў, то ціснуў зноў — і нельга было тады ні вальней уздыхнуць, ні паварушыць рукой.

Але цяпер анямеў увесь левы бок. Цётка Адарка асцярожна апусцілася спінай на мяккую траву суседняга гарода. Тут падсяваў траву сусед Косцік. Гадоў колькі таму ён пераехаў з іхняй вёскі, якая, лічы, увачавідкі дамірала, у цэнтр калгаса, дзе была і ферма, і праца. А соткі свае Косцік не пакідаў: падсяваў траву, восенню яе “падкормліваў”, а то нават прыязджаў з трактарыстам, які касілкай скошваў траву.

Цётка Адарка даўно не трымала каровы. Раней купляла і кожны год выгадоўвала ладнага вепручка. Але калі пайшло Юркава жыццё цераз пень-калоду, заракалася купляць і парасят. Ды і чым было іх карміць? Абойнай мукі ў вёску амаль не прывозілі, малака, каб забельваць вобмешку, таксама не было. Пяць курыц з пеўнем ды кот — вось, лічы, і ўся Адарчына гаспадарка…

Па небе плылі аблачынкі. У блізкім бярэзніку кукавала зязюля, а Адарцы чамусьці прымроілася, як у такую ж цёплую раніцу яна — у бялюткім вэлюме — спускалася са сваім нарачоным Андрэем па прыступках Уборкаўскай царквы. Зззяла сонца. Радасныя, светлыя твары людзей. І ўсе зычылі маладым шчасця і здароўя. А потым — па дарозе ў Андрэеў дом — іх абсыпалі жытам. Таксама — на шчасце…

Даўно няма той царквы. Адно толькі чырванее падмурак, дзе калісьці высіліся зялёнымі макаўкамі званіцы. Не ведае Адарка, дзе ў ваеннае ліхалецце загінуў яе Андрэй. Пайшоў у далёкім сорак першым і знік — нават малюсенькай вестачкі не прыслаў…

Боль у грудзях то адпускаў, то ціснуў так, што аж займала дыханне. І тады Адарка заплюшчвала вочы, а ветрык казытаў яе зусім белыя валасы, на якіх сядзела багоўка і ўсё ніяк не магла ўзляцець. Растапырвала крыльцы і чамусьці не ляцела, а перабіралася на Адарчыну белую ў крапінку хустку і на нейкі момант там замірала.

…Юрка ў Адаркі знайшоўся ад другога мужа — інваліда, што ў нялёгкія гады прыстаў у прымы. Неблагі быў чалавек. Перарабіў адрыну, абсталяваў хату. У двары выкапаў глыбокую студню. Па ваду да Адаркі прыходзіў і сусед Косцік, і людзі аж з канцавога завулка іхніх Выселак. Ды не даў бог шчасця ім пажыць. Ціха адышоў муж у адзін з зімовых дзён, і толькі Юрка, як памяць пра злашчаснае жыццё, застаўся ў Адаркі.

Пад аблачынкай рабіў плаўныя кругі, раскрыўшы крылы, драпежнік каршун. Калі жанчына расплюшчвала вочы, яна бачыла, як птушка паступова быццам зніжалася. “Каб, крый божа, не схапіў якое курчо”, — пранеслася і знікла, быццам растала, думка. Чамусьці ўспомнілася, як яна даіла кароў, калі была маладзейшай, і іх — жанок — вазілі на ферму. Уручную даілі кароў. І як пайшла яна на пенсію (якая там пенсія!), дык спачатку доўга не магла згінаць каструбаватыя пальцы: балелі рукі. Балелі і ногі: жартачкі — і летам, і зімой мясіла гумовікамі гной і гразь каля тых хлявоў.

Шэры драпежнік рабіў кругі ў небе і апускаўся ўсё ніжэй і ніжэй. Яго цень сігануў па Адарчыным твары. Жменька вераб’ёў спалохана сыпанула з бадылля на страху Косцікавай хаты.

Адна рука цёткі Адаркі, што раней абапіралася на капаніцу, цяпер ляжала на сцяблінах лугавой аўсяніцы. Трава прыкметна падрасла, і Косцік, калі прыязджаў у вёску, неяк казаў, што можна рабіць першы ўкос.

Сонца на момант схавалася за аблачынку. Па зямлі, па градах — агурочніку, гарбузніку і фасолі — пабеглі хуткія цені туды, у канец агарода, дзе высіліся бярозы і адкуль яшчэ колькі хвілін таму даносілася кукаванне зязюлі. Лёг цень на траву. Падзьмуў ветрык — заблыталася ў сівых Адарчыных валасах. Яна не краталася, не варушыла рукамі — ляжала з расплюшчанымі вачыма, і ў зрэнках адлюстроўвалася блакітнае неба, аблокі. Багоўка ўрэшце злаўчылася і паляцела над цёплай зямлёй. Знік недзе і каршун. А цётка Адарка ўсё ляжала, быццам адпачывала поруч са сваёй капаніцай каля градак.

…Пад вечар яе знайшоў на траве сусед Косцік. Ён акурат прыехаў з цэнтральнай сядзібы і ішоў да сваёй адрыны, каб накляпаць касу.

— Я гэта дзіўлюся, — апавядаў пасля Косцік, — чаму цётка Адарка ўсё ляжыць і ляжыць на ўзмежку? Я ўжо і два пракосы прагнаў, а яна ўсё ляжыць. Узяў я яе за руку, а рука — халодная, бы лядзяш.

— Лёгкая была смерць, — хіталі галавамі старыя жанчыны. — Нагаравалася, бедная…. Трэба ж неяк Юрка звясціць.

***

Пахавалі цётку Адарку на трэці дзень на мясцовых могілках. Ціха, непрыкметна. Юркі не было: трапіў туды, адкуль, казалі, нават на пахаванне маці не адпускаюць. А двое ўнучкаў Адарчыных з нявесткай — Юркавай жонкай — прыязджалі. Стаялі ціхія, напалоханыя, як канаплянікі, і глядзелі на быццам памаладзелую, незнаёмую ім бабулю.

Косцік прывёз зварааны з жалезных трубак крыж (як-ніяк, даўні Адарчын сусед), і Юркава жонка — маленькая, як дзяўчо, з цёмнымі кругамі пад вачыма — аддала яму за крыж бутэльку гарэлкі.

…Шумелі на могілках сосны. Пахла жывіцай і чаборам. Ён за апошнія гады разросся паміж збуцвелых крыжоў.

# Туман ярам…

## *Сучасная пастараль*

У палаце яго ложак стаяў ля акна. Калі падымалася сонца, першае, што ён бачыў: там, у лагчыне, за якой праходзіла шаша, падымаўся туман. Часам туман ахопліваў усё наваколле — даходзіў аж сюды, да будынкаў санаторыя. Зрэдку чапляўся касмылямі за верхавіны кустоўніку, што сям-там трапляўся паабапал дарогі.

Аднойчы ў тумане, вакол лагчыны, хадзіў бусел. Спачатку птаха была відна ўся: цыбатыя ногі, маленькая, быццам вытачаная, галава. Потым бусел схаваўся ўвесь у тумане, угадвалася толькі галава і крылы з чорным апярэннем. Складвалася ўражанне, што птушка плыла ў густым малацэ.

І на памяць яму ўсплылі словы песні. Правільней, песня ўвесь час жыла ў ім, у самым яго сэрцы, памяці:

*Туман ярам,*
*Туман далінаю…*

Якія словы там далей? Да болю блізкія і знаёмыя. Гэта ж яны тады — далёка-далёка адсюль, ад гэтых пакояў, бліжняга бору — спявалі:

*З-за туману нічога не відна,*
*З-за туману…*

Урэшце ж нешта павінна было быць відна ім там, каля славутага кепскімі прадчуваннямі перавалу Саленг, у чужым для іх Афганістане? Мусіць, таму ён з такім душэўным хваляваннем спяваў — асмеліўся ж, дзівак! — дуэтам з той незнаёмкай — адчувалася нечым блізкай яму — жанчынай:

*Толькі відна дуба зеляного,*
*Толькі відна…*

Далей словы ліліся самі сабой. І салдаты, што сядзелі на абломках скал, скінуўшы цяжкія бронекамізэлькі і паклаўшы аўтаматы, ведалі:

*Пад тым дубам крыніца стаяла,*
*Ў той крыніцы дзеўка воду брала.*

Высокі голас яго напарніцы, якую ён толькі сёння ўбачыў тут, за тысячы кіламетраў ад роднага дому, тужліва паскардзіўся:

*Упусціла залатое вядзерца,*
*Упусціла…*

І зноў жа шчымліва-загадкава запыталася ў яго. І абнадзеіла, паабяцала:

*А хто тае вядзерца дастане,*
*Той са мною на ручнічок стане…*

У іхняй вёсцы, на Палессі, няблага спявалі яго бабуля і маці. Нешта, мусіць, перадалося і яму — зусім мала, нейкія кропелькі.

Тады яны не змаглі даведацца пра маладога казачу, які паабяцаў дастаць запаветнае вядзерца і стаць на той ручнічок. Трывога! Душманы, вочы якіх, здавалася, сачылі за кожным іхнім крокам тут — нават на вышыні, дзе цяжка дыхалася, напаміналі: расслабляцца нельга ні на хвіліну. Вайна…

Колькі ж вады ўцякло з той пары? Ён даўно вярнуўся дадому. Два разы спрабаваў наладзіць сямейнае жыццё і ўсё — марна. Часта хварэў. Навечна застаўся ў душы боль, што не змог прывесці ў апошні шлях любімую бабулю… Лячыўся. І вось цяпер праводзіць тужлівыя дні ў гэтым санаторыі, сочыць з акна, як туман полагам ахутвае наваколле, плыве туды, да шашы, дзе стаяла машына. На ёй прыязджалі да іх артысты.

Можа, ніхто так трапятліва не чакаў артыстаў, як ён. Сярод іх імёнаў прачытаў і прозвішча той, з якой тады спяваў у далёкіх гарах. Цяпер яна была замужняй. Жанчына ў гадах, распаўнела… Яна ці не яна? Але вочы, калі яна паднялася на эстраду (выступалі ў іхнім клубе), свяціліся маладосцю, задорам, нечым таямнічым. І раптам ён адважыўся. Падняўся на памост клуба.

— А давайце паспрабуем “Туман ярам”…

— “Туман далінаю”? — здзівілася яна. І паправіла завязаны на шыі каснічок касынкі. — Як жа там далей?

— З-за туману нічога не відна…

— Толькі відна дуба зеляного, — па-маладому, радасна засмяялася яна.

І на вачах многіх схуднелых, з маршчыністымі тварамі людзей быццам тварыўся цуд. Яны спявалі (дуэтам!). А ўсе зачаравана слухалі. І бачылі ў сваім уяўленні і дуб, і тую крыніцу, у якую дзяўчына ўпусціла вядзерца. Мусіць, недарэмна вядзерца ў песні называлі “залатым”, і ўпэўненасць маладога казачы, які паабяцаў абавязкова дастаць тое вядзерца і стаць з дзяўчынай на ручнічок. Спявалі прафесіянал і па сутнасці аматар — і ў іх атрымлівалася! Дзівосы!

…Потым ён праводзіў артыстаў да шашы. Там чакаў іх невялічкі аўтобус, на якім яны прыехалі з горада. Ён са спадарожніцай крыху адсталі ад іншых: усё не маглі нагаварыцца… Вядома, яны не бачылі, як амаль з усіх вокнаў санаторыя позіркамі іх суправаджалі людзі, што тут лячыліся і працавалі. І ўрачы, і тыя, хто адпачываў, папраўляў здароўе. Якраз і туман пачаў паволі рассейвацца. Вунь паявіліся постаці — артысткі і яго, схуднелага, бы фасолевы стручок. Вунь ён прытрымаў яе далоні, калі жанчына садзілася ў машыну. Дакрануўся вуснамі да маленькай рукі. Відаць, недарэмна некалі мудрэц сказаў, што кожны павінен радавацца свайму і чужому шчасцю…

# Караван вулічных тэатраў

**Прадстаўнікі вулічных тэатраў Беларусі абмеркавалі перспектывы фестывалю вулічных тэатраў у Яраслаўлі з яго арганізатарамі — Марынай Акішынай і Наталляй Арловай.**

**Алесь СУХАДОЛАЎ, фота аўтара**

Сёлета ў Яраслаўлі прайшоў I Міжнародны дабрачынны фестываль вулічных тэатраў, удзел у якім узялі два беларускія калектывы — тэатр-студыя глухіх “Шостае пачуццё” з Магілёва і мінскі інтэграваны тэатр “Мімоза”. Разам з беларусамі ў чэрвені ў горад на Волзе з’ехаліся артысты з Адэсы, Санкт-Пецярбурга, Масквы, Архангельска, Ніжняга Ноўгарада, Пензы, Пярмі, Чарапаўца. Асабліва запамінальным момантам было вялікае карнавальнае шэсце па гарадской набярэжнай, да якога далучыліся і гараджане — у касцюмах, загрыміраваныя або ў масках. Вулічная культура з еўрапейскім адценнем крочыла па горадзе, у якім быў заснаваны першы рускі тэатр Фёдара Волкава і дзе правёў юнацтва Максім Багдановіч. Разуменне вуліцы як агульнай прасторы, свабоднай для самавыяўлення, легла ў аснову гэтай культурніцкай ініцыятывы. Нездарма арганізатарамі і актыўнымі ўдзельнікамі фестывалю сталі выпускнікі і гадаванцы дзіцячых дамоў краін былога Савецкага Саюза.

У арганізацыі праекта былі задзейнічаны дзясяткі валанцёраў, падрыхтоўка якіх вялася на працягу года. Фармат мерапрыемства прадугледжваў шэсць адкрытых фестывальных пляцовак у розных месцах горада, дзе выступалі эксперыментальныя тэатры, артысты-лялечнікі, клубы гістарычнай рэканструкцыі, праходзілі фаер-шоу. Уваход на ўсе мерапрыемствы быў вольны, але артысты мелі права збіраць грошы ў капелюшы. Сабраныя сродкі пайшлі на падтрымку дзяцей-сірот з дзіцячых дамоў Яраслаўскай вобласці.

Правядзенне чарговага фестывалю ў Яраслаўлі запланавана на чэрвень наступнага года. Мяркуецца значна пашырыць яго фармат, павялічыць працягласць да 4 — 6 дзён. А самае галоўнае — перадаць фестывальную эстафету гарадам Беларусі і Украіны. Яраслаўцы плануюць запрасіць удзельнікаў і гасцей свайго мерапрыемства ў Адэсу, Кіеў, а бліжэй да восені наступнага года наведаць разам з імі Мінск. Гэткім чынам — паведаміла пісьменнік, мастак, рэжысёр і грамадскі дзеяч, лідар міратворчага руху “Харытонаўцы” Марына Акішына — павінна спраўдзіцца мара Вячаслава Палуніна пра “караван міру” вулічных тэатраў свету.

Увогуле, з асобай легендарнага клоўна, стваральніка піцерскага калектыву “Лицедеи” В. Палуніна звязана развіццё вулічнага тэатра ў СССР. Менавіта ён у гады “перабудовы” зладзіў міжнародныя фестывалі гэтага віду мастацтва ў Маскве і Санкт-Пецярбургу, пасля чаго паспяхова вандраваў са сваім “караванам” па ўсёй Еўропе. М. Акішына, а таксама беларускі клоўн, заснавальнік творчай суполкі “Артэль камедыянтаў” (г. Магілёў) Жан Мельнікаў працягваюць справу свайго знакамітага настаўніка.

Акрамя названых вышэй асоб у сустрэчы ўзялі ўдзел прадзюсар яраслаўскага фэсту Наталля Арлова, ветэран беларускай пантамімы і арганізатар фестывалю фрык-тэатраў “Blazna” Уладзімір Кустаў, начальнік аддзела культуры адміністрацыі Ленінскага раёна г. Мінска Аксана Нікіціна, якая займаецца арганізацыяй культурна-відовішчнай дзейнасці на пешаходным участку вул. К. Маркса, а таксама прадстаўнікі творчых калектываў: народнага пластычнага тэатра “ІнЖэст”, суполкі “Майстэрня ўражанняў”, інтэрактыўнага тэатра “Мусташ”, адэкватнага тэатра “вКубе”, тэатра-студыі глухіх “Шостае пачуццё”, сенсорнага тэатра “Адлюстраванне”, творчага праекта “Backstage”, тэатра для дзяцей “Карандаш”, тэатра лялек “Дом Сонца”, сярэднявечнага “Махлярскага тэатра ДыГрыза”, прадстаўнікі руху аматарскіх тэатраў “Дзверы”, творчага саюза “Движение”, дабрачынных і валанцёрскіх арганізацый. Каардынатарамі сустрэчы з беларускага боку выступілі мастацкі кіраўнік тэатра інвалідаў “Мімоза” Вольга Прохарава і Мікіта Моніч, рэжысёр студэнцкага тэатра факультэта міжнародных адносін БДУ.



*Марына Акішына.*

Думаецца, сёння сапраўды наспела нагода для правядзення ў Мінску фестывалю такога кшталту. Калі на выхадныя стаў перакрывацца аўтамабільны рух па вуліцы К. Маркса і сюды пачалі прыходзіць артысты ды музыкі, у культурным жыцці сталіцы адчуўся зрух. Горад атрымаў адзнаку пэўнага еўрапейскага шарму, займеўшы ўласны “арбат” ці “крашчацік”. Спадзяёмся, што заклікі яраслаўцаў знойдуць водгук як сярод дзеячаў вулічнага тэатра, так і адміністрацыі горада ды простых гараджан.

# Магія талентаў: яркіх і самабытных

**Пад загадкавай назвай “Горад залаты” ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва прайшла выстаўка твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Любові Кірылавай і Веры Блінцовай.**

**Раіса МАРЧУК, фота Кастуся Дробава**



*Вера Блінцова “Дэкаратыўны кот”. 2010. Дэкаратыўная скульптура — аксаміт, парча, вышыўка, метал, тэкстыльная графіка.*

Абазначыць адным словам тэхніку, у якой Любоў Кірылава стварае свае дэкаратыўныя пано-карціны, складана. Гэта не лапікавае шыццё, не аплікацыя і не “пэчворк” у іх класічным выглядзе. Хутчэй аўтарская распрацоўка з выкарыстаннем разнастайных тэкстыльных матэрыялаў. Эфектныя работы Любові здзіўляюць сваёй шматпланавасцю і старанай прапрацоўкай дэталей. Кожнае шво бездакорна апрацавана і з любоўю аздоблена вытанчанай тасьмой, што надае карцінам дадатковы аб’ём і ўскладненасць.

Гэта вельмі карпатлівая праца, калі ад стварэння асновы да аб’ёмных кветак, матылькоў і птушак, якія ажываюць на пано, праходзяць месяцы. Работы мастачкі выдатна дапаўняюць сучасныя інтэр’еры, робячы ў іх маляўнічыя і эмацыйныя акцэнты. Трэба адзначыць, што ў карцінах Любові адчуваецца ўласны почырк — непаўторны і адразу пазнавальны. У яе работах выразна прасочваецца і графічнасць адточанага малюнка, на які натуральна і мякка накладваюцца тканіны, цудоўна прадуманыя па колеры і фактуры, дапоўненыя гульнёй блікаў. Пры гэтым тканіны чароўным вобразам змяняюцца, набываючы магічную прывабнасць новага матэрыялу.

Вера Блінцова ў сваіх работах выкарыстоўвае прынцып стварэння скульптуры — асновай служыць каркас з металічнага дроту, які ўскладняецца драўлянымі і пенапластавымі дэталямі. Аб’ём набіраецца з дапамогай паралону і сінтэпону, фіксуецца шыццём і клеем. Далей форма замацоўваецца па прынцыпе тэхнікі пап’е-машэ. Усё гэта — выключна ручная праца. Завяршальнай фазай з’яўляецца дэкаратыўнае рашэнне вонкавага пакрыцця мяккай скульптуры. Прынамсі. вонкавае пакрыццё — гэта працяглая творчая праца, калі мноства дэкаратыўных дэталей ствараюць адзіны мастацкі вобраз. Мастачка ў скульптурах выкарыстоўвае ручную і машынную вышыўку, вышыўку шоўкам, бісерам і стразамі, а таксама карункі, аксаміт, парчу, паркаль, металічную фурнітуру, “залатую” тасьму і шнуры.

— Калі заходзіць размова пра работы Любові Кірылавай і Веры Блінцовай, заўсёды чую адзіны водгук: “Якая прыгажосць!”, — распавяла падчас адкрыцця выстаўкі намеснік старшыні секцыі мастацкага тэкстылю Беларускага саюза мастакоў Наталля Сухаверхава. — І гэта менавіта так. Мастацтва дзвюх чароўных жанчын грунтуецца на трох кітах: таленце, залатых руках і дзіўным пападанні ў час. Бясспрэчна, іх мастацтва, сучаснае і запатрабаванае, — таксама вельмі важная рэч.



*Любоў Кірылава “Натхненне-1”. 2011. Мастацкі тэкстыль — парча, аксаміт, шнур.*

Само сабою ўзнікае пытанне: чаму выстаўка мае такую назву — “Горад залаты”? Адказ на яго дае Любоў Кірылава:

— Гэтая выстаўка прысвечана нашаму любімаму гораду — Мінску. Дзе б мы ні былі, усё роўна вяртаемся дамоў. Мабыць, цяпер мала хто ведае, што некаторыя архітэктары прапаноўвалі забудаваць пасляваенную беларускую сталіцу па плане Кампанелы: у цэнтры — сонца, круг, а ад яго промнямі адыходзяць вуліцы. Адным словам, горад залаты. У гісторыі Мінска быў такі момант. Горад залаты, у нашым разуменні, паўстаў менавіта ў выстаўцы. Гэта штосьці вельмі цёплае, пазітыўнае і казачнае.

Як Любоў і Вера раслі ў сваёй творчасці, дакладна ведае іх настаўніца, былая выкладчыца Мінскага тэхналагічнага каледжа, мастацтвазнаўца Валянціна Савельева.

— Пачыналі мастачкі як мадэльеры. Мадэлі адзення, якія яны стваралі пасля інстытута, належалі да высокай моды. Потым Любоў і Вера пачалі працаваць у іншым кірунку. Сюжэты работ Любові і Веры — любоў да прыроды, жыцця, чалавека. Хацелася б, каб такая выстаўка была абавязкова заўважана. На мой погляд, у Мінску павінен быць музей ці хаця б пастаянная экспазіцыя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў розных тэхніках, каб маладыя мастакі маглі прыйсці і паглядзець гэтыя цудоўныя работы.



*Вера Блінцова і Любоў Кірылава падчас адкрыцця выстаўкі.*

**Даведка “ЛіМа”:**

***Любоў Кірылава нарадзілася ў 1958 г. у Польшчы. З 1964 г. жыве ў Мінску. У 1976-м скончыла Мінскі тэхналагічны тэхнікум па спецыяльнасці “Мастак-мадэльер жаночай сукенкі”, потым Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут па спецыяльнасці “Мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва”. З 1983 па 1990 г. працавала мастаком па інтэр’еры на Барысаў-скім мастацкім камбінаце. Член Беларускага саюза мастакоў, дыпламант фестывалю моды ў Таліне (1987), лаўрэат конкурсу моды “Міла” (Мінск, 1994) і Міжнароднага фестывалю “Лапікавы стыль” (Санкт-Пецярбург, 2004), прызёр I Беларускай трыенале дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (Мінск, 2009), удзельнік міжнароднага праекта “Каляровая нізка” Берлін, 2012).***

***Вера Блінцова нарадзілася ў 1958 г. у Польшчы. У 1983-м скончыла Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут па спецыяльнасці “Мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва”. Вучылася ў М. Раманюка, Л. Міронавай, В. Гусева. Член Беларускага саюза мастакоў. У 1994 г. стала ўладальнікам Гран-пры I фестывалю моды “Міла” ў Мінску, у 2004-м — лаўрэатам Міжнароднага фестывалю “Лапікавы стыль” у Санкт-Пецярбургу, удзельнікам I Беларускага трыенале дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і міжнароднага праекта “Каляровая нізка”. Работы мастачкі экспанаваліся ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага мастацтва, у гэтым годзе — на выстаўцы ў Берліне. Жыве і працуе ў Мінску.***



Прасвятая Багародзіца (храм Архангела Міхаіла).

# Пра нябеснае ды зямное



Зрабіўшы першыя прафесійныя крокі ў кіно (“Ліса, мядзведзь і мужык”, 1982; “Меч”, 1989; “Апошняе паляванне”, 1992; і інш.), у 1990-я гг. Віктар Доўнар пачаў адлік творчага сталення мастака-іканапісца. Сёлета ў яго двайны юбілей: 60-годдзе з дня нараджэння і 20-годдзе прафесійнага служэння іконе і храму. За два дзясяткі гадоў — некалькі соцень ікон і больш як дзесяць распісаных храмавых памяшканняў, у тым ліку цэрквы Марыі Магдаліны і Уваскрэсення Хрыста ў Мінску, храмы ў Польшчы і Чарнагорыі.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Юбілей выдатнага мастака-іканапісца — нагода асэнсаваць ролю іконы ў духоўным жыцці сучасніка. Не будзе перабольшваннем, што і росквіт, і крызіс іконы — сведчанне культурнага ўзыходжання або заняпаду народа. Пра змены ў яго духоўным жыцці ікона скажа гэтаксама дакладна, як барометр — пра змяненні атмасферных працэсаў. Палітычным катаклізмам XX стагоддзя невыпадкова адпавядала практычна поўнае выміранне іконы. Невыпадковае і яе адраджэнне ў самым пачатку постсавецкай эпохі: прыклад Віктара Доўнара — яскравае таму пацвярджэнне.

Заканамерны, відаць, у вопыце мастака прыярытэт візантыйскай іканапіснай традыцыі, калі ікона захоўвала чысціню хрысціянскага светапогляду. У той час на іконах малявалі не твары, але лікі, не постаці, але абразы, — незалежныя ад страсцей і прасветленыя Духам Божым душу і цела. Такая ікона нагадвала пра Боскую прыгажосць чалавека, хоць у поўнай меры гэта прыгажосць паўставала толькі ў асобах святых. “Унёскам” у традыцыю сталі апавядальнасць, натуралістычныя падрабязнасці, элементы дэкору. Спрасціўся духоўны змест, іканапіс пэўны час быў чымсьці накшталт мастацкай вытворчасці.

Увага да чысціні канона — магчымасць нагадваць сучасным прыхаджанам пра маральную чысціню, выхоўваць чысціню і яснасць мыслення, у тым ліку — праз уласнае жыццё і прызначэнне. У рэшце рэшт, той ці іншы святы на іконах — гэта чалавек, яго досвед — наш досвед (мінулы, цяперашні або перспектыўны). Увасобіць у фарбах вобраз і драмы святых — значыць наблізіць іх да нас, а нас — да іх. “Мы прыходзім да іконы — і мы павінны ўбачыць чысціню. Дзеля таго, каб чыстымі былі самі”, — кажа Віктар Доўнар. Адпаведнае дбанне пра творчасць, гледача і сябе — лейтматыў яго роздуму падчас нашай гаворкі напярэдадні юбілею.

**— Віктар Леанідавіч, вы маглі б ахарактарызаваць стан рэлігійнай духоўнасці ў сучаснай Беларусі? Як вам здаецца: ці перайшла “мода на рэлігію” (рыса 1990-х — пачатку 2000-х гг.) у больш пазітыўную стадыю?**

— У рэлігійным жыцці любога грамадства ёсць узыходжанні і спады. Цяжка вызначыць, што лепей. Пры Савецкай уладзе быў заняпад, але былі людзі дужыя духам (хоць іх было няшмат), тыя, якія сапраўды верылі, праглі веры. Калі прыйшла свабода веравызнання, шмат хто кінуўся ў царкву — маўляў, нарэшце яно, адраджэнне. Вызначылася, аднак, што вера — не для ўсіх, бо трэба шмат працаваць над сабой, а гэта цяжка. Таму “мода” прайшла, адбыўся “натуральны адбор”. Цяпер становішча такое. Хтосьці верыць фармальна: заходзіць у царкву, здзяйсняе абрады. Іншыя шукаюць эстэтычнай насалоды — як ад прыроднай прыгажосці або свецкага жывапісу. Іншымі словамі, пасля “пад’ёму” адбыўся спад. З сапраўднай верай засталіся тыя, хто, можа, не вельмі вытанчана разумее багаслоўе, але гатовы да працы веры, да пастаяннай працы над сабой.

**— Па-сапраўднаму вераваць — гэта...**

— Гэта значыць мець чыстае сэрца, цвярозы розум і... любоў — не толькі да сябе. Вядома, патэнцыяльна на гэта здольны кожны. Таму і неабходна рэлігійнае асветніцтва. Чалавек павінен не проста прыйсці ў царкву, але і разумець усю глыбіню свайго дзеяння. Каб не проста глядзеў на ікону, але духоўна размаўляў з ёй. Дзеля гэтага яму недастаткова прачытаць Евангелле, трэба паслухаць і адпаведную пропаведзь. Пропаведзь надзвычай неабходная, і ў нас ёсць выдатны, магутны прапаведнік — айцец Уладзімір Башкіраў, які служыць у царкве Усіх Святых. Ён здольны данесці Слова Божае сучасніку на сучаснай мове, не спрашчаючы сэнсу. Мы, іканапісцы, таксама чытаем лекцыі — напрыклад, на праваслаўных выстаўках. Шкада, што на іх не прыходзяць святары або семінарысты.

Мы хочам, каб чалавек, калі ён прыйшоў у Царкву, застаўся там, імкнуўся туды, каб у яго там нарадзілася малітва. Малітва ж родзіцца тады, калі ён бачыць выяву блізкую і дарагую. Таму ікона не павінна быць “таннасцю” (напрыклад, рэпрадукцыяй), да таго ж не павінна абцяжарвацца сімваламі. Трэба данесці духоўную сутнасць таго ці іншага святога — для гэтага вызначальным будзе не колькасць дэталяў і сімвалаў, але ўласнае разуменне вобраза іканапісцам, які піша сёння, разумее ікону сёння і прадбачыць, у першую чаргу, сённяшняе яе ўспрыманне.

**— Тут мы непасрэдна падышлі да вашага досведу...**

— У маім досведзе веры і прызванні іканапісца вызначальную ролю адыгралі духоўныя зносіны з айцом Уладзімірам Башкіравым, які быў настаяцелем Лагойскага прыхода. Мы з жонкай прыйшлі ў храм з адкрытым сэрцам і адкрытай душой, і мне думаецца, Бог пачуў нашу малітву: праз год пасля вянчання ў нас нарадзілася дзіця. Пропаведзі айца Уладзіміра і размовы з ім успрымаліся як цуд, адкрыццё чагосьці новага, свежага. Я і раней у якасці хобі займаўся іконай, але пасля гэтых падзей мне захацелася цалкам прысвяціць сябе ёй. Да таго ж праца рэжысёра не абяцала на той момант творчых перспектыў, не было разгону, а тут усё кіпела...

**— Ці ёсць святы, вам асабліва зразумелы і блізкі?**

— Святы Мікалай. З ім звязанае ўсё жыццё: святое хрышчэнне я прыняў у царкве Св. Мікалая ў Вільні, вянчаўся ў царкве Св. Мікалая ў Лагойску. Першы наш сын названы ў гонар гэтага святога. Падтрымку і дапамогу яго я адчуваю заўсёды. Мы часта ствараем яго выявы. Да таго ж нашай сям’і пашчасціла прыкласціся да яго мошчаў у італьянскім горадзе Бары. Гэта было незабыўнае ўражанне.

**— Сёння вашы трое дзяцей таксама працуюць поруч з вамі?**

— Так. Старэйшы сын не толькі не саступае мне, але ў чымсьці і пераўзыходзіць. Малодшы сын і дачка таксама шмат дапамагаюць.

**— Пачаўшы з “хобі”, як атрымалася выйсці на такі высокі ўзровень майстэрства?**

— Усё было паступова: “капаліся” ў навуковых працах, вывучалі работы розных школ і майстроў. Наведвалі і цяпер наведваем храмы з найбольш выбітнымі калекцыямі ікон, з арыгінальнымі фрэскамі: у Беларусі, Польшчы, Расіі, Грэцыі, Ізраілі, Чарнагорыі... Крыніц пра тэхналогіі іканапісу ў 19-90-я гг. практычна не было, таму вучыліся на ўласных памылках. Збіралі каменьчыкі, таўклі іх і рабілі фарбы, самі майстравалі рыштаванні, пілавалі, габлявалі. Гэта трэба было прайсці, і гэта было цікава. Цікавым было рамяство, цікавай была творчасць. Ікона — як Бог: адкрываецца зноў і зноў, у новых вымярэннях і новых сэнсах. Галоўным для нас заўсёды было не зацыклівацца на дасягнутым — нават калі тое, у чым толькі пачынаеш сябе спрабаваць, падаецца наіўным і недасканалым.





Фрэска. Св. Ігнацій Баганосец.

**— Над чым цяпер працуе майстэрня “IKONIQUE”?**

— Якраз сёння на мастацкім савеце быў зацверджаны наш праект мазаікі для алтарнай часткі Духоўна-асветніцкага цэнтра пры Мінскім кафедральным саборы. Гэта чатыры евангельскія эпізоды. Ёсць нашы мазаікі ў царкве святых Пятра і Паўла на Нямізе. Карацей, мы асвойваем гэты кірунак. Чаму? Таму што мазаіка, г. зн. камень, амаль вечная. Людзі будуць радавацца ёй стагоддзямі. Для іканапісца гэта вельмі важна. Але мазаіка — вельмі працаёмкая тэхналогія, патрабуе канцэнтрацыі, адпаведнага характару мастака. Фрэскавы іканапіс таксама працаёмкі. Уявіце, як гэта — сядзець пад купалам пры саракаградуснай спякоце! А наносіць фарбы на тынк, які не высах? Трэба ж маляваць вельмі хутка — імправізацыя якраз у стылі джазу! Да таго ж ва ўсёй рамесніцкай мітусні памятаць пра вобраз! Цяжка, але цікава. У рэшце рэшт, усё мастацтва павінна быць такім.

**— Сакраментальнае пытанне пра творчыя планы...**

— Мы стварылі праект іканастаса і роспісу для храма ў Севастопальскім парку Мінска. Храм невялікі, і нам здаецца, што там да месца будзе г.зв. катакомбны стыль іканастаса, у стылі часоў першых хрысціян. Увогуле ёсць шмат распачатых прац, якія трэба завяршыць: у Тарасаве, Налібоках, Алесіне, Сямяцічах.

**— Што б вы сказалі наконт сучаснай беларускай школы іканапісу?**

— У нас вельмі шмат сапраўды таленавітых мастакоў, нягледзячы на тое, што яны не такія папулярныя, як украінскія або расійскія іканапісцы. Аляксей Дзмітрыеў, Павел Жараў, Сяргей Бышнёў, Сергій Нежбарт з Елізавецінскай абіцелі... Магчыма таму, што вельмі мала прэзентацый. За апошні час была толькі адна значная — “Іканапіс Беларусі XXI ст.” (2004). Зразумела, праходзяць і персанальныя выстаўкі, але гэтага недастаткова.

**— А які стан айчыннага мастацтвазнаўства ў галіне іканалогіі?**

— Гэта праблема. Ёсць таленавітыя прафесійныя знаўцы іконы, але часцей за ўсё яны не працуюць з намі ў непасрэдным кантакце. Увогуле ствараецца ўражанне аморфнасці мастацтвазнаўчага асяроддзя ў адносінах да іконы. У той жа час існуе вельмі сур’ёзная асветніцкая праблема наконт успрымання іконы, калі ўласна праваслаўныя выявы не адрозніваюць ад уніяцкіх або каталіцкіх. Але ж гэта іншыя традыцыі, трэба гэта тлумачыць. Успрыманне вернікаў будзе нашмат багацейшым, калі разам з праваслаўнымі яны ўбачаць рысы стыляў іншых канфесій.

Шмат чаго ў рэлігійна-духоўным асветніцтве маглі б рабіць СМІ: расказваць і паказваць людзям, што такое ікона ўвогуле, іконы розных канфесій, раскрываць характар іконы, сімволіку, духоўную важкасць, цудатворства, гісторыю беларускай іконы.

Здаецца, праблемы вынікаюць з таго, што пры Беларускім саюзе мастакоў не існуе секцыі іканапісу. Таксама няма ў нас прафесійнай іканапіснай школы. Гэта пры 80 працэнтах праваслаўнага насельніцтва! Зразумела, у такіх умовах мастакі не маюць магчымасці дасканала авалодаць тэхнікай храмавых работ. Тыя, хто не належыць да прыхода, маюць складанасці з аплатай, з памяшканнямі. Пры такой сітуацыі патрэбныя героі-адзіночкі. Падзвіжнікі. Але іх таксама не хапае.



В. Доўнар за працай.

Да 130-годдзя Якуба Коласа

# Жанчыны Коласа

“Прозвішча яе было Каменская”. Так сказаў Якуб Колас Максіму Лужаніну, калі дзяліўся ўспамінамі пра “маладую настаўніцу пінскай чыгуначнай школы”. Такая просценькая згадка мужа пра жонку. Нават не пачутая, а прачытаная, яна, канстатуючы факт з біяграфіі Марыі Дзмітрыеўны, малюе пачуццё Якуба Коласа — сталае, ператоранае ва ўспамін, — даволі яркімі фарбамі.

**Святлана ДЗЯНІСАВА**

*М. Д. М.*

Дзень нараджэння Марыі Каменскай у сям'і святкавалі паводле новага стылю 8 лютага, хоць правільна было б рабіць гэта 7-га. Згодна з метрычнай кнігай “Литовской духовной консистории Ошмянской церкви Ошмянского благочиния” дзяўчынка Марыя ў псаломшчыка Дзмітрыя Каменскага нарадзілася 26 студзеня 1891 года. Дадаваць да даты паводле старога стылю трынаццаць дзён — такі парадак прыняты ў дачыненні да ХХ стагоддзя. Народжаных у ХІХ, такім чынам, патрэбна лічыць на дзень старэйшымі. Правіла гэта, дарэчы, ці то не было агульнавядомым, ці то ігнаравалася, таму што і ў спадчыне самога паэта, творчай і эпісталярнай, некаторыя згадкі пра асабісты дзень нараджэння прыпадаюць на 4-ы дзень лістапада замест 3-га.

Цешча Коласа Марыя Цімафееўна была дачкой немкі-лютэранкі. Як Генрыета Карлаўна Гагенлоэ апынулася на віленскай зямлі, дакладна невядома. Але вось што цікава. Першы муж Генрыеты Карлаўны, дзед Марыі Каменскай, зваўся Цімафеем, а другі меў “аднайменнае” прозвішча — Цімафееў. Унук апошняга — Пётр Міхайлавіч — легендарная для сям'і Міцкевічаў асоба. Нарадзіўшыся ў 1895-м (маладзейшы за Марыю на чатыры гады), ён памёр зусім нядаўна, ужо ў нашым стагоддзі. Дом у Майшагале пад Вільняй належыць яго сям'і і сёння.

*М. Д. М.*

М. Д. М. Замест гэтых ініцыялаў магло б значыцца С. або А. А. К.-Я. — Свет-Лана, друг Былінка — Святлана Сомава ці Аляксандра Кетлер. Асобным загалоўкам можна вылучыць і Зосю Лук'яновіч, закаханую ў паэта настаўніцу, і Ніну Загурскую, пацалаваную паэтам вучаніцу, і…

— Вы пытаецеся, чаму ён пішa жонцы Кулакоўскага “Мілая, дарагая, незабываная”… — унучка паэта Вера Данілаўна ні на хвіліну не задумваецца — для сям'і Міцкевічаў гэтая тэма не з'яўляецца пытаннем іміджу.

— Нават не так. Чаму ён дорыць ёй залаты пярсцёнак з рубінам? “Жменька чарніц для дзяцей”, “вязізны кош крамяных баравікоў”, “новыя выданні твораў” зразумець — і дазволіць паэту такія “заходы” — можна. Але пярсцёнак!..

— А як вы паглядзіце на такую гісторыю? — Вера Данілаўна адсылае маю фантазію ў ГУМ шасцідзесяцігадовай даўніны. — Уявіце сабе, ён толькі адчыніўся. Дзве маладзенькія студэнткі стаяць у аддзеле тканіны. Вочы разбягаюцца, так прыгожа. А купіць — дорага. І яны стаяць, абмяркоўваюць. Мараць. Побач — грузны мужчына ў капелюшы. Ён кажа: “Выбірайце, што вам падабаецца”. — “У нас няма грошай”. — “Я вам падару”. І толькі пасля дзяўчаткі скемілі, што гэта быў Якуб Колас, калі на выхадзе ім сказалі: “Забірайце вашы скруткі з матэрыяламі, яны аплачаны”.

Даволі хутка ўсвядоміла, што бессэнсоўна задаваць пытанні пра тое, якія жанчыны падабаліся Коласу, чаму ён пісаў ім, чаму пісаў так, а не інакш, што, калі, каму з іх было падорана і з якой нагоды. Адказ усё роўна адзін, на ўсіх агульны: усе яго жанчыны сыходзяцца ў адной…

*М. Д. М.*

Узяць тры шклянкі вяршкоў, паўшклянкі цукру, палову чайнай лыжачкі ваніліну і шэсцьдзесят грамаў жэлаціну. Жэлацін распусціць у вадзе, вяршкі павінны быць гарачымі, цукар — дробным. Вось вы думаеце, што галоўнае — змест, а на самай справе, у дадзеным выпадку — форма!

Пра тое, што ў яйках пракольваліся дзіркі, бялок і жаўток выдзімаліся, а на іх месца ўлівалася салодкая жэлацінавая маса, пасля застывання якой “шкарлупінне абдзіралася”, не трэба расказваць тым, хто чытаў “Успаміны пра маму” Данілы Міцкевіча. Ну, або старую рускую кнігу рэцэптаў Алены Малахавец. Дэсерт пад назвай бланманжэ ў доме Якуба Коласа гатаваўся, відаць, па гэтай кнізе. Як, напэўна, і цыганскі мазурок, і бок бараньчыка, сялянскія каўбаскі, паляндвіца, булён з грыбнымі вушкамі і асаблівы святочны торт пад назвай баумкухен. Баумкухен — гэта ўсё ж з нямецкіх каранёў, ад бабулі Генрыеты Карлаўны.

— Бацька расказваў, што ў бабулі быў спецыяльны конус для выпечкі. Конус гэты абкручвалі вяроўкай, каб потым, выцягнуўшы яе, утварыць зазор. Вяровачка распускалася — і торт лёгка здымаўся з конуса. Гэта было падобна да літоўскага шакоціса: з цеста вылеплівалiся іголачкі.

— А цеста якое?

— Хто б ведаў… Апошні раз, паводле ўспамінаў бацькі, Марыя Дзмітрыеўна гатавала яго ў 1925-м — на 20-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. Па тым часе рабіць такое было раскошай.

*М. Д. М.*

Колькі ў Коласа вершаў з назвай-прысвячэннем “М.Д.М.”? Я не лічыла. Навошта? Калі сам паэт не чытаў ёй, любай жонцы, вершы-прысвячэнні: не лічыў патрэбным… Калі ў друк нічога не даваў: шкада, маўляў, няёмка — адбіраць у чытача і газеты час і месца “на сваё”… Памятаеце, як Пушкіну шкада было сваёй Наталлі? Ён не падымаўся з пасцелі, каб запісаць верш, які “прыйшоў”: сны жончыны трывожыць на світанні — ці не занадта дарагая плата за чарговы твор? Чарговы — шараговы. Варты — вернецца. Аднак не пра тое.

“Каб не такая жонка брату надарылася, то, можа, ён і такім вялікім не стаў бы”. Гэта сястра Якуба Коласа Алена Лойка. Словы залвіцы найдаражэйшы кошт маюць.

***Цалкам артыкул “Жанчыны Коласа” чытайце ў кастрычніцкім нумары часопіса “Маладосць”.***

# «Новая Зямля» — у мінулым і будучым

Паэма Якуба Коласа «Новая зямля» — паэтычны шэдэўр не толькі ў творчасці народнага песняра, але і ва ўсёй беларускай літаратуры. Немагчыма знайсці яшчэ адзін такі твор, у якім бы гэтак праўдзіва, пераканаўча, ненавязліва было пададзена і перададзена ўсё, чым жыў і як жыў селянін. У сувязі са 130-годдзем з дня нараджэння Якуба Коласа рэдакцыя часопіса **“Полымя”** прапанавала анкету «“Новая зямля” — у мінулым і будучым”, папрасіўшы вядомых прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі краіны адказаць на пытанне, у чым, на іх думку, значнасць гэтага выдатнага твора.

**Глеб СІТНІК**

**Акадэмік Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ:**

— У “Новай зямлі” ўвасобілася высокая мара Якуба Коласа пра новы ўзровень чалавечай свядомасці, адносін да другога чалавека, «бліжняга», пра будучыню. Ключ да разумення “Новай зямлі” — ключ духоўны — знаходзіцца, трэба думаць, у евангельскім “Адкрыцці Іаана Багаслова”: “І ўбачыў я новае неба і новую зямлю, таму што ранейшае неба і ранейшая зямля мінулі”. Менавіта да гэтай кнігі Евангелля — “Апакаліпсіса” — была скіраваная ўвага многіх рускіх паэтаў і пісьменнікаў таго часу, асабліва сімвалістаў. Руская інтэлігенцыя, паэты і філосафы (У. Салаўёў, Д. Мярэжкоўскі, М. Бярдзяеў, А. Белы, А. Блок, У. Іваноў, С. Ясенін, М. Клюеў і інш.) заклікаюць Расію пракласці шлях усяму чалавецтву да новага неба і новай зямлі. Якуб Колас, якога ўсё гэта таксама вельмі хвалявала, па сутнасці таксама не прымае сучасны яму сацыяльнай рэчаіснасці і патрабуе “новага неба” і “новай зямлі”, але “новая зямля” для яго — не эсхаталагічная праблема. “Новая зямля” — гэта леснікова “сяліба” і той кавалак зямлі, які імкнецца набыць Міхал, каб мець магчымасць жыць шчаслівым жыццём у добрым ладзе з навакольным светам і, у першую чаргу, са светам прыроды, з якой героі “Новай зямлі” не парываюць сувязі. Аўтар фарміруе рэальнае жыццеадчуванне беларускага чалавека, бачанне і ўспрыманне прыроды, адносіны да іншых людзей, да “бліжняга”, да розных рэчаў і з'яў.

**Акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар Аляксандр КАВАЛЕНЯ:**

— Не акажуся арыгінальным, калі скажу, што Якуб Колас — узор служэння Айчыне, падзея ў духоўным жыцці беларускага народа. Ён з'яўляецца адным з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы, што застаецца галоўным сімвалам духоўнага здароўя нацыі, яе жыццёвай моцы, якая не страчвае актуальнасці і грамадскай значнасці ў нашы дні. У гэтым творы Колас паўстае не проста як адзін з буйнейшых знаўцаў і песняроў сялянскага жыцця, стваральнік маляўнічых вобразаў роднай беларускай прыроды, пра што шмат напісана. Якуб Колас выступае і як творца-энцыклапедыст, майстра паэтычнага адлюстравання самабытнасці роднага краю. Ён адзін з нямногіх, хто з мастацкай вытанчанасцю, самабытнасцю, натуралістычнай пераканасцю, з глыбокім веданнем сялянскай філасофіі, павагай і гонарам раскрываў праўду жыцця беларускага люду.

**Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алесь САВІЦКІ:**

— Паэма “Новая зямля” не проста літаратурны твор. Гэта прароцтва генія, глыбіннае філасофскае асэнсаванне жыцця і побыту беларускага селяніна канца ХІХ стагоддзя ў часы антынароднага ладу, спасціжэнне і высокага майстэрства адлюстравання душы чалавека працы, і той зямлі, на якой ён, гэты чалавек, пачынае і заканчвае сваю жыццёвую дарогу і на якой суджана жыць яго дзецям.

**Доктар філалагічных навук Таццяна ШАМЯКІНА:**

— Ад Коласа, ад яго несмяротнай паэмы “Новая зямля” ідзе надзвычай важнае паняцце ў беларускім жыццяіснаванні — “родны кут”, гэта значыць, малая радзіма чалавека. Паняцце вызначае прасторавую культуру беларусаў як нацыі, а прасторавая культура, у сваю чаргу, фарміравалася пад уплывам характэрных для нашай краіны ландшафтаў, якія Бог даў.

Гэта, зразумела, толькі асобныя вытрымкі з адказаў на пастаўленае пытанне. Спектр разваг кожнага куды шырэйшы. Таму хацелася б, каб зацікаўлены чытач абавязкова пазнаёміўся **з адзінаццатым нумарам “Полымя”**. Асабліва карысным гэта будзе для выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, бо згаданыя матэрыялы можна выкарыстаць на ўроках і ў пазакласнай рабоце.




# Восень — яшчэ не нагода для суму

**Наталля КУЛЬГАВАЯ**

Прайшло лета. Непрыкметна скончыўся і верасень, які яшчэ змог парадаваць нас цёплым, нават нібы веснавым сонейкам. Ды ўсё ж над наваколлем павісае незвычайная цішыня, нейкая халодна-сыра-свежая, ад якой хочацца сумаваць… добрай тугою.

Але “Вожык” не жадае сумаваць. Ён, наадварот, радуецца, што прыйшла восень — мабыць, самая паэтычная, творчая пара года. І нашы пісьменнікі і карыкатурысты, адышоўшы ад летніх клопатаў, назбіраўшы цікавых гісторый і назіранняў, радуюць новымі творамі.

Так, Сяргей Лапцёнак у былі “Аўтандзілава памылка” раскажа пра беларускага грузіна Аўтандзіла, які вырошчваў пабагацець на курыных яйках, і пра тое, што з гэтага атрымалася. Ірына Лявонава ў “Маскоўскіх назіранках” згадае больш як дзясятак цікавых анекдатычных сітуацый з жыцця, якія абавязкова выклічуць у чытача шчырую ўсмешку. Як, напрыклад, гэта: “Кафэ «Капкан». Рэкламны лозунг абвяшчае: «Хто зойдзе — той не забудзе…»”.

“Вожык” заўсёды шукае новых сяброў, новых аўтараў. У гэтым нумары ён прадстаўляе байку ў прозе “Гісторыя пра ката Міша” Яўгена Мартыновіча — маладога настаўніка, музыканта, студэнта-завочніка і ўвогуле цікавага чалавека. Павучальная гісторыя расказвае пра ката, на долю якога выпадае шмат выпрабаванняў і які ўрэшце прыходзіць да высновы, што “сэнс іх кацінага жыцця — сям'я, а таксама верныя сябры”.

Уколе “Вожык” сваімі вострымі іголкамі розных правапарушальнікаў. Напрыклад, з рубрыкі “Іголкатэрапія” нашы чытачы даведаюцца, дзе ў Беларусі можна сустрэць “чароўныя” машыны, чым можа абярнуцца цяга да прыгажосці і як не трэба змагацца супраць дрэнных звычак. А ў рубрыцы “Навіны з МУС: матай на вус” расказваецца пра мушкецёраў і чалавека-станожку, разгадваецца загадка згубленага “Нагана”, паведамляецца, як лепш сагравацца зімой і як можна “здзяцінець”.

Да 130-годдзя з дня нараджэння славутага песняра нашай зямлі Якуба Коласа друкуюцца ўспаміны Міхася Міцкевіча, сына пісьменніка. Міні-апавяданні пра жыццё Якуба Коласа прасякнуты шчырасцю і добрым смехам.

Тым, хто аддае перавагу паэтычным творам, будуць цікавыя эпіграмы Паўла Саковіча і Міколы Шабовіча на вядомых пісьменнікаў і паэтаў, прыпеўкі Наталлі Дробышавай, вершы Вольгі Сакаловай, Лёлі Багдановіч, Юрася Нератка.

Натхнёныя восеньскай шматкаляровасцю, мастакі пацешаць чытачоў самымі свежымі і надзённымі карыкатурамі. Гэтым разам у рубрыцы “Вернісаж” прадстаўлены мастак Алег Карповіч, які на пытанне “Колькі часу працуеце над малюнкам?” адказаў: “У мяне прафесія такая — рабіць малюнак да таго часу, пакуль ён не набудзе якасць, прыдатную для друку. Гэта як для сталяра — змайстраваць табурэт, каб на ім людзі змаглі сядзець”.

“Вожык” упэўнены, што з дапамогай гэтых і іншых літаратурных і мастацкіх твораў першыя восеньскія маразы не здолеюць сапсаваць вам настрой.

# Барысаўскай «З'яве» — 20!

Сёлета мастацкая галерэя "З'ява", што дзейнічае ў Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя І. Х. Каладзеева, святкуе свой юбілей — 20-годдзе.

**Таццяна КІРЫЛАВА**

У 1990-я гады ў Барысаве ўзнікла патрэба ў гарадскім грамадскім мастацкім цэнтры. У выніку ў мясцовай цэнтральнай гарадской бібліятэцы з'явілася зала мастацтваў з невялічкім выставачным памяшканнем. На працягу дзесяцігоддзя тут ладзіліся выстаўкі, праводзіліся экскурсіі, творчыя сустрэчы, урокі па сусветнай мастацкай культуры. У 2002 годзе добрым падарункам творцам і аматарам мастацтва стала адкрыццё новай прасторнай выставачнай залы на 3-м паверсе бібліятэкі. Гледачы і наведвальнікі гэтай установы атрымалі магчымасць знаёміцца з асноўнай часткай калекцыі, якая, дарэчы, набыла статус дзеючай экспазіцыі. У 2009-м у Барысаўскай бібліятэцы пачала дзейнічаць мастацкая галерэя "З'ява".

Уласная калекцыя мастацкіх твораў з'яўляецца гонарам бібліятэкі. У яе складзе больш як 80 карцін розных відаў, жанраў і напрамкаў. Жамчужыны збору — творы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валерыя Шкарубы, народнага мастака Расіі Ігара Салдацёнкава, заслужаных мастакоў Расіі Аляксандра Хопкіна і Віктара Ступіна. Найбольш шырока прадстаўлена графіка беларускіх творцаў, многія з якіх — сябры Беларускага саюза мастакоў. Такія імёны, як Мікола Рыжы, Ігар Гардзіёнак, Фёдар Кісялёў добра вядомыя за межамі нашай краіны. Ім уласціва глыбокае веданне нацыянальных традыцый, іх удумлівае творчае пераасэнсаванне.

Старэйшае пакаленне наведвальнікаў галерэі добра ведала барысаўскага мастака Мікалая Кісялёва. Яшчэ пры жыцці ён падараваў бібліятэцы свае серыі графічных аркушаў, манументальныя жывапісныя творы, якія дагэтуль упрыгожваюць інтэр'еры кніжніцы. Усе ягоныя работы аб'ядноўвае высокае прафесійнае майстэрства, неадназначнасць быццам бы простага сюжэта.

Пошукі адэкватных часу тэм і вобразаў знайшлі сваё адлюстраванне ў творчых эксперыментах таленавітых мастакоў Барысаўшчыны — Віктара Бялова, Сяргея Лагачова, Паўла Амялюсіка, Станіслава Баяранкі, Таццяны Каландырэц, Барыса Цатурава. У кожнага свой індывідуальны стыль у размове з гледачом. Яны адкрытыя свету, але ж заўсёды імкнуцца заставацца самімі сабой.

Галерэя ўсё часцей становіцца выставачнай пляцоўкай для юных талентаў з усёй краіны, творы якіх па праве займаюць пачэснае месца ў мастацкім фондзе бібліятэкі. Барысаўскі глядач неаднойчы быў зачараваны вясёлкавымі фарбамі разнастайных вобразаў Кацярыны Бяскостай і Ганны Сцепанюк (навучэнкі Салігорскай дзіцячай мастацкай школы), назіраў дзіўны палёт жыццярадасных матылёў Соф'і Духноўскай (выхаванка студыі выяўленчага мастацтва пад кіраўніцтвам Р. Мая), спасцігаў духоўны скарб бацькаўшчыны разам з Лізаветай Гапоненкай (пераможца Дэльфійскіх гульняў 2006 года).

Гледача ўражвае разнастайнасць мастацкай калекцыі бібліятэкі, прыхільнасць пераемнасці традыцыйнай беларускай



В. Бялоў "Вярнуўся". 1984.

школы і актуальнага, сучаснага мастацтва. Ён дакранаецца да велізарнай прасторы жывапісу, графікі, дэкаратыўнага мастацтва і знаходзіць для сябе цікавае і захапляльнае.



Лагачоў С. "Вандроўнікі". 2009.

## ЯК ЗНАЙСЦІ ВЫКРАДЗЕНАЕ ВЫДАННЕ?

**Марына ПЕТРАШКЕВІЧ**

На дзвярах мінскай дзіцячай бібліятэкі № 8 з'явілася аб'ява: "Увага, пошук! У бібліятэцы скралі цікавыя кнігі. Злодзей небяспечны і ўзброены мятлой. Таму, хто знойдзе злачынцу, — узнагарода!" Хто скраў кнігі?

Супрацоўнікі кніжніцы прапанавалі маленькім чытачам правесці расследаванне і знайсці злачынцу. Па спецыяльным запрашэнні на пошук Бабы Ягі прыбылі вучні другога класа адной з мінскіх школ на чале з класным кіраўніком. Азнаёміўшыся з сітуацыяй, яны адразу пачалі шукаць сляды злодзея і доказы. У хуткім часе другакласнікі знайшлі кавалак бяросты з надпісам "угінк юулёсяв юумас монка дап еціздйанз". Прачыталі словы наадварот… і рушылі да акна.

Але кніг было так шмат — і ўсе цікавыя і вясёлыя. Дзеці пачалі ўжо спрачацца, якая кніга ім патрэбна, як нехта заўважыў выданне, якое так і называлася: "Самая вясёлая кніга". На яго старонках вялікімі літарамі напісана: "Прывітанне з казкі", ніжэй — сетка з літарамі, а ў кутку сядзіць вялізны павук з надпісам "Усё роўна не адгадаеце". Школьнікам трэба было разгадаць філворд з імёнаў казачных герояў, а з астатніх літар скласці слова. Паколькі ўсе дэтэктывы вельмі начытаныя і з літаратурнымі героямі знаёмыя, з заданнем яны хутка справіліся і атрымалі словападказку "качели".

Між тым гэтак жа называўся дзіцячы часопіс. На яго старонках юных дэтэктываў чакала яшчэ адно заданне: сярод пераблытаных слоў і сказаў пазнаць апісанне ката Матроскіна. Пасля дзеці без падказак накіраваліся да стэлажа з рускай літаратурай шукаць кнігі Эдуарда Успенскага. І зноў у адной з іх — запіска з павёрнутымі ў розныя бакі літарамі. Вучні хутка яе прачыталі і накіраваліся ў гардэроб, дзе і схаваўся злодзей з бібліятэчнымі кнігамі. Там яны і знайшлі Бабу Ягу, якая, заўважыўшы іх, нікольκі не збянтэжылася і працягвала чытаць часопіс. Маленькія следчыя загадалі ёй вярнуць кнігі ў бібліятэку, але ліхадзейка ў лепшых казачных традыцыях патрабавала ў дзяцей выканаць яе заданні. Школьнікам трэба было адгадаць мудрыя загадкі — успомніць Лешага, Вадзяніка, Змея Гарыныча, Кікімару, Кашчэя. Баба Яга патрабавала і намаляваць яе хатку на курыных лапках, але не проста намаляваць, а з завязанымі вачыма. А потым папрасіла ў дзяцей зрабіць ёй лятаючы транспарт, каб яна змагла дабрацца да свайго дрымучага лесу. Проста так Баба Яга кнігі аддаваць не хацела.

Але пасля таго, як вучні выканалі ўсе заданні, ліхадзейка прызналася, што злачынствы яна робіць не са зла, а ад суму, і ўсе кнігі вярнула ў бібліятэку.

# Першая газета на роднай мове



Раздзел выстаўкі "Перыядычны друк Гродзеншчыны".

**Любоў ТУРМАСАВА**

Сёмы год Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага збірае навукоўцаў, краязнаўцаў, супрацоўнікаў музеяў, бібліятэк ды студэнцкую моладзь на Гарадзенскія чытанні. Сёлета яны былі прымеркаваны да 150-годдзя з пачатку выдання "Мужыцкай праўды", першай газеты на беларускай мове, амаль усе нумары якой выйшлі на тэрыторыі Гродзеншчыны напярэдадні і падчас паўстання 1863 года.

Адкрыў чытанні начальнік упраўлення культуры аблвыканкама Аляксандр Вярсоцкі. Ён адзначыў, што газета "Мужыцкая праўда" з'явілася рэвалюцыйнай — даследчыкі называлі яе "набатам паўстання 1863 — 1864 гг."

У дакладах аналізавалася роля "Мужыцкай праўды" ў развіцці беларускай культуры, газета як узор мастацкай публіцыстыкі. Прафесар кафедры беларускай культуры і рэгіянальнага турызму Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Аляксей Пяткевіч падкрэсліў значнасць газеты, "якая загаварыла мовай свайго народа". Шэраг дакладаў раскрывалі змест "Мужыцкай праўды": эканамічныя, грамадска-палітычныя, рэлігійныя праблемы; знаёміліз яе распаўсюджвальнікамі; прадстаўлялі беларускамоўныя выданні 1860-х гг. Дацэнт кафедры гісторыі Беларусі БДУ Віктар Белазаровіч зрабіў бліскучы агляд гістарычных крыніц па вывучэнні "Мужыцкай праўды". Уплыў паўстання 1863 — 1864 гг. на культурнае жыццё Гродзеншчыны быў раскрыты ў дакладах прафесара Святланы Куль-Сяльверставай і дацэнта Віталя Карнелюка. Асноўныя тэндэнцыі развіцця і тэматыку перыядычнага друку на гарадзенскіх землях акрэслілі кандыдаты гістарычных навук Святлана Сілава, Аляксандр Богуш, Сяргей Амелька. Палемічнай і вострай была дыскусія падчас падвядзення вынікаў чытання.

Цікавасць выклікаў адкрыты прагляд "«Мужыцкая праўда» — першая дэмакратычная газета на роднай мове", падрыхтаваны аддзелам краязнаўства сумесна з аддзелам рэдкіх кніг і старадрукаў Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. У першым раздзеле "«Мужыцкая праўда» ў кантэксце беларускай культуры" змешчаны тэксты з газеты і вынікі даследаванняў навукоўцаў, якія прадстаўлены ў энцыклапедычных выданнях, манаграфіях, зборніках навуковых прац, падручніках і вучэбных дапаможніках. Другі раздзел — "Перыядычны друк Гродзеншчыны" — адлюстроўвае газеты рэгіёна, пачынаючы ад "Газеты Гродзеньскай" і заканчваючы сучаснымі. Шырока паказана перыёдыка міжваеннага часу на беларускай, польскай, рускай мовах і нават ідышы. Тут прадстаўлены і даследаванні навукоўцаў і журналістаў па развіцці перыядычнага друку на гарадзенскіх землях.

# Што? Дзе? Калі?

Не будзе перабольшваннем сказаць, што айчынныя бібліятэкі жывуць насычаным жыццём. Лімаўскія чытачы маюць усе шансы пераканацца ў гэтым непасрэдным чынам. Вашай увазе прадстаўлены агляд прэзентацый, выставак, конкурсаў і іншых мерапрыемстваў, што адбываліся ва ўстановах бібліятэчнай галіны (ад сталічных да раённых кніжніц) на працягу кастрычніка.

Даніла АРЦІМОВІЧ

***

Для карыстальнікаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і арганізацый-партнёраў па віртуальнай чытальнай зале адкрыты тэставы доступ да паўнатэкставай базы дадзеных IMF eLibrary і электроннай калекцыі часопісаў выдавецтва Maney Publishing. Першая ўяўляе сабой поўную калекцыю матэрыялаў па сусветнай эканоміцы, апублікаваных Міжнародным валютным фондам. База ўключае больш як 11 тысяч поўных тэкстаў. Maney Publishing з'яўляецца політэматычнай калекцыяй навуковых часопісаў MORE, якая змяшчае публікацыі па пытаннях матэрыялазнаўства і інжынерыі, археалогіі, гісторыі, мовазнаўства, літаратуразнаўства, а таксама калекцыі па медыцынскіх навуках. Усяго можна азнаёміцца са 134 часопісамі. Доступ да электроннай калекцыі выдавецтва адкрыты да 10 снежня, а да паўнатэкставай базы дадзеных — да 31 снежня 2012 года.

***

Напярэдадні Дня маці ў Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна адкрылася фотавыстаўка "Мама, тата, я — чытаючая Сям'я", што праходзіць пад дэвізам "Сям'ю згуртаваць здолее мудрасць кніг". У цэнтры ўвагі — сем'і супрацоўнікаў і актыўных чытачоў абласной бібліятэкі. Аўтар фотапраекта, у якім прадстаўлена 25 работ, — намеснік дырэктара бібліятэкі, сябра Беларускага саюза мастакоў, мастацтвазнаўца Алег Ананьеў; некаторыя фотаздымкі зроблены загадчыцай аддзела перыядычных выданняў Анастасіяй Караткевіч.

***

У Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага прайшло чарговае пасяджэнне літаратурна-музычнага салона "У пані Элізы". Выступленні на тэму "Кніжны свет Элізы Ажэшкі" раскрывалі дзіцячыя захапленні пісьменніцы ў чытанні, яе літаратурныя прыярытэты і нездавальненні. Прыводзіліся цікавыя факты: арганізацыя ў яе доме бібліятэкі; устанаўленне літаратурнай узнагароды імя Элізы Ажэшкі ў Гродне; вылучэнне (двойчы) кандыдатуры пісьменніцы на атрыманне Нобелеўскай прэміі. Сцэнарый для арганізацыі літаратурнай імпрэзы разам з электроннай прэзентацыяй бібліятэка прапанавала для выкарыстання ў навучальных установах горада.

***

У Віцебскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна былі падведзены вынікі абласнога конкурсу прафесійнага майстэрства маладых бібліятэчных супрацоўнікаў. Першае месца заняла бібліятэкар дзіцячай бібліятэкі імя Янкі Маўра г. Віцебска Марына Трусава. Рашэннем журы другое месца прысуджана галоўнаму бібліёграфу публічнага цэнтра прававой інфармацыі Полацкай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Ф. Скарыны Надзеі Калужонак. Трэцяе месца — бібліятэкару аддзела абслугоўвання і інфармацыі Аршанскай цэнтральнай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна Валянціне Самонавай.

***

У Музейным пакоі Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна створана новая экспазіцыя "Кнігі ў гісторыі, гісторыя ў кнігах". Яна ўяўляе сабой



*Прэзентацыя кнігі Аіды ханум Імангулііевай у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*

калекцыю друкаваных рарытэтаў XIX — пачатку XX стагоддзя па гістарычных навуках з фонду рэдкай кнігі. Тэматычная экспазіцыя складаецца з дзвюх раздзелаў. Першы — гэта кнігі па гісторыі Старажытнага свету, асобных краін і народаў; значная частка літаратуры прысвечана гісторыі Расіі і яе кіраўнікам. У другім адлюстравана навучальная літаратура для школ, гімназій, народных вучылішчаў, курсы лекцый для ўніверсітэтаў, а таксама гістарычныя хрэстаматыі і кнігі для чытання па гісторыі для дзяцей. Цэнтральнае месца на выстаўцы па праве займае самая старая кніга бібліятэкі — раман Ф. Эміна "Безщастный Флоридор, или История о принце Ракалмутском" (Санкт-Пецярбург, 1763).

***

У Навуковай бібліятэцы Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта прайшоў вечар-прэзентацыя "Тысячы казак". У рамках мерапрыемства адбылося падвядзенне вынікаў акцыі "Напішы казку", якая праходзіла сярод студэнтаў, выкладчыкаў і супрацоўнікаў універсітэта ў 2010 — 2012 гадах. Удзельнікі праекта прадстаўлялі напісаныя імі казкі, якія былі сабраны і афармлены ў зборнікі, выдадзеныя рэдакцыйна-выдавецкім аддзелам ПДУ. На мерапрыемстве прайшло ўшанаванне аўтараў і ўручэнне зборнікаў. Прадстаўленне аўтараў казак суправаджалася невялікімі ўрыўкамі з твораў і дэманстрацыяй іх афармлення. Таксама на імпрэзе выступіла загадчыца інавацыйна-метадычнага аддзела навуковай бібліятэк ПДУ І. Шупенька, якая прад ставіла фундаментальнае выданне "Сказки века для самых маленьких". Кніга з'яўляецца першым томам серыі "Итоги века: взгляд из России" і ўтрымлівае самыя папулярныя казкі XX стагоддзя, якія былі перакладзены на рускую мову.

# Жывы свет мінуўшчыны

Рэдкая вёска ў нашай краіне можа пахваліцца музеем. А вось у аграгарадку Дуброва, што на Светлагоршчыне, ён існуе менавіта таму, што жывуць тут неабыякавыя людзі, улюбёныя ў родныя краявіды, мінулае і сучаснае сваёй малой радзімы.

Валянціна РАСОШАНКА

Жыхары аграгарадка невыпадкова лічаць мясцовай славутасцю музей гісторыі вёскі пры сельскай бібліятэцы. Ён быў утвораны больш як дзесяць гадоў таму на падставе матэрыялаў школьнага краязнаўчага кутка. Цяпер музей займае два асобныя пакоі побач з бібліятэкай. І жыве ён дзякуючы намаганням і нястомнай руплівай даследчыцкай працы бібліятэкара Людмілы Бусел.

Да збору экспанатаў яна далучыла не толькі дзяцей і падлеткаў, але і дарослых, якія таксама падтрымалі ідэю захаваць для нашчадкаў усё, што датычыць гісторыі роднай вёскі. Сёння музей налічвае больш як 400 экспанатаў. У экспазіцыі, прысвечанай гісторыі гаспадаркі, прадстаўлены фотаздымкі арганізатараў сельскагаспадарчай арцелі, першых калгаснікаў, лепшых працаўнікоў, адзначаных урадавымі ўзнагародамі. З цікавасцю разглядаюць маладыя наведвальнікі прафсаюзны і камсамольскі білеты, ашчадную кніжку, радыё "Ленінградзец" 1953 г. выпуску, прайгравальнік і іншыя экспанаты. Чорна-белыя фотаздымкі нагадваюць пра тое, якой была вёска ў 1960 — 1970-я гады, а каляровыя даюць уяўленне пра змены, што адбыліся за апошні час.

Мінулае Дубровы цесна пераплятаецца з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны. У раздзеле, прысвечаным гэтаму перыяду, нямала рэдкіх і цікавых рэчаў і дакументаў. Напрыклад, планшэт, які належаў афіцэру Савецкай Арміі, фотаапарат "Рэпарцёр" — так званая "лейка", вельмі папулярная ў асяроддзі франтавых карэспандэнтаў, лісты, напісаныя ўдзельнікамі баёў за вызваленне Дубровы, на якіх можна ўбачыць адзнаку цэнзуры. За кожным прадметам — чалавечы лёс, часам трагічны.

Шмат гадоў Людміла Бусел збірае звесткі пра загінуўшых воінаў, а іх у брацкай магіле, якая знаходзіцца ў цэнтры аграгарадка, амаль 1700. Яна звяртаецца па дапамогу ў архівы, зарэгістравана на сайце "Загінуўшыя і пахаваныя ў Беларусі", удзельнічае ў форуме пошукавага руху, імкнецца сабраць пра кожнага байца як мага болей інфармацыі. Такая карпатлівая праца дазваляе адшукваць родных загінулых савецкіх салдат, наладжваць з імі стасункі. Часам дзеці і ўнукі самі знаходзяць Людмілу Фёдараўну, прыязджаюць у Дуброву, каб наведаць апошні прытулак роднага чалавека.

Не адзін год перапісваецца бібліятэкар з Саветам ветэранаў 96-й стралковай дывізіі, якая вызваляла Дуброву. У выніку такіх стасункаў экспазіцыя музея папаўняецца фотаздымкамі, цікавымі дакументамі. Прынамсі, згаданы Савет ветэранаў даслаў пісьмо Героя Савецкага Саюза, генерала арміі А. Алтуніна, фотаздымкі, ваенныя карты, падрабязнае апісанне баявога шляху дывізіі.

Шматгадовае сяброўства звязвае з землякамі пахаванага ў вёсцы Героя Савецкага Саюза Сярго Чыгладзэ. У далёкія 60 — 70-я гады мінулага стагоддзя беларусы і грузіны абменьваліся дэлегацыямі, а ў 1972 годзе на кінастудыі "Беларусьфільм" быў зняты дакументальны фільм "Родныя людзі" пра дружбу нашых народаў і подзвіг грузінскага юнака на беларускай зямлі.

Асобны стэнд прысвечаны ветэранам Вялікай Айчыннай — жыхарам Дубровы. На ім — 24 фотаздымкі. Акрамя гэтага, Людміла Фёдараўна запісала ваенныя ўспаміны ўсіх ветэранаў-аднавяскоўцаў. Ёсць у яе нарысы пра людзей вёскі, захоўваюцца ў музеі таксама відэафільмы з успамінамі дзяцей вайны.

Этнаграфічны раздзел адлюстроўвае быт і культуру вяскоўцаў першай паловы XX стагоддзя. Вялікую цікавасць выклікае калекцыя нумізматыкі, у якой ёсць манеты, адчаканеныя на Брэсцкім манетным двары Вялікага Княства Літоўскага ў 1663 — 1666 гадах, расійскія манеты 1852, 1899, 1901 гадоў. Маюцца і грашовыя знакі савецкага часу.

Некалькі гадоў таму ўдзельнікі клуба "Жалуды", які існуе пры бібліятэцы амаль 15 гадоў, пад кіраўніцтвам Л. Бусел узяліся за рэалізацыю праекта "Нашы землякі ў Беларускай энцыклапедыі". Яны не толькі адшукалі звесткі пра знакамітых ураджэнцаў вёскі, але і наладзілі з імі перапіску. Музейная экспазіцыя "Лёсам звязаныя з Дубровай..." утрымлівае фотаздымкі, асабістыя рэчы, кнігі з аўтографамі навукоўца І. Бусла, Героя Сацыялістычнай Працы П. Дайнекі, сяброўскія шаржы і малюнкі графіка Я. Бусла, які доўгі час працаваў мастаком у часопісе "Вожык".

Ганарыцца Дуброўская бібліятэка і калекцыяй кніг з аўтографамі сучасных беларускіх аўтараў. Людміла Фёдараўна не прапускае ніводнай сустрэчы з пісьменнікамі, якія адбываюцца ў райцэнтры. І кожны раз прывозіць кнігу з аўтарскім аўтографам. Шмат цёплых і шчырых пажаданняў адрасавалі бібліятэцы, яе чытачам і асабіста бібліятэкару У. Ліпскі, М. Мятліцкі, У. Паўлаў, гомельскія пісьменнікі В. Ярац, В. Ткачоў, светлагорскія паэты І. Катляроў і С. Шах, пачынаючыя аўтары.

Пошукавая і даследчыцкая дзейнасць спалучаецца з працай па папулярызацыі назапашаных матэрыялаў. Цеснае супрацоўніцтва наладжана ў бібліятэкі з мясцовай школай, дзверы музея заўсёды адчынены для экскурсій. Настаўнікі выкарыстоўваюць музейныя матэрыялы ў пазакласных мерапрыемствах, для правядзення ўрокаў, а школьнікі і студэнты — для напісання кантрольных, конкурсных і курсавых работ.

"Павага і цікавасць да мінуўшчыны — вось тая мяжа, якая аддзяляе адукаванасць ад дзікунства", — пісаў некалі Аляксандр Пушкін. Музей гісторыі вёскі ў Дуброве — жывы і блізкі свет мінуўшчыны, якая дае ўрокі праўды, узмацняе прагу дабра і пазнання.



# «Раскажы пра Адысея!»

Чаму Якуб Колас не мог свабодна чытаць Кнута Гамсуна? Як класік ацэньваў творы Дзюма? Чаму ў савецкія часы кнігалюбаў ганяла міліцыя? Распавядае Міхась Міцкевіч.

— У бібліятэку я звяртаўся толькі па даведачную ці тэхнічную літаратуру, бо ў бацькі была свая някепская бібліятэка. А вучыўся чытаць я па кнізе Шэйна (здаецца, 1893 года выдання): беларускія народныя казкі, прытчы, анекдоты… Чытаць яе было цяжка: напісаная на старой беларускай мове, са складанымі выразамі. Чым яна прываблівала мяне? Там было шмат усякай чартаўшчыны і расказаў пра звяроў. Мяне дужа цікавіў жывёльны свет. Калі яшчэ ў школу не хадзіў, Янка Купала падараваў шыкоўны альбом са звярамі. Акрамя таго, у бацькоўскай бібліятэцы быў сямітомнік Брэма.

Памятаю, прыходзіў матчын брат Аляксандр Дзмітрыевіч Каменскі. Па вечарах ён расказваў пра прыгоды Адысея. І заўсёды перад тым, як класціся спаць, я прасіў: "Дзядзя Саша, раскажы мне пра Адысея!" Старэйшы брат Юрка пераказваў "Вечары на хутары ля Дзіканькі" Гогаля, а маці чытала паэмы і казкі Пушкіна.

Адну з першых кніг мне якраз падараваў брат Юрка — "Ціль Уленшпігель" Шарля дэ Кастэра, а пасля — вальтэрскотаўскага "Айвенга". Час ад часу ён прыносіў кнігі без пачатку, без канца, невядомых аўтараў — і казаў: "За адзін дзень каб усё прачытаў!" І даводзілася чытаць цэлы дзень запар.

Калі мы летавалі на Пухавіччыне, бацька прывозіў з пісьменніцкай бібліятэкі да дзесяці кніжак — на лета. Выбіраў на свой густ. Колас вельмі цаніў творчасць Кнута Гамсуна, але той быў прыхільнікам Гітлера, таму творчасць нобелеўскага лаўрэата была ў нас пад забаронай.

Потым я дабраўся да бацькавай бібліятэкі. З асалодай прачытаў Пушкіна, Лермантава, усяго Чэхава, хаця ў той час не зразумеў тонкасці яго гумару, але збор твораў адолеў. Пасля ўзяўся за Гогаля і, зразумела, быў зачараваны. Мова якая цудоўная! А дома па вечарах дзядзька Саша часта гутарыў са старэйшымі братамі пра розныя творы, некалькі разоў звярталіся да "Мёртвых душ". Я, канечне, зацікавіўся і стаў чытаць, але на палове спатыкнуўся і прыйшоў да высновы, што кніжка нецікавая. І толькі ў дзявятым класе, калі яе вывучалі, адолеў — і тут жа запар прачытаў другі раз! Вядома ж, кожнаму ўзросту патрэбная свая літаратура. Але ў той час дзіцячых кніжак, па сутнасці, не было. Пазней я сам купіў "Прыгоды Тома Соера". Жыццё, апісанае Маркам Твэнам, было вельмі блізкае мне, сугучнае майму жыццю.

А неяк раз, падлеткам, я прачытаў Дзюма — ці то "Тры мушкецёры", ці то "Дваццаць гадоў апасля". Спадабалася. Падзяліўся ўражаннямі з бацькам. На што ён адказаў: "Сынок, гэта пустая літаратура. У ёй нічога няма для душы." Мне здавалася тады, у маладыя гады, што бацька і не надта ведае літаратуру, бо я ніколі не бачыў, каб ён чытаў кнігу — ён увесь час пісаў. Але пасля вайны, калі яму прывозілі стосы кніг, вылучаных на Сталінскую прэмію, ён у некалькіх сказах даваў вычарпальную ацэнку кожнай кнізе, так, што адразу было зразумела — варта яе чытаць ці не. Бывала, паглядзіць і кажа: гэта фальш. І адкладае ўбок.

Багаты падмурак быў закладзены ў мае дзіцячыя гады. Пасля, калі я працаваў у навуковым савеце ВАКа, гэта дапамагала мне ацэньваць дысертацыі і іншыя навуковыя працы калег. А вось падчас вайны, калі не было падручнікаў, я шмат прапусціў і цяпер адчуваю правал у веданні многіх выдатных твораў. Тады кнігі даводзілася здабываць у Маскве; нешта з Ленінграда прывозіў сябар аднаго з братоў. Тут жа добрая кніга ўвогуле ішла з-пад палы. Людзей ганяла міліцыя… І вось так назбіралася бібліятэка — пэўна, тысячы чатыры.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Ад Гарбачова да Грахоўскага



Збіранне кніг — бадай, прафесійнае "захворванне" ў нашай сям'і. Багатыя бібліятэкі дзядулі і бацькі пазбавілі ад неабходнасці шукаць у кнігарнях літаратурную класіку або збіраць энцыклапедычныя даведнікі. Зрэшты, гэта стала толькі стымулам для пошуку выданняў у іншых кірунках і галінах, з чым звязана некалькі цікавых гісторый.

*Дзяніс* **МАРЦІНОВІЧ**

## $H_2O$ ці Гарбачоў?

Адзін з першых крокаў па збіранні ўласнай бібліятэкі цудоўна памятаю і цяпер. Восеньскім днём 2000 года, у самым пачатку 8 класа, ледзь дачакаўся перапынку з першага ўрока хіміі і адразу пабег у кнігарню "Веды" (недалёка ад яе, на вуліцы Кірава, размяшчаўся Гуманітарны ліцэй, дзе я тады вучыўся). Менавіта там стаяла кніга, вакол якой хадзіў ужо тыдзень: успаміны сына Мікіты Хрушчова пра бацьку. Каб патлумачыць такую цікавасць, удакладню, што паралельна з захапленнем айчыннай мінуўшчынай з ахвотай вывучаў гісторыю пэўнай краіны. Спярша эпоху Французскай рэвалюцыі і Напалеонаўскіх войнаў, потым III Рэйха (пра апошні ніжэй). Але незадоўга да восеньскіх падзей, пра якія ідзе гаворка, я адшукаў у хатняй бібліятэцы даследаванне "Хрушчоў. Палітычная біяграфія", напісанае Роем Мядзведзевым. З цягам часу бачна, што шэраг праблем аналізуецца навукоўцамі па-іншаму. Але тады яна стала сапраўдным адкрыццём савецкай гісторыі. З успамінаў сына Хрушчова спадзяваўся даведацца новае. Але на той жа самай паліцы стаяла іншае выданне: "Гарбачоў", напісанае Андрэем Грачовым, прэссакратаром першага і апошняга прэзідэнта СССР. Палову перапынку прастаяў вагаючыся, але ў рэшце рэшт зрабіў выбар на карысць ініцыятара перабудовы. Варта дадаць, што наш хімік быў вельмі мяккім чалавекам. Таму, вярнуўшыся ў ліцэй, я раскрыў выданне і паглыбіўся ў чытанне. Вынік быў відавочны: у падзеях перабудовы дагэтуль разбіраюся цудоўна. А вось усе звесткі па курсе хіміі засталіся на ўзроўні $H_2O$ — вада. Гэту інфармацыю нам паведамілі на першым занятку — яшчэ да паходу ў кнігарню.

## Табакоў не любіў Шэленберга

Яшчэ да ліцэя ў маёй біяграфіі быў непрацяглы, але дастаткова цікавы перыяд: захапленне гісторыяй III Рэйха. Штуршком стаў серыял "17 мгновений весны", які незадоўга да гэтага прайшоў па тэлебачанні. Цяпер, паглядзеўшы стужкі Таркоўскага, Звягінцава і іншых творцаў, інтарэс да працы Таццяны Ліёзнавай не выклікае нічога іншага, акрамя добрай іроніі. Але тады серыял падштурхнуў да знаёмства з даследаваннямі пра Бормана і Герынга, Гімлера і Гебельса: было цікава, наколькі інфармацыя ў кнізе Юліяна Сямёнава адпавядае рэчаіснасці.

І вось у Мінск на гастролі прыехала знакамітая "Табакерка", якая прывезла адну з п'ес Горкага. Пасля спектакля, які праходзіў у Палацы афіцэраў, накіраваліся са знаёмымі за кулісы. З сабой я прыхапіў кнігу творчых партрэтаў тэатра, біяграфію самога Табакова… і кнігу Юліяна Сямёнава "17 мгновений весны". Хуткай хадой міма праходзілі акцёры. Затрымаўся Сяргей Бязрукаў, чый аўтограф застаўся на першым выданні. Апошнім, як кіраўнік і галоўная зорка, выйшаў Алег Паўлавіч. Яго адразу абступілі. Кнігу пра сябе самога ён падпісаў моўчкі, а вось пры поглядзе на "17 мгновений" яго бровы павольна папаўзлі ўверх. "Вы так цудоўна сыгралі ў фільме Шэленберга!" — захоплена сказаў я. Табакоў паглядзеў на мяне на як не зусім адэкватнага чалавека (цяпер я зрабіў бы на яго месцы тое ж самае), але кнігу падпісаў. З таго часу яна так і стаіць у кніжнай шафе. Толькі чамусьці больш не перачытваецца.

## Праз аўтографы — у вечнасць?

Мяркую, асобныя чытачы звярнулі ўвагу: аўтары, што друкуюцца ў айчынных перыядычных выданнях, пачалі масава цытаваць аўтографы на кнігах, што пакінулі ім вядомыя творцы. Прычына на паверхні: прынятае палажэнне, згодна з якім аўтографы і дарчыя надпісы мусяць уключацца ў поўны збор твораў. Пісаць уласны твор — цяжкая і няўдзячная праца, якая не гарантуе прызнання нашчадкаў. А вось аўтограф класіка — гарантыйны квіток у вечнасць. Праўда, тут ёсць і свае хібы. Напрыклад, адзін з пісьменнікаў любіць зычыць сваім чытачам "Шчасця, кахання і незалежнасці". Цікава, калі справа дойдзе да яго збору твораў, што зробяць навукоўцы? Напішуць пажаданне, а потым доўгі спіс усіх асоб, каму яно адрасавана?

Паколькі ніколі наўмысна не ганяўся за аўтографамі, адпаведных кніг у маёй уласнай бібліятэцы не так і шмат. З сучасных творцаў асабліва ганаруся аўтографамі Андрэя Федарэнкі на "Шчарбатым талеры" і "Афганскай шкатулцы", "Гісторыі хваробы" і "Нічыіх". З акцёраў — Табакова. Што гісторыкаў, быў шчаслівы, калі трапіў на сустрэчу з Роем Мядзведзевым, і ён падпісаў мне кнігі пра Сталіна і Хрушчова. Асабліва шчымлівым і кранальным атрымаўся аўтограф Сяргея Грахоўскага на кнізе "Споведзь", датаваны 15 лістапада 2002 года. Паэт пісаў: "Спавядаюся Вам на доўгую і шчаслівую памяць". Менш як праз месяц, 11 снежня таго ж года, С. Грахоўскі памёр. Пажаданне творцы спраўдзілася: я некалькі разоў перачытваў "Споведзь" і дагэтуль узгадваю пра яе аўтара.

А вы не жадаеце расказаць пра сваю бібліятэку?

# Пра самае дарагое

Пісьменнікі Мінскага гарадскога аддзялення СПБ па традыцыі бралі ўдзел у шматлікіх мерапрыемствах, прысвечаных Дню маці.

На адным з іх у бібліятэцы № 5 г. Мінска паэты Міхась Пазнякоў, Аліна Легастаева і празаік Наталія Касцючэнка сустрэліся з курсантамі ваеннага факультэта Мінскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта і студэнтамі Мінскага дзяржаўнага архітэктурна-будаўнічага каледжа.

"Гаварыць пра маці — тое ж, што гаварыць пра любоў, самую высакародную і дасканалую, на якую толькі здольны чалавек, — любоў мацярынскую", — зазначыла Наталія Касцючэнка.

Падчас выступленняў пісьменнікі знаёмілі юнакоў і дзяўчат са сваімі творамі, прысвечанымі Маці.

І што прыемна: аўдыторыя аказалася ўдзячнай. Моладзь слухала пісьменнікаў з цікавасцю, засяроджана. Было бачна, што тэма размовы закранула кожнага.

**Мікалай ГЛУШЧАНОК**

# Сёння зрабіў, а заўтра матулі падарыў

У Крупскім раёне створаны спрыяльныя ўмовы для захавання і развіцця рэгіянальнай традыцыйнай культуры. У 2005 годзе расчыніў дзверы раённы Дом рамёстваў, у якім працуюць метадысты-майстры па розных кірунках: станочнае ткацтва, саломапляценне, выраб беларускіх строяў і галаўных убораў, праца са скурай, ткацтва пацеркамі, вышыванне крыжыкам і гладдзю, вязанне кручком, маляванне, выраб беларускіх лялек.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

Тут дзейнічаюць пастаянныя выстаўкі работ метадыстаў-майстроў, якія заявілі пра сябе як адмысловыя творцы не толькі ў раёне, але і на абласным узроўні. Ладзяцца і персанальныя выстаўкі па вышыўцы, ткацтве і саломапляценні. Праўда, так склалася, што дыпламаваных спецыялістаў у Доме рамёстваў няма. Усе супрацоўнікі ішлі да майстэрства сваім



*Карціна Лідзіі Бялаўскай у тэхніцы "аб'ёмная вышыўка".*

шляхам. Прынамсі, майстар па вышыўцы Лідзія Бялаўская — былая настаўніца нямецкай мовы. Сама дырэктар Дома рамёстваў Таццяна Сухаплюева выкладала матэматыку, а цяпер стварае адмысловыя карціны са скуры, лялькі з ільну, займаецца ткацтвам іголкаю і вузельчатым ткацтвам. У асноўным вучылася па часопісах і кнігах, штосьці дадумвала самастойна.

— Вельмі хацелася б, каб у нас з'явіўся дыпламаваны спецыяліст, бо гэта, скажам так, рухавік для дома рамёстваў, — распавяла Таццяна Леанідаўна. — Навошта нам ламаць галаву над тым, як зрабіць той ці іншы элемент, шукаць адказ у інтэрнэце, калі падрыхтаваны супрацоўнік ведае гэта назубок. Толькі марнуем час. А хочацца так многа паспець. Зразумела, кожны майстар перадае свае ўмельства вучням. У асноўным займаемся з дзецьмі, адзін-два гурткі абавязкова працуюць і для дарослых. Але яны пастаянна іх не наведваюць, часцей прыходзяць па кансультацыю, паглядзець майстар-клас. Усе ўрокі бясплатныя. Напрыклад, адна жанчына пачала вышываць бісерам, але раней ніколі гэтым не займалася, — метадысты падзяліліся з ёю сакрэтамі рэдкага майстэрства. Каб дзеці асвоілі ткацтва бісерам, трэба правесці некалькі ўрокаў, а дарослым дастаткова аднаго-двух заняткаў. Мы самі пастаянна вучымся. Прынамсі, вязаць кручком.

Тутэйшыя майстры ў першую чаргу імкнуцца адраджаць традыцыйнае народнае мастацтва, бо гэта іх самая галоўная задача і мэта. Шмат увагі надаюць ткацтву. Маюць два станкі. Адзін з іх — старадаўні. Гэта асабісты станок патомнай ткачыхі Яніны Мікульчык, якая вядзе гурток па ткацтве.

— Не скажу, што ў нас шмат вучняў, але ўсе яны шчыра захоплены гэтай справай, — заўважае дырэктар. — Праца ткачыхі вельмі цяжкая, патрабуе шмат намаганняў. Таму не кожны з ахвотай сядзе за станок. Дарэчы, Яніна Паўлаўна вядзе яшчэ і гурток вязання. У нас няма такога, што майстар займаецца толькі адным рамяством, — звычайна ахоплівае некалькі кірункаў. Майстар Вольга Алексіевіч тчэ і вяжа бісерам, робіць вясельныя вянкі і лялькі, займаецца выцінанкай — і гэта не здзіўляе, бо яна яшчэ добра малюе і завочна вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў.

Алена Шкор займаецца саломкай, хаця болей як дваццаць гадоў працавала швачкай. Менавіта яна стварыла першую калекцыю касцюмаў, характэрных для Крупскага раёна. Строі XIX стагоддзя шыла ўручную, па тэхналогіі тых часоў — атрымаліся амаль аўтэнтычныя рэчы. Яе плеценыя саламяныя вырабы — вельмі акуратныя і прыгожыя. Алена Дзмітрыеўна займаецца і аплікацыяй з саломкі, вучыць гэтаму рамяству дзяцей, якія з вялікім задавальненнем наведваюць яе заняткі. І заўсёды ставяць перад сабою задачу: сёння прыйсці, абавязкова зрабіць нейкую рэч, а заўтра матулі падарыць.

— Ёсць у нас вышывальшчыца Лідзія Бялаўская, без якой мы не можам абысціся,— зазначае Таццяна Леанідаўна. — Ручнікі і фартушкі вышыты ўручную — гэта яе работа. Лідзія Андрэеўна валодае тэхнікай вышыўкі крыжыкам і гладдзю, нават калі вышывае па гатовых эскізах, усё роўна прыўносіць штосьці сваё, асабістае. Наша маладая супрацоўніца Вольга Салаўёва вельмі хутка асвоілася з саломкай. Мы прыкмецілі, што, як правіла, да нас прыходзяць тыя хлопчыкі і дзяўчынкі, у якіх маці



*Дырэктар Дома рамёстваў Таццяна Сухаплюева дэманструе свой выраб — льняную ляльку.*

чымсці займаюцца. Тыя ж, у каго дома не лунае дух творчасці, пяць-шэсць заняткаў наведаюць — і больш іх не бачна. Вось ходзіць Мілана Патаповіч, ёй усяго пяць гадоў. У яе маці вышывае. Калі дзеці захоплены нейкай творчасцю, гэта адразу адчуваецца па іх развіцці — яны ў лепшы бок адрозніваюцца ад сваіх аднагодкаў.

На будучы год супрацоўнікі ўстановы плануюць выстаўку лялек, выраблены у традыцыйным народным стылі. Ёсць задумкі стварыць сюжэтныя кампазіцыі. Пакуль спыніліся на тэме "Купальская ноч". Працуе пры Доме рамёстваў клуб самадзейных майстроў народнай творчасці "Таленты Крупшчыны", які носіць званне "народны". Гэтая суполка аб'ядноўвае 28 самадзейных майстроў, розных па ўзросце, прафесіях і кірунках творчай дзейнасці. Шэсць чалавек з'яўляюцца членамі Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, а Таццяна Белая ўдастоена ганаровага звання "Народны майстар Беларусі".

Супрацоўнікі Дома рамёстваў пастаянна рыхтуюць работы для ўдзелу ў абласных конкурсах. І перамагаюць! Прынамсі, Вольга Алексіевіч заняла першае месца ў намінацыі "За выдатнае засваенне традыцыйных тэхнік і тэхналогій стварэння касцюма" ў конкурсе па адраджэнні народнага касцюма, які праводзіўся ў Любані. Майстар Алена Шкор атрымала першае месца за лепшую выстаўку твораў падчас VI абласнога конкурсу саломапляцення "Саламяныя дзівосы" ў Нясвіжы. Яніна Мікульчык перамагла на абласным свяце-конкурсе ткацтва "Млечны шлях ад рук бабулі", які адбыўся ў вёсцы



*Гэтыя саламяныя дзівосы стварыла Алена Шкор.*

## З глыбінкі

### ЛІТАРАТУРНАЯ КРАІНА БЕЛЯЖЭНКІ

Творчая сустрэча з паэтам-юбілярам, членам Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Барысам Беляжэнкам прайшла ў Бачэйкаўскай школе Бешанковіцкага раёна.

Паэт, празаік, гумарыст, журналіст, грамадскі дзеяч — усё гэта пра Барыса Беляжэнку. Адкрыты твар, добрая ўсмешка, прыемны голас, жаданне падзяліцца жыццёвымі набыткамі.

У дзяцінстве паэт шмат чытаў, а потым пачаў складаць казкі і расказваць іх аднакласнікам. Пасля з'явіліся вершы. Друкавацца Барыс Паўлавіч пачаў з 1958 года. Выдаў зборнікі вершаў "Крыгалом" (1973), "Жытнёвае поле" (1977).

Сталеў пісьменнік, а разам з ім сталела і яго творчасць. У газеце "Віцебскі рабочы" публікуецца аповесць-дэтэктыў "Каляровыя фотакарткі", якая ў 1988 годзе была адзначана прэміяй Міністэрства ўнутраных спраў БССР.

Шмат гадоў Барыс Паўлавіч вывучае матэрыялы пра асобу Васіля Цяпінскага, прадаўжальніка справы Францыска Скарыны. Працягам гэтай працы стала аповесць "Тайна Тяпинского холма", якая пабачыла свет у часопісе "Нёман" (№ 9, 2011 год).

З-пад пяра мастака слова выйшла дванаццаць кніг, многія з іх адзначаны ганаровымі ўзнагародамі: за кнігу прозы "Крык у ціхай затоцы" (2007) аўтару было прысвоена званне Ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі, за кнігі "Сны і дарогі", "Волшебная мельница" уручана прэмія імя У. С. Караткевіча. Зборнікі "Успаміны майго асла" (2009), "Круги земные" (2010), "Затерянные путники" (2011) адзначаны рэспубліканскімі дыпломамі лаўрэата конкурсу на лепшую кнігу года падчас святкавання Дзён беларускага пісьменства.

Дарэчы, пісьменнік падараваў школе больш як дзясятак сваіх зборнікаў. А ў кабінеце беларускай мовы і літаратуры ёсць экспазіцыя, прысвечаная славутаму земляку. З году ў год яна папаўняецца цікавымі матэрыяламі.

**Любоў ШЧУКА,**
**Бешанковіцкі раён**

### З ПЕСНЯЙ ПА ЖЫЦЦІ

Дух творчасці зноў панаваў у гімназіі-каледжы мастацтваў Маладзечна — тут праходзіла творчая вечарына земляка, паэта-песенніка Канстанціна Цыбульскага.

К. Цыбульскі — аўтар пяці зборнікаў паэзіі і песень: "Ноч маладзіка", "Вецер эпохі", "Малітва і песня", "Силуэт в окне", "Мгновение над бездной", калектыўнага песеннага зборніка "Песню бярыце з сабою" і інш.

Яго вершы вельмі запатрабаваныя, многія пакладзены на музыку і сталі песнямі. Іх выконваюць В. Дайнека, М. Скорыкаў, У. Праваліінскі, М. Васілеўская, А. Сямёнаў, А. Ярмоленка і ансамбль "Сябры", Ф. Жыляк і ансамбль "Явар", В. Кірыленка, Т. Лазоўская і ансамблі "Бясяда", "Талака", Народны хор імя Цітовіча, паказальны аркестр МУС Беларусі, вакальная група "Рэй" і многія іншыя.

Яго вершы напоўнены тонкім густам, любоўю да роднага краю і незвычайным лірызмам. А аўтарскае выкананне настолькі артыстычнае, што, здаецца, глядач прысутнічае ў тэатры з мноствам акцёраў. Вельмі кранулі слухачоў творы "В океане любви", "Снова ангелы сыплют снега", "Выбор" і іншыя.

Канстанцін Цыбульскі заўсёды поўны новых праектаў і ідэй. Няхай яны спраўдзяцца.

**Алена МІСЕВІЧ,**
**г. Маладзечна**

## Афарызм

*Раз у цябе ёсць сіла, ты заўсёды знойдзеш спосаб жыць на свеце,*
*праб'еш сабе дарогу — што жывое, жывым і застанецца.*

**Якуб КОЛАС**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2715.
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 25.10.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4555
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12